# ЗЬМЕСТ




**а.Леў ГАРОШКА**

# ДУША

## Надзвычайная сіла

Каму даводзіцца аглядаць пажарышчы, або разбураныя паводкаю ці навальніцамі ваколіцы, заўсёды напрошваецца сказ: «Якія страшэнныя сілы, якія шалёныя стыхіі ёсьць у прыродзе!» Няма ніякае меры ні ліку, каб адзначыць гэтыя сілы, каб іх ацаніць хоць прыблізна, і ў параўнаньні да іх чалавек здаецца дробнаю бясьсільнаю істотаю. Аднак гэтая дробная істота — чалавек — стае да змаганьня з гэнымі сіламі і ў вялікай ступені менш або больш іх падпарадкоўвае і выкарыстоўвае сабе на службу: бурныя рэчкі чалавек заставіў круціць млынавыя і фабрычныя турбіны; вецер з посьвістам і злосьцю круціць розныя ветракі, а агонь суправаджае амаль усё жыцьцё чалавека — ён і грэе, ён і гатуе, ён і дабывае нязьлічаную энэргію для фабрыкаў і заводаў.

Наймацнейшыя і найдзічэйшыя жывёлы чалавек такжа змог упакарыць сабе, а колькі з іх сабе зусім асвоіў! Як пакорна і рахмана лашчацца перад чалавекам конь, карова, вярблюд і слон!

Чым жа чалавек змог гэта ўсё сабе падпарадкаваць? Чым змог адолець гэтыя сілы?

Не сваёю фізычнаю сілаю, бо яе ў чалавека параўнаўча замала, але сваім р о з у м а м!

Усе матэрыяльныя сілы маюць свае меры. Іх мераюць то на кілеграмамэтры, то на «конскія сілы». Кожная матэрыяльная рэч такжа можа быць памерана і зважана ці на кілеграмы, ці на мэтры. Тымчасам на розум няма ніякае меркі ні вагі. Кажуць: больш разумны, менш разумны, вельмі разумны, але гэтае «вельмі», таксама як «больш» і «менш», нічым не азначаецца. Бо розум належыць да тых субстанцыяў, якія ня маюць нічога матэрыяльнага, ён зьяўляецца адною з духовых сілаў нашае душы. Дзякуючы прысутнасьці гэтае сілы чалавек ёсьць чалавекам ува ўсёй сваёй велічы, магутнасьці і азначэньні, не зважаючы на сваю фізычную маленькасьць, зьнікомасьць.

Пазнаць сваю душу — значыць пазнаць самога сябе, а як жа жыць сябе ня ведаючы? Тым больш гэта патрэбна, што ёсьць ня мала подшаптаў з розных бакоў, якія выкарыстоўваюць усе цяжкасьці для пазнаньня духовае душы, каб зьвесьці чалавека на памылковы шлях. Таму ў гэтым кароценькім нарысе зьвернем асаблівую ўвагу на гэтыя цяжкасьці.

## Нябачныя сілы

Душа належыць да тых сілаў, якіх нельга бачыць, аднак у прыродзе ёсьць шмат, можа й вельмі шмат нават матэрыяльных сілаў, якіх нельга бачыць і беспасрэдна адчуваць іншымі нашымі змысламі, тымчасам яны існуюць, мы ў іх абяртаемся і нават не адчуваем, напр.: магнэтызм, гравітацыя, розныя патэнцыяльныя энэргіі, электрычнасьць і т.п. Вывучаюцца гэтыя сілы ў меру іх праяўленьня. Такжа й душа, хоць яе ня бачым вачыма, пазнаём розумам з яе дзейнасьці. Слаўны фізыялёг Фолькман Аль казаў: «Мы ня можам бачыць і намацаць сілаў, якія дзейнічаюць паводля пляну, але мы можам рабіць высноўкі аб іх існаваньні па выніках іх працы... Калі б у пустыні, дзе, паводля нашае думкі, не ступала людзкая нага, мы наткнуліся на будынак з чэсаных каменьняў і склееных вапнаю, дык нам стане зусім ясна, што яна рабілася з нейкаю мэтаю і паводля раней абдуманага пляну. Але арганічнае цела куды больш плянамернае, чым такая будыніна. Галоўную прычыну кожнага арганічнага развою я бачу ў валоданьні аднае разумнае сілы,

якая дзейнічае паводля азначанага пляну і каторая выбірае неабходныя для ўзьнікненьня ўмовы».

## Розныя ступені жыцьця

Жывых істотаў на зямлі цэлыя мільёны, але душу маюць толькі людзі. Ня трэба быць вялікім дасьледнікам прыроды, каб пабачыць, што ёсьць розныя ступені жыцьця.

Найпрасьцейшым (вэгэтатыўным) жыцьцём жывуць расьліны; яны толькі маюць перамену матэрыі — аджыўляюцца, павялічваюцца ў абыйме — растуць і размнажаюцца.

Жывёлы маюць усе азнакі расьліннага-вэгэтатыўнага жыцьця, але да тога яны 'шчэ могуць рухацца, адчуваць ды рэагаваць на вонкавыя падражненьні.

Чалавек мае ўсе азнакі абедзьвех папярэдніх ступеняў жыцьця, але да таго яшчэ разумовае, духовае жыцьцё.

Калі для выясьненьня расьліннага (вэгэтатыўнага) і жывёльнага жыцьця здавальняюча прызнаць у іх просты, але недуховы жыцьцёвы прынцып, дык для разумовага й духовага жыцьця неабходна нешта зусім адменнае ад матэрыі і шмат вышэйшае за яе — д у х о в у ю  д у ш у.

Што ж гэта такое — душа?

Душою называем самы ўнутраны носьбіт жыцьця чалавека, апошні і найглыбейшы прынцып быцьця й дзейнасьці — сілу, на моцы якое чалавек расьце, аджыўляецца, адчувае, хоча, думае і распазнае.

Навонках праяўляецца душа праз дзеяньне сілаў: розуму і вольнае волі.

## Душа і цела

У чалавека душа і цела так цесна зьвязаны з сабою, што іх разьдзяліць можа толькі сьмерць. Ані сама душа, ані тым больш самое цела, не становяць чалавека. Але былі раней і сёньня ёсьць нямала людзей, якія не прызнаюць душы зусім. Гэта будуць розныя матэрыялісты, якія агулам не прызнаюць існаваньня духу ў прыродзе. Для іх чалавек — гэта жывёла, толькі што больш разьвітая. Самое слова «душа» яны, што

праўда, ужываюць, але ў тым значэньні, што гэта ёсьць сукупнасьць дзеяньня нэрваў і мазгоў. Калі ж мы спытаем матэрыялістаў: «Хто кіруе працаю нэрваў і мазгоў?», дык пачуем адказ: «Яны самі ёсьць кіраўнікамі». Выходзіць, што спраўны радыёапарат, які мае беззаганныя лямпы, цэлыя правады, спраўныя кандэнсатары, мэмбрану, антэну і ўсе іншыя неабходныя часткі будзе дзейнічаць сам і кіраваць сабою, калі б нават ня дзейнічала ніводная надаўчая станцыя, калі б не было нідзе ніякага кіраўніка, што кіруе надаўчаю станцыяю.

У чалавеку такім нябачным кіраўніком разумовае дзейнасьці і мазгоў і нэрваў і ўсіх іншых органаў ёсьць душа.

## ДУША І МАЗГІ

Але матэрыялісты рознымі спосабамі стараюцца даказаць, што душа гэта нічога іншага, як мазгі.

Разглянем галаўнейшыя з іх «доказаў»:

**«Без мазгоў няма думаньня»**

Выхадным пунктам для матэрыялістаў ёсьць факт, што без мазгоў немагчымае думаньне. Адгэтуль робяць высновак: значыць мазгі прадуктуюць думку. Некаторыя для большае яснасьці дадаюць: «Як печань вытварае жоўць, так мазгі вытвараюць думку».

Запраўды, без мазгоў думаньне немагчымае, бо людзкая думка заўсёды патрабуе абразоў, абразы ж вытварае фантазія, а фантазія цесна зьвязана з змысловым адчуваньнем і мазгамі. Але ці ж можна з гэтага рабіць высновак, што мазгі вытвараюць думку? Дык жа ніводзін майстар на сьвеце ня робіць без прылады. «Без прылады й вераб'я не заб'еш», кажа беларуская прыказка. Ці бачыў хто калі такога музыканта, каб выканаў мэлёдыю бяз скрыпкі і смыка? Дык хто грае? Ці сама скрыпка, ці музыкант? Так, як скрыпка для музыкі, як прылада для майстра — патрэбны мазгі для душы.

Але гэта ня ўсё. Здавён-даўна заўважана, што тым органам, які найбольш розьніць чалавека ад жывёлаў, ёсьць мазгі, таму за ўсякую цану стараліся ў мазгох знайсьці нейкі фактар, які б вытвараў інтэлігэнцыю чалавека. Доўга ня думаючы, цьвердзілі, што інтэлігэнцыя залежыць ад велічыні, складкаў, формы і хэмічнага складу мазгоў. Так гаварылі раней, але факты паказалі іншае.

## Велічыня мазгоў

Запраўды чалавек параўнаўча да іншых жывёлаў мае больш мазгоў. Мазгі найбольш разьвітых чалавекападобнах малпаў не перавыжаюць 600 гр., а мазгі найменш разьвітага чалавека маюць больш за 1200 гр. Але з гэтага выходзіла б, што нават спаміж людзей, той, хто мае больш мазгоў, мусіў бы быць разумнейшым. У гэтым кірунку даўжэйшы час вяліся дакладныя досьледы, аднак вынік іх быў зусім непажаданы для матэрыялістаў, бо выявілася, што шмат выдатных людзей навукі мела запраўды мазгоў больш, але нямала было выдатных і вучоных людзей, якія мелі мазгоў менш, чым сярэдні чалавек. Вось некалькі фактаў:

Тургенеў, рас.пісьменьнік — 2020 гр.
Кулье, фр.прыродавед — 1830 гр.
Абэркромбі, англ.мэдык — 1730 гр.
Такэрэй, анг.пісьменьнік — 1660 гр.
Шпурцгайм, ням.мэдык — 1560 гр.
Дірішле, ням.матэматык — 1520 гр.
Вэбстэр, амэр.філялёг — 1520 гр.
Гэльмгольц, ням.філязоф — 1500 гр.
Гаўс, ням.матэматык — 1490 гр.
Брока, фр.хірург — 1484 гр.
Дюпюртэн, фр.хірург — 1440 гр.
Грот, анг.гісторык — 1403 гр.
Сярэдні эўрапеец мужч. — 1372 гр., жанч. — 1231.
Гамбэта, фр.палітык — 1315 гр.
Гэрман, англ.філялёг — 1260 гр.
Ляйбніц, ням. філязоф — 1257 гр.
Гаўсман, ням.хэмік — 1230 гр.
Дэлінгэр, ням.багаслоў — 1207 гр.

Ведамы мэдык праф.Рудольф Вагнэр важыў аж 964 людзкія мазгі і канчаткова прыйшоў да выснаўку, што самая вага не зьяўляецца ніякім паказчыкам людзкое інтэлігэнцыі, а на дадатак выдатны нэўралёг Лелю, на аснове свае доўгагадовае практыкі ў шпіталю для ўмыслова хворых, мусіў сьцьвердзіць, што там больш палавіны хворых маюць абыймо чэрапа больш за сярэдняе.

Гэтаксама хутка адпала другая «азнака інтэлігенцыі», якою, паводля матэрыялістаў, мелі быць прапарцыянальныя суадносіны

між мазгом і целам. Запраўды, у чалавека гэтыя адносіны ў сярэднім ёсьць 1:47, а ў вышэйшых чалавекападобных малпаў каля 1:100, а ў кіта 1:900. Але вось у Амэрыцы жыве невялічкая хвастатая малпа уістіті, у якое гэтыя адносіны большыя чым у чалавека, аднак яе ўсе ўважаюць найніжэйшаю з прыматаў. Таксама неадрэчы будзе заўважыць, што ў кажаноў гэтыя суадносіны большыя чым у сабакаў, а інтэлігэнцыя — наадварот.

## Хвалды мазгавое кары

Заўважыўшы, што мазгавая кара нармальна разьвітага чалавека мае густыя хвалды, а мазгі ідыётаў і крэтынаў азначаюцца малою колькасьцю гэтых, было пастаўлена цьверджаньне, што ў гусьціні мазговых хвалдаў ёсьць уся сутнасьць людзкое інтэлігэнцыі. Тымчасам глянуўшы на мазгі слана даводзіцца сьцьвердзіць, што ў іх ня менш хвалдаў, чымся ў чалавека. Не без значэньня ёсьць такжа той факт, што мазгі сабакі й каня амаль зусім пазбаўлены хвалдаў, хоць у ўмысловым разьвіцьці яны стаяць шмат вышэй за шматлікіх жывёлаў, у якіх мазгох гэткія хвалды ёсьць.

## Хэмічны склад мазгоў

Сьледам за Бальзакам некаторыя фізыялёгі казалі: «Чалавек будзе ідыёт, калі яго мазгі ня маюць фосфару; вар'ятам — калі маюць фосфару шмат; нармальным — калі маюць малавата; гэніем — калі мазгі насычаны фосфарам здавальняюча». З гэтага б выходзіла, што фосфар ёсьць галоўным дзейнікам інтэлігэнцыі. Тымчасам пазьнейшыя досьведы выявілі, што мазгі рыбаў маюць фосфару даволі шмат, але розуму ня вельмі. Да таго досьледы мазгоў вар'ятаў выявілі, што ў іх столькі сама фосфару, колькі і ў нармальнага чалавека.

Бясспрэчна, што розныя хэмічныя складнікі могуць быць большымі або меншымі штуршкамі да больш інтэнсыўнае ўмысловае працы, але не яны ёю кіруюць. Як бы сам хэмічны склад мозгу станавіў інтэлігэнцыю чалавека, тады лёгка было б высьледзіць гэты склад і адпаведным харчаваньнем вытварыць давольную колькасьць разумных людзей, гэніяў. Але рэчаіснасьць

сьведчыць аб чым іншым: што дурань і разумны кормяцца з аднаго стала і аднаго паўміска і гэта іх не зьмяняе.

Сьледам за др.Брока ад 1870 г. шматлікія лекары і фізыялёгі стараліся падзяліць увесь людзкі мозаг на розныя змыслова-пачуцьцёвыя і матарычныя (рухаючыя) цэнтры. У гэтым напрамку вяліся шматлікія досьледы. З году ў год расьлі дагадкі і схэмы падзелу, але адначасна расьлі й цяжкасьці. Запраўды ўдалося азначыць шмат матарычных цэнтраў, але дакладна іх разьмежаваць аніяк не ўдалося, але найбольш непрыемна для матэрыялістаў, што ня знойдзена ў мазгох ніякага цэнтру і мейсца для памяці; і сёньня мазгавыя хірургі і псыхалёгі аднагодны ў тым, што памяці нельга злёкалізаваць у ніводнай частцы мазгоў. Гэтым самым нельга азначыць цэнтру думаньня й суджаньня, а гэта ж найважнейшыя праявы разумовае дзейнасьці.

## Арганічныя пашкоджаньні мазгоў і псыхічныя закалоты

Здаўна ведама, што арганічныя пашкоджаньні мазгоў — большыя ці меншыя псыхічныя і разумовыя закалоты, дык матэрыялісты й робяць з гэтага выснавак: значыць мазгі й душа гэта тое самае.

Ці ж ня праўда? Калі музыканту даць паламаную скрыпку і на ёй парваць струны, хай жа на ёй тады заграе! Але ці з гэтага нехта зробіць выснавак, што няма музыкі, значыць няма й музыканта?

Мала таго, што гэты выснавак страшэнна недарэчны, але нават сам факт не заўсёды і не зусім праўдзівы, бо пашкоджаньне мазгоў выклікае ў некаторых выпадках забураньне толькі ў матарычных цэнтрах, не закранаючы самога думаньня. Часта здараюцца выпадкі, што арганічнае пашкоджаньне мазгоў выклікае ненармальнасьці ў гутарцы, пісаньні, руху некаторых органаў або і зусім унемагчымлівае іх, але зусім не выклікае замяшаньня ў думаньні, як аб гэтым сьцьвердзіў др.П.Морі, які даўжэйшы час займаўся гэткімі хворымі і вынікі свае працы апублікаваў друкам у 1939 г.

А ўжо зусім кладзе на лапаткі ўсякія выкруты матэрыялістаў факт, апублікаваны праф.І.Лермітам у 1937 г., з яго практыкі

над чатырма хворымі, якім было выразана па адной мазгавой паўкулі і пасьля гэтага хворыя не выказвалі ніякіх псыхічных замяшаньняў. Наадварот, адзін з іх, які да апэрацыі быў страціў мову, з прычыны вераду на левай мазгавой паўкулі, пасьля апэрацыі пачаў нармальна гаварыць, другі так добра сябе пачуваў, што выказваў лекару прылюдную падзяку.

## СУАДНОСІНЫ МІЖ МАЗГАМІ І ДУШОЮ

Вышэй пералічаныя факты здавальняюча ясна паказваюць, што нельга атаясамліваць душу з мазгом, як нельга атаясамліваць майстра з прыладаю, якою ён карыстаецца. Калі аднак для паясьненьня суадносін між душою і целам бяром гэты прыклад, дык адначасна трэба зрабіць засьцярогу, што між душою і мазгом, ці агулам целам, ёсьць больш цесны зьвязок, чым між майстрам і прыладаю. Ані сама душа, ані самое цела не зьяўляюцца чалавекам, толькі іхняе спалучэньне творыць чалавека. Да выкананьня сваіх туземных актаў душа ня толькі патрабуе цела, але яна ад яго залежная ў сваім дзеяньні. З гэтага зусім слушна вынікае, што чым дасканалейшым будзе цела, асабліва мазгі, тым лепш душа зможа выканаць сваю працу. Тут прыклад са скрыпачом і скрыпкаю добра гэта паказвае: чым лепшай будзе скрыпка, тым лепш музыкант зможа выканаць нейкую мэлёдыю.

### Думаньне і перамена матэрыі

Падчас думаньня ў мазгу адбываецца больш інтэнсыўная, як звычайна, перамена матэрыі. З гэтага факту матэрыялісты так жа стараліся зрабіць карысны для сябе выснавак, што думаньне ёсьць нейкім своеасаблівым матэрыяльным актам. Аднак думка ня мае нічога матэрыяльнага, а што да перамены матэрыі падчас думаньня, дык і падчас перасыланьня дэпэшы праз электрычныя правады ў гэтых правадох адбываецца адпаведная перамена матэрыі — рух дрыбінаў у дроце, па якім ідзе гэтая дэпэша, але самая дэпэша, яе зьмест не зьяўляецца адзіным вынікам дзейнасьці дроту, а інтэлігэнтнае істоты-тэлеграфіста, які таксама неабходны для наданьня дэпэшы, як душа для думаньня.

Перамена матэрыі суправаджае кожную арганічную дзейнасьць у арганізме, але з тою розьніцаю, што чыста арганічная ніжэйшая дзейнасьць адбываецца без удзелу нашае волі; мы яе нават ня бачым, а часта і ня ведаем аб ёй. Прыкладна: launched ператварэньне пажывы ў страўных органах; якія там адбываюцца працэсы і рэакцыі, кудэю і як праходзіць пажыва, пакуль стане складоваю часткаю арганізму, мала хто ведае, а калі й ведае, дык ня вельмі над гэтым задумоўваецца. Думаньне, наадварот, адбываецца зусім сьведама — арганічнае перамены матэрыі, якая адбываецца падчас думаньня мы нясьведамы, але сам працэс думаньня і разважаньня для кожнага чалавека заўсёды сьведамы.

### Перавага душы над целам

Калі кажацца, што душа залежыць ад цела, дык гэта зусім не гаворыцца, што душа падпарадкаваная целу. Праўда часта можна спаткаць людзей, у якіх душа на толькі падпарадкаваная целу, што й сьлядоў яе цяжка заўважыць, але гэта дзеецца тады, калі чалавек сам дапусьціць да гэтага. Аднак з прыроды рэчы душа з кожнага гледзішча пераважае над целам. Як зьмест напісанага сказу перавышае пяро й чэрню, якія іх пісалі, так душа перавышае мазгі.

## ДУША ПАНУЕ НАД ЦЕЛАМ

Душа ня толькі перавышае, ня толькі можа панаваць над целам, але запраўды над ім пануе, гаспадарыць над ім. Аб гэтым кожны можа пераканацца на сабе і на іншых.

Аб чым сьведчаць дабравольныя галадоўкі вязьняў? Аб чым сьведчыць пост аскетаў? Сьмяюцца часта з вялікіх вучоных, што яны вельмі забудзькаватыя, але аб чым гэта сьведчыць? Архімэд у абложаным горадзе так быў заняты канструкцыяю новае машыны, што ня чуў, калі ворагі здабылі горад, ня чуў, як да яго падбег чужы жаўнер з паднятым мечам, толькі як той наступіў нагою на яго намаляваны на пяску плян, вучоны азваўся: «Памалу, памалу, ня псуй мне пляну!»

Калі музыка-віртуоз захопіцца граньнем, дык хоць з гарматаў страляй каля яго, не пачуе. Падчас інтэнсыўнае

ўмысловае працы чалавек нават аб ежы забываецца. Што адбываецца тады ў арганізме, чаму тады змыслы перастаюць дзейнічаць? Ці можа самае цела забываецца аб сваіх патрэбах, калі над ім не пануе нехта мацнейшы?

## ВОЛЬНАЯ ВОЛЯ

Але маем нязьлічаную колькасьць прыкладаў, калі людзі выразна супрацьставяцца жаданьням змыслаў. Ці то ж цела можа само сабе супярэчыць? Раненаму хочацца піць, а яму кажуць: «Ні кроплі вады», і ён слухаецца. Ачуньваючы ад тыфу хоча есьці як воўк, а яму ледва на адзін зуб нешта дадуць перакусіць, і ён слухаецца. Перамучаны жаўнер хоча спаць, а яму кажуць вартаваць, і ён перамагае сон. Сьв.Пракопу ўкладаюць у руку кадзіла, упіхаюць руку ў агонь перад аўтаром ідала і кажуць: «Толькі расшчамі руку і высып кадзіла перад бажком, і будзеш паганінам». Гарыць жывое цела, шалёны боль праймае сьвятога, аблічча курчыцца ад спазмаў, але рука не расшчэмліваецца. Якая ж гэта сіла валадарыць целам? Нават у тых выпадках, калі чалавек робіць нешта з прымусу, заўсёды ён мае сьведамасьць, што ён мае магчымасьць выбару рабіць інакш. Калі ж з гэтае магчымасьці выбару часта не карыстае, дык гэта не азначае, што яе няма.

Матэрыялісты і ўсякае масьці бязбожнікі кажуць, што чалавек ува ўсіх учынках паводзіцца так, як ён узгадаваны і які на яго мае ўплыў асяродзьдзе. Але к чаму ж тады ўзгадаваньне, як няма вольнае волі? Зьвяроў як ні муштруюць, яны ўсё роўна астаюцца зьвярамі. Пакуль на іх глядзіць наглядчык, дык выконваюць тое, што вывучыліся ў муштры, а па-за тым зноў кіруюцца толькі сваімі інстынктамі. Асяродзьдзе на іх так жа ня мае ўплыву. Коні, каровы, сабакі, сьвіньні, каты ўжо цэлыя тысячагодзьдзі жывуць у асяродзьдзі чалавека, але ніякага поступу не выказваюць. Колькі гэта было крыку ў прэсе, калі малпа ў батанічным агародзе «дадумалася» падложанымі ёй каламі прыцягнуць да сябе бананы з кошыка. Але зачым жа гэткую «мудрую» малпу ў клетку саджаць? Навошта ёй бананы падрыхтоўваць, дзеля чаго прыносіць і прыладжваць калы? Няхай бы яна сама гэта зрабіла і замест сябе ў клетку таго майстра пасадзіла, тады запраўды відаць было б, што нечага навучылася.

Калі б чалавек ня меў свабоднае й вольнае волі, дык як выясьніць паводзіны самых матэрыялістых, бо няма ніводнага з іх, які б не прызнаваў дрэнных учынкаў, злачынаў і не караў за гэтыя ўчынкі.

Ад жа калі ў чалавеку няма вольнае волі, дык ён ня можа выбіраць, дык зашто яго судзіць? Ці судзілі калі воўка за тое, што зьеў авечку? А нават і ў бязбожных дзяржавах ёсьць суд і пакараньне, ды яшчэ якое!

У таталітарных дзяржавах і газэты, і школа, і радыё, і ўрад, і ўсякае ўзгадаваўчае асяродзьдзе толькі аднаго напрамку — дык адкуль жа зьяўляюцца там людзі, інакш думаючыя, калі няма вольнае волі?

Бесьпярэчна, чалавек бальшыню сваіх штодзённых учынкаў робіць мэханічна, па прывычцы; аднак калі зьяўляецца патрэба, каб вольная воля сказала сваё слова, тады яна выяўляецца.

Таксама ёсьць факт, што няшмат ёсьць выпадкаў, дзе вольная воля супрацiўляецца целу, але ня трэба забывацца, што супраціў целу вольнае волі раўназначны ўнутранай вайне: як у грамадзкім жыцьці супакойнае жыцьцё лічыцца на даўжэйшыя гады, чым вайна, так і супраціў волі да вымогаў цела магчыма менш шматлікі. Але ён ёсьць, і гэта самае важнае, бо ён зьяўляецца нязьбітым доказам, што ў чалавеку ёсьць нешта вышэйшае й магутнейшае за цела.

Выкананьне свайго абавязку і датрыманьне слова гонару нават паміж недаверкамі і нават коштам свайго жыцьця так жа вымоўна выяўляе аб існаваньні ў іх нечага мацнейшага за цела.

## СУМЛЕНЬНЕ

Не ад аднаго супраціўніка душы можна часам пачуць: «Калі ў нас ёсьць нейкая розная ад цела душа, дык чаму яна хоць раз не акажацца?» З вышэй пералічаных фактаў ясна, што душа аказваецца ня раз, але нязьлічаную колькасьць разоў, толькі што яе «голасу» слухаць ня хочуць, а прыпісваюць то мазгом, то нэрвам. Аднак здараюцца выпадкі, калі душа адзываеццца ў асаблівы спосаб і яе голасу да ніякага органу ў целе чалавека прыпісаць ня могуць. Гэткім асаблівым голасам душы ёсьць сумленьне. Калі нехта меў няшчасьце зрабіць дрэнны ўчынак, дык напэўна адчуў «як кошкі скрэбаюць за сэрца». Ня раз яны

аж замоцна скрабуць, але кіпцюроў іх знайсьці ў нашым целе нельга, бо яны нематэрыяльныя. Калі ж добрае зрабіў — адчуваў вялікую радасьць.

# ДУХОВАСЬЦЬ ДУШЫ

## ШТО ТАКОЕ ДУХ?

Аб тым, што ў чалавеку, акрамя цела, ёсьць яшчэ Нешта, мала хто пярэчыць, але ўся цяжкасьць і вага пытаньня вырынае тады, калі кажам, што гэнае Нешта — гэта духовая душа. Што гэнае нешта розьніцца ад цела, так жа самазразумела, але мы кажам, што душа істотна розьніцца ад цела, бо цела збудаванае з матэрыі, а душа з нейкае такое субстанцыі, што не падлягае ніякім даступным нам досьледам, тым ня менш яна такая ж канкрэтная, як нашыя думкі, як нашыя паняцьці. Хоць кожны з нас мае духовую душу, аднак цяжка нам уявіць самую духовасьць, бо мы ў штодзённым дзеяньні вельмі зжыліся з матэрыяю. Для выясьненьня можна толькі сказаць, што дух — гэта найпрасьцейшая, зусім нязложаная субстанцыя, ня маючая ніякіх матэрыяльных азнакаў.

Для лягчэйшага зразуменьня, што такое душа, затрымаймася хвіліну над нашаю думкаю. Яна не зьвязаная ні з мейсцам, ні з часам, ні з прасторам; зусім добра можам думаць аб вакольных здарэньнях і аб тым, што адбываецца на зорах; аб тым, што дзеецца цяпер і аб тым, што было сотні гадоў назад. Ані думку можна зважыць, ані яе памераць, ані панюхаць, ані пасмакаваць, ані яе пабачыць, бо няма думкі зялёнае ці жоўтае. Таму і дасьледаваць душу так, як дасьледуюць матэрыю, ёсьць недарэчнасьцю. Тым ня менш з лёгкае рукі фр.лекара Бруссэ часта раней можна было пачуць яго сказ: «Я ніколі не знайшоў душы на вастрыі майго скальпэля». Гэта бесьпярэчная праўда. Але калі аднойчы на бязбожніцкім мітынгу адзін з прапагандыстых заявіў, што лекары падчас вівісэкцыі перашукалі ўсё цела і душы не знайшлі, дык адзін з прысутных там навуковых працаўнікоў заявіў: «Я быў на сэкцыі мазгоў тав.Леніна; найслаўнейшыя прафэсары перашукалі ўсе мазгі і розуму там не знайшлі». Гэта яшчэ большая праўда, бо так розум, як і яго вытвары: паняцьці, суды, ідэі — ня маюць ніякае

матэрыяльнасьці, дык і знайсьці іх скальпэлем нельга, падобна як і самае душы.

Шмат менш недарэчным выглядала б стараньне праткнуць голкаю сонца, чым скальпэлем або нейкім іншым нажом знайсьці душу.

Бо ці трэба яшчэ гаварыць аб тым, што мазгі матэрыяльныя і яны заўсёды астаюцца ў галаве, а думкі, якія вытварае душа з помаччу гэтых жа мазгоў, то паўстаюць, то зьнікаюць, так што іх часта нават трудна, як то кажуць, злавіць.

## Думаньне і мова

Ды й ці агулам патрэбна шукаць скальпэлем або нейкім іншым долатам душы, калі яна праяўляецца сваімі сіламі: розумам і вольнаю воляю так ясна на вонках, што калі нехта ня хоча бачыць, дык хіба толькі той, хто, гледзячы на сонца здаровымі вачыма, сьвету ня бачыць.

Разумная істота можа думаць і сваю думку на вонках выказвае моваю, таму з усіх сатварэньняў на зямлі толькі чалавек можа гаварыць, а іншыя жывёлы, хоць і маюць зусім добра прыстасаваныя да мовы галасавыя струны, вусны, язык, аднак не гавораць, — бо ня думаюць, бо ня маюць аб чым гаварыць, бо ня маюць разумнае і духовае душы. Хто ня чуў папугаяў, як яны балбочуць людзкія словы? Шпакі, дразды і вароны такжа могуць вымаўляць некаторыя людзкія словы, але, як ні дзіўна, гаварыць, як гаворыць чалавек, яны ня маюць аб чым, бо ня думаюць. Толькі разумовая і духовая душа вытварае думку, а думка мову.

Усе стараньні знайсьці нейкую мову малпаў скончыліся нічым. Некаторыя дасьледнікі былі зарэгістравалі аж 70 малпячых «слоў», але самыя ж іх адкрыўцы ўканцы мусілі прызнаць іх за звычайныя гукі змысловае натуры да выказваньня: болю, задаваленьня, трывогі і т.п., якія ня маюць нічога супольнага з членаразьдзельнаю моваю людзей, а тым самым і з думаньнем.

## Агульныя паняцьці

Міма таго, што нашы думкі і нашы ідэі нематэрыяльныя, у іх рэальнасьці ніхто ня сумняваецца. Бесьпярэчна такжа, што



Багаслаўленьне Хрыста. Гравюра з кнігі «Прамудрасьць Божая». Вільня, 1518. Друкар Ф.Скарына

яны астаюцца недзе ў нас, але так жа бесьпярэчна, што яны ня маюць ніякае матэрыяльнасьці. Варта толькі прыглянуцца да першага лепшага агульнага паняцьця, каб у гэтым пераканацца. Прыкладна возьмем найпрасьцейшае і найагульнейшае паняцьце, дрэва, — яно ня кажа ні аб нейкай азначанай велічыні, ні колеру, ні ліку гальля ці лісьця, нават формы азначанае ня мае — аднак гэтае разумовае паняцьце існуе, і мы ім вельмі

добра і часта карыстаемся. У навуцы ёсьць цэлая безьліч гэткіх разумовых паняцьцяў, а такая сьціслая навука, як матэматыка, дык апіраецца амаль выключна на абстрактна-разумовых паняцьцях, пачынаючы ад матэматычнага пункту, а канчаючы на бесканечнасьці. Падобна фізыка і астраномія бяз гэткіх паняцьцяў не былі б навукамі, хоць гэтых паняцьцяў ані скальпэлем не абмацаеш, ані ў мікраскоп на іх не паглянеш, зусім так, як і на самую нашу душу.

## Сьведамасьць

Ня толькі нашы думкі, але самая наша сьведамасьць, самае нашае «я» пазбаўлена ўсякае матэрыяльнасьці. Найлепш гэта відаць з таго агульна ведамага факту, што нашае цела зьмяняецца штодня так, што праз якіх 7, а найбольш 8 гадоў не астаецца ніводнае часткі ні мяса, ні костак, ні мазгоў, якія б не зьмяніліся, але, не зважаючы на гэта, кожны з нас заўсёды гаворыць Я і ў дзяцінстве, і ў юнацтве, і ў старасьці — дык што ж асталося ў нашай сьведамасьці, калі за гэты час некалькі разоў мусіла зьмяніцца матэрыя нашага цела? Былі галасы некаторых матэрыялістаў, што адна каморачка, гінучы передае свае ўражаньні іншай, але калі пабачылі, што з гэтае дагадкі выходзіла б, што паасобныя каморачкі мусілі б быць разумнейшыя, як увесь чалавек, пакінулі гэткую думку. Шукаючы адказу ў дыялектычным матэрыялізьме, некаторыя пробавалі адгаворвацца пустымі словамі, што сьведамасьць ёсьць нейкім вытварам энэргіі, але і на гэтае пустое гавораньне самі ж матэрыялісты ў 1928 г. на зьезьдзе натуралістых у Ленінградзе з вуснаў Вэрнацкага мусілі пачуць, што «сьведамасьць і думка ня могуць быць зьведзены да энэргіі, ані да матэры». Ды яшчэ раней матэрыяліст Лянгэ ў сваёй «Гісторыі матэрыялізму» наткнуўся на гэтую цяжкасьць. Ён такжа знайшоў цэлы сьцяг пытаньняў без адказу: «Дзе ёсьць мейсца адчуваньня, калі прымаем атамы? Ці яно ў сувязі атамаў? Але тады яно дзесьці ў абстрактнасьці, гэта значыць аб'ектыўна нідзе. Ці яно ў руху? Але гэта было б тое самае. Можна толькі прыняць атам, які рухаецца, як мейсца ўспрыманьня адчуваньняў. Але як тады адчуваньні складаюцца разам у адну сьведамасьць? Ды дзе знаходзіцца гэтая апошняя? Ці ў адным адзіным атаме, ці зноў у абстракцыі,

або зусім у парожным прасторы, які, у сваю чаргу, мусіў бы быць не парожны, але напоўнены нейкаю матэрыяльнаю субстанцыяю...»

Адгэтуль ясны выснавак, што нашае «Я» — гэта нешта зусім рознае ад нашага цела і нематэрыяльнае, бо ў целе мы яго ня можам нідзе зьвязаць з якім-небудзь органам.

Да гэтага самага выснаўку вядзе нас застанова над нашымі ўспамінамі, якія ня могуць ляжаць у атамах, што заўсёды зьмяняюцца. Магчыма хіба дапусьціць, што яны ляжаць у адносінах складовых частак, бо ўсяго гэтыя адносіны трывалыя. Але што гэта такое, гэтыя думаючыя і ўспамінаючыя аб сабе адносіны? Гэта толькі гаворка, закрываючая нязнаньне матэрыялістаў.

У целе чалавека ёсьць больш трох мільярдаў каморачак, а сьведамасьць толькі адна. Хоць яна знаходзіцца ў целе, але, рэжучы цела на кавалкі, сьведамасьці, зусім не закранаем. Чалавек з паабразанымі рукамі й нагамі ані на валасок ня мае абрэзанае сьведамасьці, і гэта найясьней паказвае, што сьведамасьць ёсьць нечым зусім розным ад нашага цела.

## Непадзельнасьць «Я»

Асноўная азнака духа ёсьць яго непадзельнасьць. Гэтую азнаку мы знаходзім у нашай сьведамасьці й думках. Цела лёгка можна падзяліць на якія хочаш часткі, а сьведамасьць ніяк. Ужо філязоф Дэкарт казаў: «Я не магу ўявіць нейкае палавіны маіх магчымасьцяў: адчуваць, хацець, цяміць... бо няма частак у маім духу, але ўвесь мой дух адчувае, увесь хоча, увесь разважае... Мой дух, што думае, ёсьць абсалютна адным суцэльным і непадзельным. Калі ў нашым целе зьявіцца верад ці нараст, які нам далягае, дык яго можна выразаць, пазбыцца, але калі ў нашай памяці ці ў сумленьні зьявіцца нешта, што нас мучыць, дык нельга яго ані выразаць, ані вырваць. Колькі марокі прыносяць нам непрыемныя ўспаміны, але выкінуць іх з памяці няма сілы, бо наша памяць належыць да субстанцыяў нематэрыяльных і непадзельных — яна духовая».

## ПАХОДЖАНЬНЕ ДУШЫ

Адкуль жа бярэцца духовая душа ў чалавеку? Ці яе разам з целам даюць дзецям бацькі? Паводля адназгоднае навукі ўсіх хрысьціянскіх вучоных душу кожнаразова творыць Бог і дае чалавеку ў мамэнце яго зачацьця. Ня будзем тут пералічваць розных іншых тэорыяў і дагадкаў, бо беларускі народ і так ніколі не сумняваўся ў тым, што душа паходзіць ад Бога. Аб няздарах народная мудрасьць кажа: «Усадзіў Бог душу ні ў пень, ні ў грушу».

Але з гэтага вынікае, што чалавек ад мамэнту зачацьця, гэта значыць ад мамэнту злучэньня душы з целам, ёсьць поўнавартасным чалавекам, які мае права ўважаць Бога за свайго Айца Нябеснага і, дайшоўшы да мамэнту ўжываньня розуму, зьвяртацца да Яго: «Ойча наш, каторы ёсьць на небе!»

## АБРАЗ І ПАДАБЕНСТВА БОЖАЕ

У Сьвятым Пісаньні ёсьць сказ, што Бог сатварыў чалавека на свой абраз і падабенства (Быц.:1,26). Гэты абраз Божы ня ёсьць у целе, бо некаторыя жывёлы маюць цела ў шмат чым вельмі падобнае да людзкога, але ня маюць абразу Божага. Вось жа гэтае падабенства ёсьць у разумнай і духовай душы.

Бог ёсьць бесканечны, а ў чалавеку ўсяго дробненькая іскарка з Яго дасканаласьці, аднак яна запраўды выяўляе вельмі вымоўна сваё боскае паходжаньне. Бог ёсьць Створцам сусьвету, а чалавек, дзякуючы іскры Божай — сваёй разумнай душы — так жа безустанку памнажае свае творы культуры і цывілізацыі. Жывёлы, нават з высокаарганізаванымі інстынктамі астаюцца на адной ступені, ні на крок не ступаючы ўпярод, а чалавек амаль штодня вынаходзіць нешта новае, заўсёды нешта «творыць».

Як Бог у Сабе ёсьць самая Любоў, Праўда і Дабро, так дробная іскра Божая ў чалавеку вечна гоніць яго змагацца за праўду, шукаць любові і дабра. Колькі гэта каштуе цярпеньня, колькі ахвяраў! Аднак гэта не адстрашвае чалавека, бо ў гэтым бачыць сваё шчасьце. Блукаемся мы часта па розных звадлівых шляхох у гэтых пошуках; замест праўдзівага сьвету Праўды часта ўганяемся да змору за блуднымі вогнікамі, але шукаць

ніколі не перастаем. Калі ж ясна выявяцца нашы дрэнныя ўчынкі — саромеемся іх. Адзін чалавек з усіх Сатварэньняў на Зямлі мае пачуцьцё сарамязьлівасьці, бо адзін жа ён мае тую Божую іскру — душу.

## НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ ДУШЫ

### Аб чым нясьведама сьведчаць ворагі?

Магчыма, што не было б зусім праціўнікаў існаваньня душы, каб душа гінула з мамэнтам сьмерці чалавека. Аднак таму, што наглядна і лягічна з духовасьці душы вынікае яе несьмяротнасьць, тыя, каму гэта не на руку, шукаюць розных спосабаў пазбыцца гэтае непрыемнае для іх думкі; найчасьцей без ніякіх доказаў ні за, ані супраць — проста адкідаюць гэтую думку. Аднак хоць, як злодзей хоча, каб заўсёды была цёмная ноч, — сонца ўсходзіць і настае ясны дзень. Хоць як стараюцца людзі з нячыстым сумленьнем затыкаць прыглушаны голас гэтага ж сумленьня аб вечным існаваньні душы і голас розуму аб праўдзе гэтае думкі — запраўднасьці яны зьмяніць ня могуць, наадварот — гэты страх зьяўляецца адным доказам больш, што ён не дарэмны, а мае нейкую рэальную аснову.

### Душа не раскладаецца

Сьмерць жывога арганізму — гэта разлучэньне на састаўныя часткі. Фізычная сьмерць чалавека настае тады, калі душа разьдзяляецца з целам. Але як жа можа ўмерці сама душа, калі яна простая і ня мае ніякіх частак? Калі навучныя досьледы паказваюць, што матэрыя ў сваіх асноўных складніках незьнішчальная, дык тым больш незьнішчальная душа.

### Божая воля

Адзіная сіла, якая магла б зьнішчыць душу, ёсьць Бог, але якраз Бог выразна і шматразова вуснамі сваіх прарокаў і Сам Ісус Хрыстос аб'явіў людзям, што душа прызначана для жыцьця

вечнага. Усё Сьв.Пісаньне аднаазгодна сьведчыць аб гэтым. Уся навука Хрыста — гэта навука аб тым, як спасьці сваю душу для вечнага жыцьця.

Хто не чытаў Сьвятога Пісаньня, дык тую самую праўду мусіць вычытаць у прыродзе, дзе так жа выразна Божаю рукою выпісана на кожным камені і на кожнай пясчынцы, што раз створанага Бог не зьнішчае.

## Агульнае пераканаце

Людзі ў сваіх думках памыляюцца, аднак, калі аб нечым усе аднаазгодна пераканаць, дык з такою думкаю нельга не лічыцца. А думка аб несьмяротнасьці душы ад таго часу, як чалавек стаўся чалавекам, неадступна суправаджала ўсё жыцьцё чалавека. Толькі новая цывілізацыя нарадзіла недаверкаў у несьмяротнасьць душы, але і то параўнальна ня шмат захопліваючых некаторыя кругі.

Праўда, самую душу ўяўлялі заўсёды не аднолькава і яе пазагробнае жыцьцё такжа часам вельмі фантастычна, але не сумліваліся ў самае гэтае жыцьцё. Старыя курганы і розныя хаўтурныя абрады так даўней, як і сёньня ўва ўсіх народаў і плямёнаў сьведчаць аб гэтым аднаазгодна.

## Уроджанае жаданьне

Нават як бы сёньня была бальшыня недаверкаў, дык можна і трэба спасылацца на агульнае перакананьне людзей у несьмяротнасьць як на пераконваючы доказ, бо гэтае перакананьне не зьяўляецца творам фантазіі, як гэта стараюцца даказаць матэрыялісты, але яно ёсьць уроджаным жаданьнем чалавека. Калі ж усе нечага жадаюць з прыроды, дык ім, паводля праў тае ж прыроды, мусіць нешта адказваць канкрэтнае. Падобна як кожны інстынкт жывёлаў мае сваё апраўданьне ў нейкім канкрэтным прыродным зьявішчы, так людзкое жаданьне несьмяротнасьці мае сваё апраўданьне ў факце існаваньня пазагробнага жыцьця. Нават шматлікія матэрыялісты не могуць вызбыцца гэтага жаданьня і каб заспакоіць сваё сумленьне шукаюць гэтае несьмяротнасьці ў матэрыяльнай форме — у прадоўжаньні свайго роду.

## Вымогі справядлівасьці

У дачасным, земскім жыцьці чалавека дзееца столькі крыўдаў, столькі няпраўды, якія астаюцца непакаранымі, а з другога боку чэсныя і справядлівыя людзі часта мусяць пераносіць такую бяду і цярпеньні, што як бы за гэта ніколі не было справядлівае нагароды, жыцьцё было б пазбаўлена свайго сэнсу. Аднак дапусьціць гэткае думкі нельга нават з чыста разумовага гледзішча, бо ў прыродзе ўсюды мы бачым лад і парадак.

У Сьв.Пісаньні найпрыгажэйшы прыклад справядлівасьці знаходзім у прыпавесьці аб багачу і Лазару (Лук.:16,19-31). Баляваў багацей штодзённа, забыўшыся аб Божых прыказаньнях, крыўдзіў і зьдзекваўся з іншых, а над бедным Лазарам толькі сабакі літаваліся, залізваючы яго раны, але ня доўга гэта трывала — пасьля сьмерці палажэньне іх зьмянілася. Тады й адзываецца Аўраам да несправядлівага багацея: «Сыне! Прыпомні, што ў жыцьці тваім меў ты добрае, а Лазар благое; цяпер жа ён тут пацяшаецца, а ты церпіш вялікія мукі».

Пры гэтай нагодзе трэба абавязкова зрабіць засьцярогу, што самае прызнаньне загробнае нагароды за цярпеньні ў дачасным жыцьці зусім не звальняе чалавека ад змаганьня за справядлівасьць, наадварот, на кожнага накладае абавязак прымаць удзел у гэтым змаганьні. Але змаганьне — гэта яшчэ не самая справядлівасьць; ды ў змаганьні ўсяк здараецца, дык нагарода і за змаганьне, і за цярпеньне мусіць быць у іншым жыцьці.

Раней бязбожніцкая прапаганда казала: «Разумныя дурням аддалі неба, каб самым прастарней было жыць на зямлі», але сёньня мы бачым, што запраўды гэта бязбожнікі стараюцца адкінуць неба, каб самым безадказна жыць на зямлі. Аднак як чалавек бясьсільны супраць сьмерці, так ён ня ў стане зьмяніць тае справядлівасьці, якая чакае кожнага ў пазагробным жыцьці.

## РАТУЙ СВАЮ ДУШУ!

Практычным высноўкам з усяго вышэй сказанага мусіць быць вось гэты кліч: «Ратуй сваю душу! Бо душа гэта ня толькі найбольшы наш скарб, але й адзіны, які прызначаны для вечнага існаваньня. Усё дачаснае мінецца, усё калісьці пакінем, толькі адзіная душа з сваімі ўчынкамі пойдзе ў іншы сьвет».

Здаровы і поўны сілы чалавек вельмі часта забываецца аб гэтым найважнейшым абавязку свайго жыцьця, але ў часе немачы, калі вязі душы і цела слабеюць, калі душа пачынае судакранацца з тым іншым сьветам, тады зьяўляюцца розныя «прывіды» і «зданьні», якія абуджаюць прыспаны голас нават не аднаго закамянелага грэшніка, таму на ложу сьмерці вельмі часта навяртаюцца, але найчасьцей тады ўжо няма часу для направы свайго затрачанага жыцьця.

Таму вось гэтых некалькі думак прызначаны для таго, каб загадзя падбаць аб вечнасьці свае душы.

## Курганы

На Беларусі нямала ёсьць памятак мінулага, але магчыма найцікавейшымі з іх ёсьць стараветныя курганы. Хаваюць яны не адну гістарычную тайніцу, прамоўчваюць яны аб шмат чым, але аб найважнейшым яны сьведчаць безустанку. Таму дарма зьвяртаецца да іх паэт:

Гэй, спрадвечныя курганы
Даўных спраў вартаўнікі!
Эх, ня скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі.

Праўды не аб усім кажуць, але аб найважнейшай праўдзе жыцьця яны кожнаму крычма крычаць:

«Памятай аб сваёй душы. Для яе ратунку не шкадуй ніякага труду. Хоць горы трэба пераварочваць дзеля гэтага, дык выканаць гэта неабходна, а прыкладам у гэтым можам служыць табе мы — твае слаўныя продкі, якія для дабра душы насыпалі гэтыя курганы».

**Парыж, 1948**

*Лявон Случанін (Лявон Шпакоўскі) нарадзіўся ў 1916 г. на Случчыне. Пасьля заканчэньня менскага пэдінстытута працаваў настаўнікам. У 1937 г. быў арыштаваны і цудам выпушчаны ў 1939 г. Падчас вайны займаўся беларускім школьніцтвам і друкам на Случчыне, пісаў вершы, выдаў асобнай кніжкай паэму «Рагнеда». Пасьля вайны вярнуўся з Нямеччыны, быў асуджаны на 15 гадоў лягераў, дзесяць з якіх адбыў у Варкуце. Вярнуўся на Беларусь ужо пэнсыянэрам у 70-х гадох. Увесь час пісаў вершы, духоўна не скарыўшыся перад сваімі крыўдзіцелямі.*

*Паэма «Ісус Хрыстос» закончаная Лявонам Случанінам у 1984 г., калі сама тэма Бога ў творчасьці беларускіх пісьменьнікаў была забароненая, і пісаў ён не разьлічваючы на друк. Паэма зьяўляецца ня толькі літаратурным помнікам, але й помнікам грамадзянскай мужнасьці чалавека. Бальшавікі зрабілі ўсё, каб зьнішчыць яго, зламаць яму жыцьцё, растаптаць талент, ды ён выжыў і зысьніў свой хрысьціянскі чын.*

*Лявон Случанін не пісаў дыфірамбаў, якія б ўслаўлялі камуністаў, так як рабілі шмат хто ў той час. Ён зьвярнуўся да вечнай тэмы ў жыцьці чалавецтва — да жыцьця Езуса Хрыста, з якога і сам браў прыклад, ідучы па сваіх цярністых жыцьцёвых шляхох.*

*У паэме «Ісус Хрыстос» апісаныя падзеі з Новага Запавету. Мы друкуем частку паэмы, якая ахоплівае найбольш драматычныя моманты з жыцьця Збаўцы.*

## Лявон СЛУЧАНІН

# ІСУС ХРЫСТОС

### Урывак з паэмы

34

Да людзей прыйшоў Вялікдзень.
Сам Хрыстос яго адзначыў
разам з вучнямі сваімі
смачнай пасхай традыцыйнай.
Ён сказаў у час вячэры,
бяручы ласунак з блюда:
— Той прадасьць мяне злачынцам,
хто руку сваю са мною
апусьціў у блюда гэта.
Запытаў Іуда раптам:
— Ці не я? Скажы мне, Раві.
— Ты сказаў, — Ісус прамовіў.
Блаславіўшы хлеба бохан
і старанна разламаўшы
сьвежы бохан на кавалкі,
Ён раздаў кавалкі вучням
і задумліва зазначыў:
— Ешце. Гэта маё цела.
А затым, узяўшы чашу
і апосталам падаўшы,
Спас прамовіў уздыхнуўшы:
— Пеце. Кроў мая ў чашы,
што зьяўлялася заўсёды
кроўю новага завета
і лілася для збаўленьня
ад грахоў людзей аблудных.
Піць віно я больш ня буду

да пары той, покуль з вамі
новага віна ня вып'ю
у Айца нябесным царстве.

35

А пазьней крыху Збавіцель
на гары той Елявонскай,
палюбіў якую надта,
ціха гутурку прадоўжыў:
— Гавару вам: гэтай ноччу
ад мяне вам адрачыся.
Бо гаворыцца ў пісаньні:
зьнішчу пастыра спачатку,
і авечкі разьбягуцца.
А як толькі ўваскрэсну,
вас чакацьму ў Галілеі.
Верны Пётр сказаў Ісусу:
— Наш Збавіцель, я ніколі
ад цябе не адракуся!
— Гэтай ноччу, перад тым як
прасьпявае тройчы певень,
ад мяне ты адрачэшся, —
з пэўнасьцю Хрыстос зазначыў.
Гефсіманію нарэшце
падабраў ён для малітвы.
І, Пятра з сабою ўзяўшы,
і сыноў двух Завядзея,
аддаліўся ад астатніх
поўны горычы і смутку.
Там упаў Ён на калені
і маліўся утрапёна:
— Ойча мой! Калі магчыма,
хай мяне, твайго пасланца,
чаша гэтая мінуе.
А калі мне чашу гэту
трэба выпіць немінуча,

хай жа будзе Твая воля!
Тры разы Ісус маліўся,
а тым часам вучні спалі,
выключаючы Іуду,
што ўпотай адлучыўся.
Разбудзіўшы іх нарэшце
зморана Хрыстос прамовіў:
— Спачываеце вы ўсе тут.
А мяне у хуткім часе
прададуць у рукі грэшных.
Падымайцеся і пойдзем.
Прыбліжаецца прадажнік.

37

Сапраўды пачуўся гоман.
І натоўп з мячамі, кольлем
на чале з хрыстапрадаўцам
апынуўся перад імі.
Да Хрыста падбег Іуда
і сказаў, пацалаваўшы:
— Радуйся, любімы Раві!
Грэшнікі ўзялі Ісуса.
Тут ваяка, побач быўшы,
выняў меч і замахнуўся
на раба, што браў Ісуса,
і адсёк паганцу вуха.
А Ісус сказаў ваяку:
— Палажы свой меч на месца,
ад мяча загіне кожны,
хто яго узяў у рукі.
— На разбойніка як быццам, —
Ён затым сказаў народу, —
з доўгім кольлем і мячамі
выйшлі вы, забыўшы тое,
што сказаў я вам у храме.
Хай жа збудуцца пісаньні

пасланцоў Айцоў-прарокаў!
Тут апосталы Хрыстовы,
кінуўшы яго, пабеглі.
Толькі Пётр, мажны, пануры,
за Хрыстом паплёўся воддаль.

### 38

А Ісуса да Канафы, што
сьвяшчэньнікам быў першым,
прывялі, зьвязаўшы рукі.
Кніжнікі з сынедрыёнам
пачалі судзіць Ісуса,
не знаходзячы лжэсьведак.
Неўзабаве два знайшліся.
— Гаварыў Ісус, што можа
Божы храм зраўняць з зямлёю
і за тры дні зноў узьвесьці, —
так лжэсьведкі паказалі.
Не сказаў Хрыстос ні слова.
І тады сьвяшчэньнік першы
гучна вымавіў: — Скажы нам,
ці Хрыстос, ці Сын Ты Божы?
— Зараз бачыце вы Сына
чалавечага, што сядзе
скора ў Бога адзясную, —
адказаў Хрыстос рашуча.

### 39

— Ён блюзьнер! —
сьвяшчэньнік крыкнуў,
на сабе рвучы адзеньне. —
Бога яўна зьневажае.
— Дык нашто нам тыя сьведкі! —
судзьдзі злосна праранілі. —

Сьмерцю пакараць блюзьнера!
І расправа пачалася:
білі Спаса па абліччы,
зьняважалі, абражалі,
у распухлы твар плявалі
і з насьмешкаю пыталі:
— Хто цябе, скажы нам, выцяў?
Не крычаў Хрыстос, ня плакаў,
не адказваў на пытаньні,
не прасіў у іх спагады,
не стагнаў,
хоць боль нясьцерпны
апякаў душу і цела.
Толькі ў думках Ён маліўся.

40

Да Пятра, што на двары быў,
падышла адна служанка
і зласьліва запытала:
— Быў і ты, скажы, з Ісусам?
Пётр спалохана адрокся.
А калі з двара к варотам
Пётр з апаскай прабіраўся,
дык яшчэ адна жанчына,
як ён з ёю параўняўся,
голасна прагаварыла,
на яго навёўшы палец:
— Людзі добрыя, і гэты
быў з Ісусам Назарэем!
Зноў ён з клятваю адрокся,
апусьціўшы долу вочы.
І нарэшце супынілі
ля варот Пятра мужчыны.
— Ты з кампаніі Ісуса, —
грэшнікі яму сказалі, —
бо твая гаворка нават

сьведчыць, вырадак, аб гэтым.
І на гэты раз пакляўся,
што ня ведае Ісуса,
Пётр, зьнясілены пакутай.
Варт было яму замоўкнуць,
як імгненна дзесьці побач
засьпяваў гарласты певень.
Пётр Хрыстова прадказаньне,
пеўня чуючы, успомніў, і,
як толькі двор пакінуў,
горкімі сьлязьмі заліўся.

41

Раніцай яны Ісуса,
па руках зьвязаўшы моцна,
пад узброеным канвоем
прама к Понцію Пілату,
што правіцелем быў іхнім
і мясьціўся у палацы,
адмысловым, беласьнежным,
прывялі на суд рашучы.
Гэта бачачы, Іуда
(срэбнікі пяклі якога,
разьядаючы сумленьне),
досьвіткам у храм прыйшоўшы,
кінуў срэбнікі пад ногі
і прамовіў засмучона:
— Саграшыў я непамерна,
кроў нявінную прадаўшы.
Выйшаў з храма, памаліўся
і павесіўся на дрэве.

42

А Ісус Хрыстос тым часам
перад Понціем таміўся,

што у тозе пурпуровай,
з тварам смуглым і адкрытым,
з валасамі, быццам сажа,
ападаўшымі на плечы,
без патуг сядзеў у крэсьле,
пільна гледзячы на Спаса
задуменнымі вачыма.
Запытаў Хрыста правіцель:
— Праўда? Цар ты Іудзейскі?
— Ты сказаў, — адказ пачуўся.
— Чуў ты, колькі супраць сьведчаць?
Прамаўчаў Хрыстос, рашыўшы
не адказваць на пытаньні.
Чаму сам Пілат дзівіўся.

43

На Вялікдзень сам правіцель,
помнячы даўнейшы звычай
адпускаць народу вязьня,
пажадае той якога,
не дабіўшыся ні слова
ад Хрыста Ісуса болей,
знаючы, што фарысэі
з зайздрасьці яго прадалі,
запытаў натоўп гарачы,
фарысэямі падбіты
і рашуча пажадаўшы
на крыжы расьпяць ІСУСА:
— Дык, скажэце мне, Вараву
ці ІСУСА адпусьціць вам?
Закрычаў натоўп: — Вараву!
— Што з Хрыстом рабіць нявінным?
— Хай жа будзе ён распяты!
— Прычыніў якое зло ён?! —
выкрыкнуў Пілат з дакорам.
Паўтарыў натоўп што сілы:

— Хай жа будзе ён распяты!
Бачачы, што абразуміць
ашалелых немагчыма,
расхвалёваны правіцель
вымыў рукі і усклікнуў:
— Я ня буду вінаваты,
што пральецца неўзабаве
праведная кроў Ісуса.
Адпусьціў Пілат Вараву,
аднаго з траіх забойцаў.
А Ісуса, моцна зьбіўшы,
перадаў на пакараньне.

44

Тут жа воіны Пілата
павялі Хрыста ў прэторый,
дагала яго разьдзелі
і надзелі баграніцу.
Галаву яго пакрылі
карнікі вянком цярновым.
Палку у правую руку
далі зьбітаму Ісусу,
і, упаўшы на калені,
насьміхаліся з Ісуса,
вымаўляючы зларадна:
— Іудзейскі цар, будзь рады!
Задаволена плявалі
у ягоны твар апухлы,
па галоўцы палкай білі.
Насьмяяўшыся, надзелі
на Хрыста яго адзеньне
і сурова, пад канвоем
павялі на месца кары,
што Галгофай называлі,
шчыльнаю сьцяной якую
войска катаў акружыла.

**45**

А прывёўшы на Галгофу,
крыж цяжэзны укапалі,
што Сымон Карыніянін
прыцягнуў ім пад прымусам.
Карнікі Хрыста расьпялі,
да крыжа прыбіўшы рукі
велізарнымі цьвікамі,
туга ногі прывязаўшы
спэцыяльнаю валокай.
Поруч з ім такім жа чынам
двух забойцаў разапнулі.
Напаіць Хрыста хацелі
кіслым воцатам і жоўцю.
Разапнуўшыя Ісуса,
дзелячы яго адзеньне,
не адходзілі ад крыжа,
сьцераглі сваю ахвяру.
У Хрыста над галавою
дошчачку прымацавалі
з надпісам: Ісус ёсьць гэта,
цар так званы іудзейскі.
А праходзячыя міма
кніжнікі і фарысэі
час ад часу злосна кпілі:
— Ён на Бога спадзяваўся.
Хай цяпер яго пазбавіць,
калі Богу ён патрэбен.
Нездарма ж блюзьнер нахабны
сынам Божым называўся.
І разбойнікі, што побач
на крыжах былі расьпяты,
Спаса моцна абражалі.

**46**

А тым часам золь і цемра
да дзевятае ад шостай

знамянальнае гадзіны
над зямлёй запанавалі.
Тут Хрыстос, які дагэтуль
на крыжы маўчаў зацята,
апусьціўшы нізка голаў,
прамаўляць пачаў балюча:
— Ілі лама сафахвані?
Нашай мовай гэта значыць:
Божа мой, Ты на пакуту
для чаго мяне пакінуў?
Некаторыя з прысутных:
— Ілію заве, — казалі.
А другія гаварылі:
— Паглядзім, ці прыйдзе званы
ратаваць яго ад сьмерці.
Вартаўнік жа азьвярэлы
губку з воцатам кіёчкам
запіхнуў у рот Ісусу.
— Верую табе, Айцец мой! —
Ён з апошніх сіл усклікнуў
і зусім павіс, сканаўшы.

47

Тут Галгофа затраслася,
раскалолася каменьне.
І завеса на дзьве часткі
разарвалася у храме,
і раскрыліся магілы,
і сьвятых прарокаў многа
па тым часе уваскрэсла.
Варта, бачачы ўсё гэта,
напалохалася моцна
і прачула гаварыла:
— Сапраўды быў Сынам Божым
цар, дарэмна пакараны!

48

Вечарам прыйшоў к Пілату
чалавек з Арымафеі,
ведамы багач Іосіф,
што вучыўся у Ісуса.
Ён прасіў Пілата шчыра
пахаваць яму дазволіць
мёртвага Хрыста па-людзку.
Стомлены Пілат дазволіў.
Зьняў з крыжа Іосіф цела,
загарнуў у плашчаніцу,
да скалы занёс, дзе высек
целу зручную магілу,
палажыў на камень цела,
тры разы пацалаваўшы,
прываліў вялікі камень
да адтуліны магілы
і цішком дамоў падаўся.

49

Засталіся дзьве Марыі.
Магдалінаю адну з іх
у народзе называлі.
Сам Хрыстос яе нядаўна
вызваліў ад самасуду,
цьвёрда карнікам сказаўшы:
— Хто сябе бязгрэшным лічыць,
бі каменьнямі жанчыну!
Ні адзін з абвінаваўцаў
у яе ня кінуў камень.
Кожны з іх грашыў, напэўна?
З таго часу Магдаліна
пачала служыць Ісусу.
А назаўтра, у суботу,
карнікам Пілат дазволіў

вартаваць магілу Спаса,
што зьбіраўся уваскрэснуць.
Так забойцы і зрабілі,
апячатаўшы магілу.

50

А ў нядзелю на сьвітаньні
зноў зьявіліся Марыі
да Ісусавай магілы.
Варт было ім параўняцца
з той гарою, дзе Ісуса
пахаваў багач Іосіф,
як зямля пад іх нагамі
раптам моцна затраслася
і гара загрукатала.
То анёл, сышоўшы з неба,
ад дзьвярэй магілы Спаса
адваліў цяжэзны камень
і прысеў на ім, сказаўшы:
— Уставай, Хрыстос, Сын Божы!
Той устаў і невідомым
пасьпяшаўся ў Галілею.
Быў анёл, нібы маланка.
А ягонае адзеньне
белым сьнегам аддавала.
Варта карнікаў ад жаху
ўвачавідкі памярцьвела.
Да жанчын анёл прамовіў:
— Вы ня бойцеся. Я знаю:
вы шукаеце Ісуса,
што расьпялі фарысэі.
Тут яго няма, жанчыны.
Падыдзеце, паглядзеце
і апосталам скажэце,
што ўваскрэс вучыцель
з мёртвых,

сьмерцю ўласнай
сьмерць парушыў,
і чакае іх тым часам
без папроку ў Галілеі.

51

І панесьліся Марыі
з радасьцю і тайным страхам
выканаць наказ анёла.
Сам Хрыстос неспадзявана,
раптам вынікшы з туману,
затрымаў іх на дарозе.
— Радуйцеся! — Ён прамовіў.
Дзівам сьцятыя Марыі
пакланіліся Ісусу,
да Ягоных ног прыпаўшы.
Іх прасіў Хрыстос ажыўшы,
поўны велічы чароўнай,
каб яны ягоных вучняў
скіравалі ў Галілею,
дзе яны яго убачаць.
Просьбу ветлую Ісуса
дзьве Марыі не забылі.
Напаткаўшы ў полі вучняў,
наказалі ім пасьпешна
кіравацца ў Галілею.

52

На гару, дзе ён спыніўся,
Бога молячы каленна,
адзінаццаць верных вучняў
без затрымкі пасьпяшалі.
А убачыўшы Ісуса,
з непрытоеным зьдзіўленьнем

пакланіліся у пояс.
Некаторыя ж глядзелі
на Збавіцеля з сумненьнем.
Так зьмяніўся уваскрослы.
Ім сказаў Хрыстос разважна:
— І зямлёй, і небам чыстым
маю права я валодаць!
Вы ж таму, чаму вучыў вас,
навучэце ўсе народы,
хрысьцячы прачулым словам
у імя Айца і Сына,
у імя Сьвятога Духа.
Я ж нябачна да сканчэньня
веку, Богам дараваным,
неразлучна буду з вамі...
Спас, братоў благаславіўшы
і падняўшы ўгору рукі,
зьнік бясьсьледна.
Амэн.

*1984 г.*



# Učora - sionnia - zaŭtra

*Я прыехаў у Вішнева раньняй вясною. Паўсюль яшчэ ляжаў сьнег, адно асфальтаваная дарога была разьежджаная і ў каляінах стаяла сьнегавая каша. У ксяндзовай хаце нікога не застаў. І я пайшоў да касьцёла.*

*Вішнеўскі касьцёл заснаваны ў 1424 г. Вітаўтам, а ў 1637—41 гадох замест былога драўлянага Храбтовічы пабудавалі мураваны. Стаіць ён амаль на ўскрайку Вішнева, а ня ў цэнтры, як гэта часьцей бывае у нашых мястэчках. Каталіцкія могілкі — на другім баку Вішнева, і памерлых з касьцёла, як бы на разьвітаньне з усімі, вязуць з аднаго канца мястэчка ў другі.*

*І сустрэў мяне на падыходзе да касьцёла пахавальны звон. Гулі касьцельныя званы. Я пачакаў крыху, пакуль нябожчыка занясуць у касьцёл, спрабуючы сфатаграфаваць бажніцу з боку дарогі. Але на марозе фотаапарат не хацеў працаваць, і, пакінуўшы гэтую марную справу, я пашыбаваў на цьвінтар.*

*Труна з нябожчыкам ужо стаяла пасярэдзіне касьцёла. Яна была зробленая з абгабляваных і зьлёгку абпаленых дошчак. Зьверху паклалі крыж, а людзі расьселіся па абодва бакі ў сьветлым і халодным касьцеле. З закрыстыі выйшаў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі, у валёнках і рукавіцах, у арнаце паверх паліта. Адправіў дзяцей у закрыстыю, добразычліва махаючы рукамі: «Чаго расьселіся, як вароны, ідзіце грэйцеся!» І пайшоў да спавядальніцы, шоргаючы галёшамі, спавядаць. Яму ўжо 77.*

*Па споведзі, якую добрасумленна цягнулі і ксёндз і вернікі, не зважаючы на халадэчу, пачалася імша. Ад людзкіх ратоў завівалася ўгору густая пара. Маё цела паступова нямела, але*

*я чамусьці ня надта пераймаўся. Было так добра слухаць ксяндза-ахвярніка, ксяндза-беларуса, жывую легенду нашага каталіцкага руху — дзякуючы гэтаму чалавеку не перапынілася традыцыя беларускага Адраджэньня.*

*Голас ягоны электрызаваў вялізную прастору касьцёла, сьветлы аб'ём якога нагадваў мне халодны сусьвет. А душа была спакойнай, сьцішанай і даверлівай, як малое ягнё на зялёным мурагу пад промнямі летняга сонца. І любая абраза ня скрыўдзіла б мяне, я толькі пасьміхнуўся б у адказ.*

*Я ўзгадаў свой стан дзесяць гадоў таму, калі ўпершыню пачуў беларускую імшу тут, у Вішневе. Які цуд! Гнаная камуністамі і пагарджаная сваім затлумленым народам, родная мова годна і лёгка лілася з вуснаў ксяндза, які ведаў яе вартасьць і не саступіў, не адмовіўся ад яе. Ягоную ўпартую шматгадовую працу над перакладам Бібліі ў тыя цёмрашальскія гады можна сьмела назваць духоўным і грамадзянскім подзьвігам. Дзень за днём, год за годам, вось ужо некалькі дзесяцігодзьдзяў ксёндз Уладзіслаў адзін на Беларусі трымаў на сабе цяжар беларускай каталіцкай традыцыі, толькі ў апошнія гады часткова перадаўшы яе маладзейшым. Без яго мы, беларусы-каталікі, займаліся б рэканструкцыяй, а з ім — растаўрацыяй. І дзякуй за гэта Богу.*

*Імша прайшла да канца без скаротаў. Твары прысутных набылі пераважна пунсовыя калёры. Труну са стала паклалі на насілы і панесьлі на двор да машыны. Выйшлі, укленчыўшы на стылай падлозе, людзі, пырхнулі, як вераб'і, з закрыстыі праз увесь касьцёл дзеці, і я пацягнуўся туды, усьлед за ксяндзом.*

*Мы павіталіся, я нагадаў пра сябе, ксёндз Уладзіслаў прытуліўся да маёй халоднай шчакі сваёю шчакою і, папрасіўшы пачакаць, пайшоў упраўляцца, тупаць па касьцеле. У закрыстыі было цяплей. Пара ад дыху ледзь заўважалася. Я чуў, як ксёндз аддаваў якіясь распараджэньні закрыстыяніну, той нешта адказваў, шоргаючы венікам па кіліме перад аўтаром.*

*За вакном на арабінку ўселася чародка пухнатых птушак з чырвонымі грудкамі. Мабыць, гэта былі гілі. Яны, бачна, абмяркоўвалі свой адлёт на поўнач, бо ўжо станавілася для іх занадта цёпла. У адрозьненьне ад птушак мы мусілі заставацца на гэтай сваёй зямлі і спрабаваць разабрацца ў сваіх праблемах. Пэўна, што і я прыехаў да ксяндза Уладзіслава Чарняўскага са спадзяваньнем даведацца пра нешта карыснае для ўсіх нас.*

*Урэшце мы выйшлі з касьцёла і пайшлі да ксяндзовай хаты пагутарыць, па дарозе купіўшы хлеба, каб падсілкавацца.*

# Кс.Уладзіслаў Чарняўскі: «Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове»

Радзіўся я ў 1916 годзе 14 студзеня, у вайну. Але радзіўся ня дома, а каля Гальшан у Амбружыне, засьценак такі. Бо ў нашай вёсцы Біцяняты стаялі немцы. Я так думаю, што можа Бацяняты былі, а потым Біцяняты зрабіліся, бо побач, можа кілямэтры за два, былі Арляняты.

У бацькоў я нарадзіўся ўжо як адзінаццатае дзіця, з другой роднай маткі. З першае бо маткі было пяцёра дзяцей: Валюсь (у Амэрыцы, аб якім, ужо як помню, ня меў весткі), Алімпа, Аміля, Бранілава і Марыля. З другой бацькавай жонкі, роднай мамы, было нас сямёра: Ясь, Юзя, Стась, Фэлька, Віктар, я — Уладзіслаў, і Эдзя (у Канадзе — невядома, ці жывы).

Калі нас выгналі, мы жылі каля Гальшан, у сваякоў па маме, у Макеяў, і мама з Макеяў была. Мы там пражылі тры гады, я там нарадзіўся. Потым немцы выйшлі з нашай вёскі, і мы вярнуліся.

Прыпамінаю з Біцянят сваю хату на два канцы, жылі толькі ў адным, другі канец быў кладоўкай; камору з куфрам, дзе мама хавала сувоі палатна, грошы і другія багацьці, мёд у бутэльцы, што мы часам саломкай цягалі, каштавалі...

Час быў цяжкі, галодны. Сабіралі траву з шышачкамі і ўмешвалі ў муку ці бульбу і пяклі ляпёшкі.

У гэты час цяжка хварэў на крываўку. Быў безнадзейны. Адныя косьці. Выносілі на двор, бараніўся ад мух. Ужо ня ў памяці, расказвалі, што кс.Францішак Чарняўскі, каторы нас наведваў, жартаваў тады з мяне: «А цяпер лаві мухі і закусвай». Прыпамінаю, што маці была палажыўшы нейкую ахвяру за абраз за маё здароўе. Быццам у крываўцы было забаронена есьці капусту, а казалі: хай есьць, бо ўсё роўна памрэ. Аднак з волі Божай я не памёр, але малакроўе адчуваў доўгі час.

***— Вашы бацькі былі каталікамі?***

— Так. Бацькі былі простыя, вясковыя. Старэйшыя сёстры служылі, а астатнія былі ў хаце. Як зьбярэцца сямейка — каля дванаццаці асобаў. Галоднымі можа не былі.

Зусім малым калі быў, помню, кніжку рабіў, газэты выразаў і рабіў кніжку. Ужо тады мяне зацікавіла кніжка.

Потым у чатыры гады, помню, як палякі былі. Сыр і масла шукалі. Як улезуць да маткі — усё ачысьцяць, да чаго дабяруцца. А як бальшавікі адступалі: «Бабушка, картошкі, картошкі!» — так сьціпла прасілі. І самалёты ўжо былі. Гэта — нячыстая сіла, казалі.

Быў у нас сад за хатай, некалькі яблыняў: антонаўка, салодкая антонаўка і інш. Ад вуліцы хлеў з каморай, дзе ссыпалі бульбу і гародніну, і канюшня ламанкай да хаты, дзе стаялі коні. З левага боку ад іх знаходзіўся сьвіран, куды ссыпалі збожжа і другія прадметы хатняга ўжытку. Побач сьвірна, бліжэй хаты — аўчарнік, дзе памяшчалі авец, і паветка. За садам, пад рэчку, стаяла гумно з прыгуменцам і пляц перад ім — гумнішча. За гумном аж да рэчкі — аселіца, мокрая сенажатка.

У нас многа дзяцей было. Я калі сьвіньні пасьвіў, калі каровы над рэчкаю. І помню неяк пайшлі з братам першы раз стронгі лавіць. Такая халодная вада ў Беражанцы была! Ён вудачку закінуў, злавіў там нешта такое, а я ўзяў і адразу стронгу выцягнуў і стаў рыбаком. Ведаў на два кілямэтры, дзе якая рыба жыве. І многа лавілі, з сеткаю хадзілі, восеньню бучы рабіў, і стронгі вялікія траплялiся, з мора, гаркушкі таксама. Яшчэ як быў ледавік, гэтая рыба засталася. Дык вось, рыбак быў прырыбак.

Рэчка для мяне, хіба і для другіх, была нечым асаблівым. Называлася Беражанкай. Так як з вёскай, з людзьмі, так, а можа яшчэ шчырэй, бліжэй, быў я зжыўшыся з рэчкаю. Сабіраўся аб ёй і паэзыю пісаць і не сабраўся. Калі паехаў вучыцца ў Друю, адарваўся, думаў, што ня вытраваю, уцяку, вярнуся да яе, сьніў сны аб ёй, тужыў за ёй, як за нечым блізкім і дарагім.

Чаму? Бо хоць невялікай, а прыгожай у той час была. Берагі яе вольхамі, чарэмхамі і другімі дрэвамі,

кустамі — лазой, смародзінамі, парэчкамі — зарослыя былі. Месцамі глыбокая была, падходы, карэньні дрэў тырчалі ў вадзе, дзе рыба хавалася і разводзілася. Выгнаць яе з-пад такіх падходаў, карчоў і берагоў глыбокіх нялёгка давалася. Толькі восеньню ў нераст стронгі выходзілі адтуль. Вада была халодная: з крыніц-мачулаў і з балотаў выцякала. Пакупаешся, аж страсяне, толькі ў сьпякоту саграваласяі то ня лішне.

Успомніў мачулы. У іх мачылі каноплі, як дзе і рыба вялася. А вясной што там рабілася! Крэкту жаб і рэхату турчакоў у цёплы маёвы вечар, у цёплую ночку не наслухацца, не нацешыцца. А птушыныя песьні! А цёпла ў той час маленства бывала. Вясна, паводка, вада ў рэчцы бушуе, шуміць. Мы, дзеці, — босыя па халоднай яшчэ зямлі, дзе і сьнег, — бегаем каля рэчкі, кідаем паленьні, каторыя прэ шалёная вада, пазаліваўшы аселіцы, груды. Колькі было нам радасьці! А потым жанчыны беляць палатно. Стукат пранікаў, гоман каля рэчкі, песьні, крыкі, расьсьцілаюць, расьцягваюць ручнікі, сувоі. А вада ўжо ціхая, бурліць, журчыць па каменьчыках. Сядзім на кладцы, спусьціўшы ногі ў ваду, зачараваныя бурленьнем рэчкі і сьпевам птушак, салаўёў. Рыба плюскае, выскаквае з вады па мушкамі. Вечар ціхі, як зачараваны.

Хадзіў перш у школу ў Арляняты, а потым у Вішнёўку, кілямэтры а можа, за два ці болей.

— ***А зямлі Вашая сям'я колькі мела?***

— Дзесяцін, можа, дзесяць ці дванаццаць. Адным словам, з голаду не ўміралі. Бліноў напякуць, прысмакаў там якіх, галоднымі не былі, працавалі.

Хата наша была простая, вясковая, з сенцамі і бакоўкай. Старая. Ложкаў, здаецца, было тры: адзін у хаце і два ў бакоўцы. Сям'я ж вялікая, дык хто спаў у ложку па двух, а іншыя на печы, на палку. Абразы на куце. Простыя лавы каля сьценаў. Падлога. О, як чысьцілі падлогу, і лавы, і хату на Вялікдзень! На Сёмуху затыкалі галінкі пад столь...

Пры стале на два канцы такая ж сямейка! У асноўным стравы: буракі, капуста і крупнік. Сярэдняе: бульба, каша, мачанка і бліны, скваркі; рэдка мяса.

Нядзеляй найчасьцей бліны. А вялікай трэба было гурбы на трынаццаць жыватоў! Елі часам гарачыя, змазаныя лоем.

Работы без канца на полі і дома. Ядзеля кволасьці менш рабіў. Было старэйшых.

У Вішнёўцы скончыў чатыры клясы. Прыехаў доктар з Крэва правяраць, і я аказаўся першым вучнем. Сказаў удома ён бацьку: «Хай вучыцца далей». Бацька напісаў заяву, на каня пасадзіў босага, даў грошы, каб мог што купіць, і завёз у гімназыю ў Ашмяны. У 30-ым годзе хіба. Потым восень прыйшла, матка памёрла, бацька раздумаўся і вырашыў мяне не пасылаць.

У Ашмянах складалі экзаміны. Злажыў добра. Лепш за панскіх дзяцей, бо быў абчытаны. Але восеняй бацька раздумаўся і не пусьціў вучыцца: дарага кватэру наймаць, не хапала сродкаў на утрыманьне. Я гэта цяжка перажываў...

Маці хварэла, бедная, тры гады. Хацела яна, ня ведаю чаму, каб я быў ксяндзом. І агулам, хіба, што быў я спакайнешы за другіх, уважнейшы — называлі мяне ў вёсцы ксяндзочкам. Нейкае прадчуцьцё.

Пасьля таго, як не атрымалася ў Ашмянах, правучыўся год у Крэве ў пятым клясе, а тады з пятага перайшоў у настаўніцкую сэмінарыю ў Баруны. Там павучыўся два гады. Цікава было вучыцца, такія кепуркі-"баторувкі" былі. Але жыў з куфэрка, еў, што меў у куфэрку, і папсаваў жывот. І другія хлопцы, многа такіх было. Самі сталаваліся, гарачае варылі толькі зімою. Каторыя мелі грошы, жылі ў інтэрнаце, але для мене гэта дарагавата было. Мы жылі ў барунскіх мурах.

У 1933 г. настаўніцкую сэмінарыю закрылі, дык я ў лятнічую школу хацеў пісаць, у Быдгошч. Але потым пісьмо дзядзьку ў Францыю напісаў і прыйшоў адказ. Ксёндз Чарняўскі параіў — у Друю.

Ад вёскі адвык. Калі па двух гадох вучобы ў Барунах закрылі ў 1933 г. настаўніцкую сэмінарыю, а паступіць вучыцца беднаму не было за што, вось тады з вудачкай і кніжкай ішоў на рэчку. Бывае, укруціцца леска ў карэньні або сукі, трэба падкасвацца, лезьці ў ваду або сьцягваць з сука.

Цяпер рэчка зьмялела, ручаёк. Рыбы як і няма.

Лясоў каля нас блізка вялікіх не было. Найбліжэйшы — Яляга — за выганам і пад Крэва, каля Чухнаў — Белягі. А так свае бярэзьнікі. Тады блізу кожны гаспадар меў свой бярэзьнік. Гадаваў сваё дрэва і паліць, і на пабудову...

Помніцца добра лясок Яляга. Цяпер там васьмігадовая школа, пляц школьны і зарасьнікі. Тады ж расьлі ёлкі, пахнучыя ў сухую пагоду, ягаднік: чарніцы, брусьніцы і высокія жоўтыя астры, іншая зелень. Баравікі ў той час добра расьлі, па бярэзьніках падасіньнікі, чашчавікі, сыраежкі. Равы паваенныя, гушчары, а пах у сьпякоту — аж млосна рабілася. На старасьць і нос ня чуткі...

... Кідаўся і туды і сюды, але паступіць дзе без грошы было немагчыма. Гэта я цяжка перажываў, хоць у зямлю лезь жывы. Год так прапусьціў. Лавіў улетку рыбу, сабіраліся аднагодкі, гулялі ў пікера, качалі кацёлку, гулялі ў карты, у запалкі, снавалі. Міма таго я чуўся адзінокім, нешчасьлівым, часам і ня жыць рашаўся, смуткаваў. Чытаў ліхія і добрыя кніжкі, рыбаваў. Прасіў Бога памагчы. Памагло мне вельмі прачытаньне жыцьця сьвятой малой Тэрэзкі. Перажываў вельмі, як перавозілі праз вёску нябожчыка і чуўся плач і галашэньне з магільніка. Нейкі сум у душы, адчужэньне ад людзей. Біліся ў той час страшна па вёсках, забівалі. Відзеў хлапцоў у крыві, пакалечаных; нянавісьць, помста. Гэта ўсё тым больш абрыджала жыцьцё, што часам не хацелася жыць, такім усё жыцьцё ўяўлялася пустым, паганым.

***— Ксёнжа, скажыце, як касьцёл уваходзіў у Вашае жыцьцё?***

— Ведаеце, як быў маленькі, дык некалі хадзіў да касьцёла, калі не хадзіў. Па-featureрознаму.

***— Ойча, як у тыя гады Вы ўспрымалі беларускі і польскі моманты?***

— Бачыце, тады было так: мы ў хаце па-беларуску гаварылі, а ў школе па-польску, дык памылкі рабілі.

Хадзіў у школу, лапці былі такія са скуры, потым хадзілі ў дзеравяшках, скурай паабіваных. Прыйдзеш да хаты, дык ногі павыкручвае.

Для мяне было не вучыцца — ня жыць. Так мяне ў навуку цягнула. Прыходжу са школы і чакаю, каб скарэй у школу. Я больш так ніколі не вучыўся. Браты не хацелі вучыцца, а ў мяне — толькі школа. Часам яны ня хочуць у школу ісьці, а я іду. Яны хоць злуюцца, але таксама ідуць. Мы ўсё па-беларуску гаварылі, ці якія песьні ці там што — усё па-беларуску. З тых гадоў засталося ў памяці — ужо арганізоўвалі беларускія школы. Браты мае ў такую хадзілі крышку, там чырвоная папера была. З тых часоў помню такі верш:

Пад сярпом крывым маім
Жыта хутка жнецца.
Сноп за снопам у радок
Покладам кладзецца.

Яшчэ як я быў у школу хадзіў, вучыў гэты верш, і ён у мяне ў памяці застаўся. Нейкі час там была беларуская школа. І помню там такі Міхайлавіч быў.

***— Гэта ў Вішнёўцы было?***

— Ня помню. Можа ў Біцянятах. Я хадзіў крыху ў беларускую школу, нейкія пачаткі былі, а потым ужо стала па-польску.

***— Ці было ў вашай вёсцы што-небудзь ад Грамады, беларускага палітычнага руху?***

— У нас у вёсцы былі такія, хто належаў да гэтага. Помню Міхала Шумінскага. Яшчэ, мусіць, жыве, ужо пад дзевяноста гадоў мае. Яго паляки перасьледавалі потым. Ён выпісваў беларускую газэту з Вільні, і я часам дападаў да гэтага. Ну, і Адама Станкевіча ўжо быў блеск.

***— Дык Вы яшчэ тады ведалі Адама Станкевіча?!***

— Мы часам кароў пасьвілі пад іхняй вёскай. Ён праходзіў, нават была гаворка пра беларусоў. І ксёндз Францішак Чарняўскі па-беларуску пісаў да нас.

Калі меў ужо адзінаццаць гадоў і пазьней, помніцца, бывала, калі правязуць праз вёску нябожчыка. Асаблівае ўражаньне пакінула памёршая маладая суседка, а пасьля маці. Так цяжка бывала на душы, што хоць сам лезь у зямлю. Што гэта, здавалася, за жыцьцё. Па матцы млеў і цяжка перажываў, застаўшыся ў дванаццаць гадоў сіратой. Праз пяць гадоў і бацька

памёр, калі я вучыўся ў кляштары ў Друі. Браты і не наказалі, не паведамілі. А я дык у сэрцы адчуваў тую хвіліну. Калі бацька прывёз мяне апошні раз у Солы на цягнік, абодва мы плакалі, як ніколі раней. Сэрцы адчувалі, што гэта на вечнае разьвітаньне на зямлі.

У 1934 годзе я паехаў у Друю і быў там чатыры гады, вучыўся. Як прыехаў, там ўсё было па-польску. Гімназыя была польская. Раней, да 1928 ці 1929-га году, казаньні ў ёй гаварылі па-беларуску, а пасьля забаранілі. Выкладалі ў гімназыі па-польску, але між сабою мы гаварылі па-беларуску. Баяліся правакацыяў. За намі назіралі шпіёны. Там быў айцец Віталі Хамёнак, пазьней памёр у Польшчы, яны ў кляштары сталі хлопцам чытаньні па-польску і па-беларуску гаварыць, і малітвы таксама. Быў востраў на Дзьвіне, мусіць, якіх трыццаць гэктараў, дык жартавалі — Беларуская Рэспубліка. Мы купаемся ў Дзьвіне, а хлопцы з тога, латышскага берага трасуць кулакамі: мы вам пакажам, палякі! З Латвіі прыяжджалі да нас ксяндзы. Там было некалькі ксяндзоў-беларусоў.

***— Каго Вы памятаеце з тых беларускіх ксяндзоў з Латвіі?***

— Ксёндза Пашкоўскага, яго потым, як адступалі камуністы, замучылі. Ксёндз Гайлевіч, сядзеў у лягеры. Я быў у яго ў 1937 ці 1938 годзе. Там Забэйда-Суміцкі якраз быў. Мы начавалі. Дык гэты ксёндз так хроп, аж хата дрыжала. Я ляжу і думаю: як заўтра бедны Забэйда-Суміцкі будзе выступаць? Было гэта ў Бульбінове, па-латышску Індра.

Ксёндз Гайлевіч служыў па-беларуску, толькі мова крышку падрусыфікаваная была. Яшчэ адзін ксёндз прыяжджаў, дык надта жыдоў дражніў. І быў нешта такое падсьмяяў, жыдоўка ўдала, і яго вывезьлі ў Расею. Адсядзеў, потым пайшоў у Польскае войска, выбраўся, быў у Польшчы. Потым вярнуўся туды, дзе раней працаваў, але мала пажыў.

Ксяндзы прыяжджалі, пяць ці шэсьць чалавек. Сярод іх, здаецца, Альшэўскі, беларус, дэканам Рыгі быў.

***— Апроч таго, што гаварылі па-беларуску, яны яшчэ на якія-небудзь беларускія тэмы размаўлялі з Вамі?***

— Не, не. Спатканьняў з імі было мала. Да нас яны асабліва не заходзілі, а да ксяндзоў. Нашыя ксяндзы з Друі для нас ніякога не давалі, так баяліся. Толькі гаварылі па-беларуску.

Па прыезьдзе ў Друю моцна хварэў на жывот. Думаў, што ня выжыву. Але маліўся да Маці Божай, і ў сьне, як быццам, абяцала помач — і паздаравеў. Таксама хварэў і на вочы — трахома. Намучыўся. Рэдка чуўся здаровым. Слабеў вечарамі, але з помаччу Божаю кончыў гімназыю няблага.

***— Распавядзіце больш падрабязна пра Вашых настаўнікаў.***

— Нашым апекуном быў айцец Язэп Гэрмановіч. Пасьля місыі яго зрабілі прэфэктам у Вільні. Ён апекаваўся клерыкамі-беларусамі, марыянамі. І ён бяду там меў: за ім сачылі палякі, жыць яму не давалі. Неяк былі ў Варшаве спаткаліся, было гэта ў 1938 годзе. Ён кажа: — Не магу пераносіць, падслухоўваюць пад дзьвярыма. Ліну, кажа, часам вадою ледзяною. Куды ні выйдзе, а за ім шпіён ходзіць. Расказваў, раз падабраў такі вялікі додждж, апрануўся, узяў парасон, а шпіён за мной. Прайшлі адну, другую вуліцу. Тут пытаю: «Як пану подоба се подруж?» Адказвае: «Цо зробіш, така служба».

Пасьля айцец Гэрмановіч паехаў у Манчжурыю.

Друйская гімназыя мела семдзесят гэктараў зямлі. Мы улетку працавалі як валы. Большыя хлопцы карчавалі, восеняй малацілі. Мы касілі, вязалі, звозілі, так пазамучваемся, думаем — каб скарэй вучыцца. Налета як пойдзем сеневаць, гэтак цэлае лета працуем.

Мелі вялікі сад, пчолы, гаспадарку, коні, каровы. На кухні і ў гаспадарцы дапамагалі сёстры-законьніцы, служанкі эўхарыстыі, асталяваныя тут арцыбіскупам Матулевічам і а.Андрэем Цікотам.

***— Вашы калегі па гімназыі ўзгадваюць, што Вы былі вельмі сур'ёзным вучнем.***

— Уваходзіў у дзесятку лепшых. Але калі былыя вучні-палякі з нашай гімназыі выдалі ў Польшчы ўспаміны, пра тое, што вывезьлі ксяндзоў з Друі і якая гэта была трагедыя, — не апісалі. І пра мяне каб слова ўспомнілі, разам жа вучыліся! З-за таго, што беларус...

***— Як у Вас у гімназыі складаліся міжнацыянальныя стасункі?***

— Ніякіх праблемаў тады не было. Як казаў ксёндз Сіповіч, усе вельмі баяліся.

***— А Вы з ім таксама разам вучыліся?***

— Так, ён толькі на два гады ўперад быў.

— ***Вы былі знаёмыя?***

— Так, і ён быў нейкі час нашым апекуном.

— ***Хто яшчэ з беларускіх ксяндзоў працаваў у Друі?***

— Ксёндз Андрэй Цікота навучаў у нас кароткі час. Але яго хутка выбралі генэралам марыянаў. Аўтарытэтны чалавек быў. Палякі-марыяны з літоўцамі пагадзіцца не маглі, дык яго выбралі. I біскуп Часлаў Сіповіч таксама быў генэралам. Нас, беларусоў, мала было, але ўсё роўна выбралі, бо паважалі.

Калі Цікоту забралі на генэрала закону, па ім дырэктара паляка прыслалі. Цікота быў вельмі паважны. Усе школьнікі мелі павагу да яго. Як ідзе: хлопцы, рукі па швах! Палякі навогул былі настроены супраць кляштара, а Цікота здабыў для яго правы дзяржаўнай гімназыі. Ён выкладаў лаціну, і калі паступалі далей, то ніхто яе не правальваў — так добра выкладаў. Ён заснаваў дом марыянаў у Друі. Наш друйскі дом належаў не да польскай правінцыі, а непасрэдна да Рыма. Бо быў беларускі дом, меў свой статус.

Сіповіч у кляштары ў Рыме болей дружыў з літоўцамі, нешта такое крышку пачувалася.

Аканомам у кляштары быў ксёндз Смулька. Гаспадарка была ўзорная. Ён са Швэцыі зерне выпісваў, людзям раздаваў. І каровы былі. З гаспадаркі гімназыя і жыла.

У Друі ў навіцыяце апекаваўся намі айцец Віталі Хамёнак. Ён быў нашым магістрам. У навіцыяце ў яго пабылі мо месяц-два, а пасьля ксяндза вывезьлі. Я паступіў у навіцыят пасьля заканчэньня гімназыі ў 1938 годзе. А ў кляштары мы пры дзьвярах сядзелі. Дык ён, бывае, калі дзьверы стукнуць, аж падскоквае. Айцец Хамёнак быў пасьля ў Польшчы. Казаў мне, што яго не любілі за тое, што быў беларусам.

У 1938 годзе пан Бацянскі, ваявода віленскі, са згоды арцыпастыра Яблжыкоўскага прыслаў паліцыю і вывезьлі з Друі шасьцёх ксяндзоў. Надта рабіў нападкі на Друю ксёндз Бародзіч. Іншыя польскія ксяндзы таксама друйскім айцам спакою не давалі, хацелі адабраць у іх кляштар.

Адвезьлі іх за тры кілямэтры ад мяжы — і дзе хочаш дзявайся, вам ужо не вярнуцца ў Друю. А я нейкі час яшчэ пажыў у Друі, там у навіцыяце літовец яшчэ быў. А пасьля паехалі мы аж у Польшчу.

— ***Войча, дык Вы марыянін?***

— Марыянін. У навіцыяце ў Польшчы я жыў на Белянах. Калі ў 1938 годзе ксяндзоў і клерыкаў-беларусаў выгналі з Вільні, туды направілі і нас.

У Друі яшчэ айцец Кашыра быў, размаўляў па-беларуску. Ён перайшоў з праваслаўя ў каталіцтва і вучыўся ў Вільні. Як прыяжджаў у Друю на канікулы — спатыкаліся. Пасьля выгнаньня з Друі ён апынуўся недзе на Літве. Раз прыяжджае да мяне ў Вільню (нас з Польшчы перавялі туды) і кажа: ня маю месца. Бо былі далі яму парафію мяшаную, па-польску сьвятарыў — літоўцы сталі на яго шэмраць, паехаў тады ў Друю. А ў Друю ўжо прыслалі ксяндзоў-палякоў з Польшчы. Помню, як на вакзале нехта з чыгуначнікаў сказаў на Кашыру: «От які агітатор бялорускі пшыехаў». У Друі ў кляштар Кашыру не прынялі, а направілі ў парафію Бігусова, ва ўсходнюю Беларусь. Там, у Бігусове, другія ксяндзы працавалі. І Ляшчэвіч. Аж з Манчжурыі вярнуўся. Мы былі разам у Польшчы ў навіцыяце.

***— А Ляшчэвіч беларус быў?***

— Беларус, гаварыў па-беларуску. Яго таксама направілі ў Бігусова пры латышскай граніцы. Там касьцёл быў і яны працавалі. А потым, у вайну, як сталі куляцца нямецкія цягнікі, іх акружылі СД латышскае і нямецкае. Казалі ксяндзам: уцякайце. Не ўцякалі. Людзей вывозілі і забівалі, і ксяндзоў таксама забілі. Там і нейкі ксёндз-паляк быў (яго вывезьлі ў Латвію), таксама загінуў. Усіх, хто ня ўцёк у лес, памардавалі, папалілі, panішчылі. Людзі кажуць, ксяндза Кашыру, спаленага ў Росіцы, пазналі па руцэ, у якой быў зацiснуты ружанец. Ляжала незгарэлая рука з зацiснутым ружанцам.

***— А беларуская мова як прадмет выкладалася ў Друі?***

— Не было, усё па-польску. І ў гімназыі, і ў касьцеле — усё па-польску. Прыяжджаў у Друю таксама Ідэльфонс Бобіч, беларускі ксёндз. Ён перакладаў Біблію, пісаў казаньні, многа друкаваўся. У вайну яго арыштавалі немцы, сядзеў у Лідзе, а беларусы дабіліся ягонага вызваленьня. Ён напісаў нейкую кніжку — апалягетыку — па-беларуску. Рукапіс яе быў у кс.Адама Станкевіча.

***— Што Вы маглі б распавесьці пра Адама Станкевіча?***

— Я спатыкаўся з ім у Вільні. А яшчэ ў бацькоўскай хаце выпісваў «Хрысьціянскую Думку».

***— А ў Друі Вы выпісвалі беларускую каталіцкую пэрыёдыку?***

— Не траплялася. Не давалі гэтага ці баяліся — ня ведаю, як там было. Памятаю такі выпадак. У Вільні Станкевіча арыштавалі. Тады беларусы-каталікі прасілі ў арцыбіскупа Яблжыкоўскага прызначыць на ягонае месца мяне. Арцыбіскуп пагадзіўся, толькі не пазволіў казаньня гаварыць. Беларусы маліліся ў касьцеле сьв.Міхала. Там я і працаваў нейкі час. Гэта было адразу пасьля вайны. Я з айцом Станкевічам спатыкаўся. Ён тады прыходзіў да марыянаў на Полацкую вуліцу, там мы размаўлялі. Яго ўважалі, што вось ён — вараціла Беларусі. І раней да яго ўлады чапіліся, а потым забралі і пасадзілі. Расказвалі, як яго забіралі, органы дазволілі яму ўвайсьці ў хату. Паставіў пліту Забэйды-Суміцкага, засьпяваў той, Станкевіч заплакаў і пайшоў. Там яго і замучылі. Адзін літовец, які працуе цяпер на Літве, расказваў, што сядзеў у турме на Лукішках разам са Станкевічам. Кажа: мяне яго прыклад зрабіў іншым чалавекам. Я быў літоўскім шавіністам, а Станкевіч на куцьцю дзяліўся кавалкам хлеба, гаварыў па-літоўску, умеў па-польску, па-руску, па-беларуску, ён мяне навярнуў.

У Польшчы ў навіцыяце было болей палякаў. Там ужо ўсё па-польску было.

> Там ужо была поўная польская абстаноўка. Між іншым, у гаспадарцы знайшлі аслоў і козаў. Козаў як жыдоўскае стварэньне супэрыёр загадаў ліквідаваць, а на аслох езьдзілі мы, навіцыі, і мелі многа ўцехі, бо аслы аказаліся ўпорыстымі. Калі хто на яго сядаў, дык асёл качаўся па зямлі, пакуль не скідаў ездака.

У 1938-39 навучальным годзе мяне разам з польскім клерыкам направілі ў Вільню ў дамы друйскіх беларусоў.

***— А адтуль іх ужо выгналі?***

— Іх выгналі раней. Адразу, як выгналі ксяндзоў з Друі ў 1938 годзе, тады выгналі і клерыкаў з Вільні. Там было іх 12 асобаў.

***— А з тых клерыкаў хто-небудзь вядомы Вам?***

— Сіповіч. На гэтыя дамы грошы дала Радзівіліха, купляў іх ксёндз Андрэй Цікота. Помню, рэктар Ушылла кажа мне: «Жэбы пан Боцяньскі ведзеў, жэ ксёндз мяновіце з Друі, то бы ксендза выпэньдзіў».

***— А яны ведалі, што вы прызнаваліся беларусам?***

— Ведалі, але са мной быў клерык, які мяне, можа, запісаў палякам.

***— У Вільні Вы вучыліся ў сэмінарыі?***

— У 1938-39 гадох.

Той 1938 год быў асаблівы. Раньняя вясна і цяпло. На «Казюка» на Лукішках было мнагалюдна. Помню між іншым, як студэнты, пераапранутыя пад «Казюка» і «Казючыху» крытыкавалі польскі ўрад і за кожнай страфой дабаўлялі: «Церп, душа моя, а бэндзеш збавёна, а як не выцерпіш, бэндзеш потэмпёна» на лад мясцовага дыялекту.

***— У марыянаў была асобная сэмінарыя?***

— Не. Вучыліся ў агульнай. Марыяне толькі жылі асобна. Калі навучальны год скончыўся, паехалі пад Белавежскую пушчу. Там у Расьне былі дамы, дзе марыяны адпачывалі. Было нас можа каля 20 ці болей клерыкаў. Там застала нас вайна. Немцы наступалі. Кругом мабілізацыя, жаўнеры.

Раз, калі немцы недалёка ад нас збамбілі элеватар, падняўся страшны дым і пыл. Нехта між нас падняў паніку, што немцы пусьцілі газ. Клерыкі бегалі напалоханыя, хто хаваўся ў дом, а некаторыя нават у блізкі лес. Потым высьветлілася, што гэта толькі густы пыл падняўся.

Мы дасталі нейкую машыну і вярталіся ў Вільню. Калі наляталі самалёты, мы хаваліся ў кусты.

У Вільні ўжо нічога не было. Паехалі ў Друю, а там ужо саветы прыходзяць. Я потым пераехаў на Літву да марыянаў, у Укмэрге. І, помню, раніцай бамбяць савецкія самалёты, а мы ўжо спакойныя. У ксяндзоў у Марыямпалі быў год. Карацей, круцілі, палякі: не хацелі прымаць, што беларус, літоўцы таксама нешта прыдумалі, і год я не вучыўся. Прабыў каля ксяндза.

Падхвацілі немцы літоўца са зброяю. Ён быў солтысам і меў права насіць зброю. Немцы палічылі за партызана і прывялі на наш падворак. Паведамілі людзі. Выбеглі мы з ксяндзом Палонскім. Трэба ратаваць, выясьніць. Палонскі ўмеў добра па-нямецку, а я таксама. Прыбягаю да немца і кажу па-нямецку: «Ён солтыс і таму мае права насіць зброю». Тады афіцэр апусьціў пісталет і ўволіў чалавека.

А тады вучыўся па-літоўску. Перш вучылі ў марыянаў два гады, а потым у духоўнай сэмінарыі. Там павучыўся, а калі адкрылася сэмінарыя ў Вільні, мяне перапслалі туды. У Вільні тры гады вучыўся, а ўсяго — шэсьць. Лічыўся тэалягічны факультэт.

Мяне на год раней высьвяцілі, і я працаваў і вучыўся.

— ***Ойча, на якой мове выкладалі ў сэмінарыі ў Вільні?***

— Па-польску, а потым, ужо пры літоўцах, мяшанка была, і па-літоўску. У часе нямецкай акупацыі пры літоўцах у сэмінарыі выкладаў беларускую мову Адам Станкевіч.

— ***А ці былі беларусы-клерыкі?***

— Там ні такія ні сякія былі. Я ўжо быў. Якіх можа пяць з нас. Ксёндз Кулак неяк прыходзіў крышку выкладаць.

— ***А што ён выкладаў?***

— Выкладаў усходнюю тэалёгію, па-беларуску.

— ***Якім запомніўся Вам Адам Станкевіч?***

— Я да яго заходзіў, на кватэры быў. Я жыў пры літоўскім касьцеле сьв.Ігната і працаваў пры літоўцах па-літоўску. Часам і ён прыходзіў да нас.

Я быў высьвячаны ў 1944 годзе.

Мелі мяне сьвянціць разам з ксяндзом-езуітам Станіславам Міхальскім у езуіцкай капліцы. Але хтосьці данёс на мяне, што я быццам не люблю польскай мовы і штосьці падобнае. Арцыбіскуп Яблжыкоўскі асьцерагаўся мяне сьвяціць. Марыяне настойвалі. Тады перадаў сьвяціць мяне біскупу Мечыславу Райнісу, каторы ўдзяліў мне субдыяканату, дыяканату і сьвятарства 1944.X.4 у віленскай катэдры.

Прыміцыі надумаўся адправіць на Беларусі. Я належаў раней да барунскае парафіі. Выпадала адправіць прыміцыі ў Барунах. Але мяне сваякі ўпярэдзілі, што барунскі пробашч (кс.Карпінскі) беларусаў ня любіць. Дык я зьвярнуўся да ксяндза ў Крэве, у каторага летам пару гадоў і дзяцей прыгатаўляў да споведзі, і зімой прыязджаў.

Так я ў канцы кастрычніка 1944 года адправіў сваю першую сьвятую Імшу ў Крэве. Меў выдрукаваны на Літве на абразіках тэкст па-беларуску. Прыміцыі прайшлі бяз шуму і гуку. Адтуль зноў вярнуўся да марыянаў пры касьцеле сьв.Ігната. Адпраўляў імшу,

спавядаў, адпраўляў набажэнствы нараніцы, а ўвечары хадзіў вучыцца ў сэмінарыю. Як даведаўся рэктар кс.Ушылла, што я высьвяціўся, круцілі-муцілі, але так яно і прайшло. Каб не марыяне-літоўцы, мяне да сьвятарства палякі не дапусьцілі б...

... У той час у касьцеле часта кралі. Закрыстыянін, вучань гімназыі, цяперашні сьвятар, маліўся да сьв.Антонія і пільнаваў. Гэта было ў час нямецкай акупацыі. Раз злавіў паляка-інжынэра ўжо на вуліцы, каторы ўкраў сьвечку з аўтара. Другі раз убачыў у касьцеле здараваку, які краў пакрыцьці з аўтара. Аказаўся таксама паляк. Прасіўся ўпусьціць памаліцца. Побач стаяў ваенны камісарыят. Раз сяржанты прабілі мураваную сьцяну, дзе мы жылі, і ўкралі з неабжытага пакоіку сала і рэчы памёршага ксяндза. Аднойчы летам праз дах пракраўся ў пакойчык гэтага ж закрыстыяніна хіба што нехта з ваенных і ўкраў яму порткі, гадзіньнік ды іншыя рэчы.

***— Ці размаўляў з Вамі Адам Станкевіч наконт лёсу беларускай мовы ў касьцеле?***

— Не, ня помню. Я раз сказаў: касьцёл гулкі. Слова яму спадабалася, запісаў. Часам ён хадзіў адпраўляць імшу ў Вострую Браму, а потым у сьв.Міхала. Аб тым, што трэба гаварыць па-беларуску, і нагадваць ня трэба было. Я ужо з Друі быў сьведамым. Як калом увагналі. Калі ксяндзоў беларусаў вывозілі, усё гэта я перажываў. Потым ня трэба было мне ні гаварыць, ні вучыць пра беларускасьць. Пазьней быў у Варшаве і там бачыў адносіны да беларусаў, пасьля выгналі клерыкаў з Вільні. На нас, беларусоў, глядзелі, як на злачынцаў.

Пры канцы сэмінарыйнага году (1945) органы сказалі нашым сэмінарыйным уладам: «Літоўцы хай едуць у Каўнас, а палякі ў Польшчу». І закрылі сэмінарыю.

Як кс.Адама Станкевіча арыштавалі, вернікі зьвярнуліся да арцыбіскупа Яблжыкоўскага прызначыць мяне. Той пагадзіўся: «Тылько жэбы казані не мувіць по-бялоруску». Але мой начальнік з марыянаў крышку закапрызіў, што я ўвагу на сябе зьвярнуў, і праз два-тры месяцы мяне перапраўілі на Літву.



Кс.Кулак

***— Многа людзей прыходзіла на беларускую імшу ў Вільні?***

— Сабіраліся. Можа не заўсёды поўны касьцёл, але сабіралася даволі.

У Вільні я любіў працаваць ад душы. Калі пры мне паміралі ў палаце — ня спаў начамі, пакуль не прывык. Гэтак моцна перажываў.

***— Ці памятаеце Вы ксяндза Уладзіслава Талочку?***

— Быў на яго паховінах. Ён таксама маліўся ў касьцеле сьв.Міхала па-беларуску. Быў для ўсіх сваім: і для палякаў, і для літоўцаў, а сам прызнаваўся беларусам.

***— Што Вы памятаеце пра ксяндза Кулака?***

— Ён быў ні так ні сяк. Праўда, пісаўся беларусам. Ён закончыў студыю разам з кс.Францішкам Чарняўскім. На парафіі ён маліўся па-польску, толькі калі прыязджаў у духоўную сэмінарыю, дык па-беларуску з намі гаварыў. Мы трымалі з ім сувязь доўгія гады.

***— Ён дапамагаў Вам перакладаць Біблію на беларускую мову?***

— Ён толькі пацьвярджаў мае пераклады. Малітоўнік глядзеў. І пакуль я не пераслаў пераклады ў Рым, кс.Кулак меў апрабату ад літоўскіх касьцельных уладаў, таму я ўсе пераклады завозіў яму. На ўсіх маіх перакладах — ягоны подпіс.

***— Як далей склалася Вашае жыцьцё?***

— Пасьля вайны я працаваў у Укмэрге, на Літве.

Мураваную плябанію марыянаў занялі органы. Мы жылі побач у старой. Мелі з імі клопату. Яны напіваліся, пракрадаліся ў сад п'яныя.

Там пры мне арыштавалі ксяндза. Мелі мы бібліятэку, прыходзілі дзеці, моладзь, сьпявалі ў касьцеле...

У 1948 годзе мяне направілі ў Гегужыне. Там вельмі чапіліся да мяне, таму праз год пераехаў у Ёрнішкі, каля Падбродзьдзя. Пасьля ў Варэне працаваў год, затым у Эйшышках. А з Эйшышак папрасіўся на Беларусь. Парафіі ўсе былі літоўскія, і казаньні, чытаньні — усё я рабіў па-літоўску.

***— Як Вы патрапілі на Беларусь?***

— Прыяжджалі людзі, цэлыя дэлегацыя, прасілі, бо скрозь не было ксяндзоў. І біскуп мяне адпусьціў на Войстан, за Смаргоньню. А затым пераехаў сюды, у Вішнева, і працую тут з 1954 году. Мяне тут доўга не прыпісвалі, болей году мучылі. Касьцельны камітэт езьдзіў у Менск, у Маскву.

***— Калі Вы прыйшлі на парафію, якая ў Вас складалася моўная сытуацыя?***

— Я адразу стаў гаварыць па-беларуску. Мяне калі запрашалі, я казаў: калі хочаце ксяндза — буду гаварыць па-беларуску.

Калі з акцэнту, з сытуацыі бачыў, што некаторыя вернікі дома карысталіся польскай мовай, з такімі стараўся гаварыць па-польску, асабліва са старэйшымі. Калі адчувалася, што ня ўмеюць, але па звычцы гавораць з ксяндзом па-польску, перакручваюць словы, з такімі гаварыў па-беларуску.



Сустрэча з папам Паўлам IV.
Зьлева ад папы кс.Уладзіслаў Чарняўскі, справа — біскуп Часлаў Сіповіч

Некаторыя крывіліся спачатку, казалі, што камуніст, усякая была гаворка. А час прайшоў — і ўсе прывыклі. Калі дзеці ў касьцеле пачалі сьпяваць па-беларуску, дык некаторыя адмаўляліся ісьці ў касьцёл.

Колькі разоў думаў: кіну, вярнуся ў Літву, але рабілася шкада. Другі раз думаў: ня буду навукаў казаць, таксама адпускаўся. Так цягнулася гады. Памалу самыя ўпорыстыя сталі прывыкаць.

У 1967 годзе я быў у Рыме на прыёме ў папы Паўла VI.

За год да паездкі я атрымаў пісьмо з Рымскай Курыі, ад сакратара Стану, у якім паведамлялася, што Папа Рымскі прызначае мяне на адміністратара для каталікоў на Беларусі, калі на гэта згодзяцца савецкія ўлады. А праз нейкі час — другое пісьмо, на французскай мове, з паведамленьнем, што мяне прызначаюць дараднікам ад Кангрэгацыі Абрадаў і з запрашэньнем у Рым. Я гэтыя дакумэнты прадставіў рэспубліканскаму ўпаўнаважанаму. Хіба па двох месяцах заклікаў мяне рэспубліканскі ўпаўнаважаны ў Менск і растлумачыў: адміністратарства ня вырашана, а паехаць у Рым па выкліку як дарадцу дазваляецца.

На той час генэралам марыянаў быў Часлаў Сіповіч, а біскупам для беларусаў за мяжою — Сьлёнскас. Мы былі на прыёме ў Папы разам з Сіповічам. Размаўлялі на лаціне. Рымскі Папа сказаў, што хоча мяне бачыць біскупам на Беларусі. Ён пазьней званіў у савецкую амбасаду, але саветы не далі на гэта згоды. Папа сказаў: «Скажы рускім, што ты зьяўляешся ляяльным, спакойным чалавекам, каб не баяліся». Але...

У той жа прыезд мне даручылі ад кангрэгацыі па Божым кульце перакладаць Біблію.

— ***Як ішла Ваша перакладчыцкая праца?***

— Я вярнуўся і стаў перакладаць. Памалу-памалу і пераклаў за год сем тамоў літургічных тэкстаў з польскай мовы. Яны пацьверджаныя ў Рыме. Два гады таму было мне запрашэньне ў Рым, але я не паехаў. Як з намі паступалі праз 70 гадоў? Даюць катэхізмоўку, якой не было ад пачатку хрысьціянства: кірылічныя літары, польскія словы. Палякам трэба польскія, а беларусам — беларускія катэхізмоўкі. Я напісаў ліст Папе, што для нас «польская» вера — гэта скула, гэта духовы Чарнобыль. Можа што хацеў Папа, можа не — ня знаю, не паехаў.

***— Зараз сярод марыянаў ёсьць беларускія ксяндзы?***

— Апяцёнак працуе каля Браслава. Мы разам вучыліся. Ксёндз Лось у Друі. Відзіце, тады цкавалі ксяндзы-суседзі, каб не дапусьціць беларусоў. Ксёндз Неманцэвіч па-суседзтву, у Лоску, жыў, дык казаў: ксёндза Чэрнявскего не замэльдуюён і в Молодэчне. (Там раней вобласьць была).

***— Як да Вас ставіліся савецкія ўлады? Ці быў на Вас нейкі націск як на нацыяналіста?***

— Нават у Маскве пра гэта гаворка была. Казалі — лепей па-руску. Мяне тры разы на тры месяцы здымалі з працы. Пра тое ж казалі і ў Менску, і ў вобласьці, і ў раёне.

***— Некалькі гадоў таму друкаваўся Ваш адкрыты ліст да канфэрэнцыі, якая праходзіла ў Польшчы...***

— Запрашэньне прывезла адная дзяўчына, якая цяпер, мусіць, вучыцца ў Польшчы. Заставаўся тыдзень, дакумэнты



Другі Ватыканскі сабор вітае беларускіх сьвятароў

аформіць я не пасьпеў бы. Таму папрасіў дзяўчыну пачакаць і напісаў: Ксёнжы тацы бардзо побожні, сьвенці, жэ по-бялоруску і гаварыць ня хочуць.

***— Як у Вас склаліся адносіны з ксяндзамі?***

— Прыяжджалі да мяне і я часта езьдзіў. Але як стаў па-беларуску гаварыць, жупранскі ксёндз намаўляў дэкана Кафарскага «жэбы суспэндоваць» мяне. Ды ксёндз Кафарскі на гэта не пайшоў.

***— Наколькі важная роля ксяндза для вызначэньня мовы ў касьцеле?***

— Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове. Гэтак пастанавіў Ватыканскі сабор. Гаворыш па-польску — ніхто не разумее. Што важней, польская мова ці разуменьне веры? А яны ўсё круцяць. Мне другі раз кажуць: вось ты, ксёндз, працуеш, а калі ты памрэш...

Быў такі выпадак. Працаваў за Ашмянамі ксёндз (ён зараз у Маскве). Прыйшла да яго кабета, гаворыць пацеры па-беларуску, а ксёндз кажа, што такіх не прызнае: пакуль не навучышся па-польску, шлюбу ня дам. Я бачу тут толькі віну ксяндзоў. Яны хочуць апалячыць беларусаў. Гэта іх мэта.

***— Як Вы ставіцеся да місыянэраў, якія прыяжджаюць з Польшчы на Беларусь?***

— Такія ж самыя. Каторыя прыжджаюць, павінны зжыцца з народам, навучыцца мовы, каб дзеці іх разумелі. Людзі не разумеюць казаньні, пацеры па-польску. Я ўжо колькі разоў пытаўся зьмест — не разумеюць. Адносна пытаньня мовы напісаў у пісьме ў Рым: «Я гляджу на ксяндзоў як на фарызэяў».

***— Але як аргумэнт ксяндзы прыводзяць такі довад, што гэтага хочуць людзі.***

— А чаго хоча п'яніца? Калі да мяне прыехалі на імшу каля 30 чалавек з-пад Іўя і я пачаў пытацца пра Бога, нічога ня ведаюць. Ці шлюб браць прыяжджаюць — нічога ня ўмеюць.

***— Як Вы ставіцеся да рускай мовы ў касьцеле на Беларусі? Некаторыя ксяндзы кажуць, што горад гаворыць па-руску, і нам таксама трэба.***

— Блага думаюць рабіць. Трэба, каб беларускі народ вучыўся па-беларуску. Мы ж ня рускія. Каторыя і ня ўмеюць з беларусоў па-беларуску, а беларускую мову лічаць роднай і разумеюць добра. А каб я ў Расею ці ў Польшчу паехаў і

па-беларуску пацеры гаварыў, што б яны сказалі? Ксяндзы наўмысна раней гаварылі па-расейску, каб беларусам сьведамасьць не даваць.

***— Ці трымалі Вы кантакт з Вашым дзядзькам, ксяндзом Францішкам Чарняўскім?***

— І перапіску з ім меў. Я запрашаў яго вярнуцца на Беларусь. Ён кажа: «Я не сьвяты, не хачу, каб мае косьці раскідалі па Сібіры». У 1937 годзе ён прыяжджаў у Друю і прапаноўваў ехаць у Францыю. Я не захацеў. Ён жыў у Францыі, потым у Бэльгіі і Амэрыцы. Там і памёр. У Амэрыцы разам з кс.Янкам Тарасэвічам выдаваў беларускі каталіцкі часопіс «Сяўбіт».

***— Ён быў марыянінам?***

— Не. Хацеў паступіць у Друю, але не пасьпеў. Разам з кс.Кулаком вучыўся ў Рыме, затым працаваў у Вільні. У касьцеле сьв.Якуба, здаецца. Пасьля беларусы яго выправілі за мяжу.

*Гутарыў Алесь Бяляцкі*

# Litaraturnaja staronka

*ЮРЫ ГУМЯНЮК*

## РАЗМОВА

Магільныя пліты са мной размаўляюць,
гукаюць, пяюць, а мэлёдыя льецца.
Паветра застыгла. Бяз сэнсу блукаю.
І грукае цяжка самотнае сэрца.
Баюся застацца адзін сярод ночы,
на могілках спаць і чакаць на збаўленьне.
Здаецца, што хтосьці прыдзірліва сочыць,
калі я стаю прад крыжом на каленях.
Прабачце, сябры, бо мяне ўжо ня будзе
ні там, ані тут. Я забыўся пра лета.
Я чую, як дыхаюць мёртвыя людзі
і мараць убачыць жывога паэта.

*1990*

## МЯЖА

Ты імкнешся кудысьці...
Вось тунэль без сьвятла...
Крочыш. Мёртвае лісьце
засланяе імгла.
Толькі жоўты агеньчык
моўчкі вызначыць шлях.
Сіл ня хопіць. Заенчыш,
не ўзьбярэшся на дах.
Паляціш, нібы вецер,
зьверху — ўніз, зьнізу — ўверх.
Безьлітоснае вецьце
твар ушчэнт разьдзярэ.
Застанецца агеньчык
ды тунэль да сьвятла,
ды нямая паненка,
што сюды прывяла.

*1991*

*Аўгустын Аўфрай*

# СЬВЯТЫ ЯН БОСКО

## Разьдзел першы

## У БЭЧЧЫ

Паміж ракой По і яе правым прытокам Танарай у трохкутніку Турын—Александрыя—Касале ляжыць мясцовасьць Монфэрато. Гэта край невысокіх хвалістых пагоркаў, пакрытых зарасьнікамі вінаграду, якія надаюць асаблівую пекнасьць — выгляд Монфэрато амаль не зьмяніўся на працягу стагодзьдзяў. На поўначы гэтай краіны, на гары за 30 км ад Турына знаходзіцца Кастэльнуова д'Асты. На самым версе гары зруйнаваны замак, а навокал рэшткі ўмацаваньняў, якія памятаюць шмат аблогаў.

Быў такі час, калі тут, як і паўсюль у Монфэрато, насельніцтва няўхільна менела. Ды і цяпер тут ня болей за 3 тысячы жыхароў. Але Кастэльнуова ведаюць ва ўсім сьвеце. Тут нарадзіліся сьвятыя Язэп Кафаса ды Ян Боска. У гонар апошняга мястэчка сёньня мае поўную назву Кастэльнуова Дон Боска, бо яго бацькі жылі за 5 км ад мястэчка, у вёсцы Бэччы.

Тут 16 жніўня 1815 года і нарадзіўся Ян Мэльхіёр Боско. Бацькі яго, Францішак Алёйза ды Маргарыта Аччыена, мелі невялікі кавалак зямлі, з якой утрымлівалі матку гаспадара, сына Антона ад першай жонкі ды двух сыноў Маргарыты — Язэпа й Яна. Калі нарадзіўся апошні, бацька меў 31 год, а маці 27. Сям'я жыла сьціпла, як і ўся Італія па доўгай ваеннай завірусе, але гэтая сьціпласьць ніколі не даходзіла да галоты й жабрацтва.

У тым жа 1815 годзе ў Бэччы (цяпер Коль Дон Боско) было толькі дзесяць сем'яў, працавалі яны таксама на мясцовага больш багатага гаспадара, які апроч зямлі меў яшчэ пякарню. А далей за вёскай — толькі парослыя вінаградам і хмызам пагоркі, у якіх да таго ж хаваліся дызэртыры з разьбітай арміі Напалеона...

Праз няпоўныя два гады па нараджэньні Яна бацька захварэў на запаленьне лёгкіх і памёр. Пазьней сьв.Ян Боска так апавядаў пра сваё дзяцінства: «Я быў яшчэ малы, калі памёр бацька — нават ня памятаю яго твару. Памятаю толькі словы маткі: «Яначак мой, няма больш таты». Усе пайшлі ўжо з пакоя, дзе ляжаў бацька, застаўся я сам.

— Пойдзем, Яначак, — прасіла маці.

— Калі тата пойдзе з намі, то пайду, — адказаў я.

— Пойдзем, маленькі, тата ня пойдзе больш з намі, — заплакаўшы, маці адвяла мяне ў другі пакой. Я плакаў, бо плакала маці. Што разумее малое дзіця? Але словы: «Яначак мой, няма ў нас больш таты» запомніў назаўжды. Пасьля гэтага першага засмучэньня, з маленства больш нічога не засталося ў памяці аж да пяці гадоў».

Арцыбіскуп Квэбэку кардынал Бэджын маліўся аднойчы на магіле сьв.Яна Боско. І так сказаў пра словы намагільнай эпітафіі «бацька сіротаў»: «Колькі сіротаў прыгарнуў ксёндз Боско за сваё жыцьцё! Крыніца той міласьці, якая стала пацехай абдзеленых шчасьцем, пачынаецца ад заўчаснага цярпеньня двухгадовага хлопца, які запомніў горкія словы «няма ў нас бацькі»...

Па сьмерці Францішка Боско на яго ўдаве засталіся тры сыны ды прыкутая до ложка сьвякроў. Але дабрыня, праца, аптымізм і вера ў Бога маладой удавы Маргарыты Аччыены зрабілі неверагоднае — усё ішло амаль так, як і пры жыцьці бацькі. Колькі гэта каштавала маці, ведае толькі яна!

Маргарыта мела выхаваўчы талент, яна разумела, што толькі ад маці залежыць характар яе дзяцей — ксёндз і настаўнік тут могуць толькі дапамагчы. Асновай жа выхаваньня Маргарыта лічыла веру. Ранкам і ўвечары сыны ставалі на калені перад крыжам, маліліся аб хлебе штодзённым, прасілі даць мужнасьць у выкананьні абавязкаў і дараваньне грахоў. І ўзорную ноч, і сьнежным ранкам, і ціхай вясной, і ў бязьлітасны град казала сынам пра найвышэйшую сілу і Суд Божы.

— Бог бачыць вас, дзеці мае, — паўтарала маці. — Я магу быць ад вас далёка, але ён заўжды з вамі.

Простая вясковая жанчына ня ўмела чытаць і пісаць, але дасканала ведала катэхізм, сьвятую гісторыю — у тым выглядзе, як вучылі тады ў парафіях П'емонту. Праз цярплівую штодзённую працу свае веды перадавала сынам, пакідаючы пробашчу толькі папраўляць і дапаўняць пачатую справу.

Перш за ўсё Маргарыта хацела, каб дзеці не былі бяз працы ані хвіліны. Меншы, чатырохгадовы Янак, скуб каноплі, пазьней дапамагаў матцы ўва ўсіх справах па гаспадарцы: сёк дровы, насіў ваду, зьбіраў ягады, падмятаў дом, пасьвіў быдла, чысьціў хлеў, пёк хлеб, даіў кароў... Працавалі ад ранку да вечара. Маці хацела, каб сыны былі падрыхтаваныя да жыцьцёвых цяжкасьцяў і каб з маладых гадоў ведалі, чаго ўсё каштуе. Узімку і ўлетку падымаліся разам з сонцам. Сьнедалі сьціпла — скарынкай сухога хлеба. Цэлы дзень былі на нагах; пазьней Янак бегаў да школы ў Кастэльнуова — туды і назад дваццаць кілямэтраў. Калі прасіў дапамогі падарожны, жабрак ці хворы сусед, хлопец не адмаўляў нікому. Спалі на цьвёрдым сеньніку, напханым лісьцем і кіяховай зелянінай. Гэта было спартанскае выхаваньне, але тры сыны вырасьлі людзьмі дужымі, якія не адступалі перад цяжкасьцямі.

Маці дамагалася паслухмянасьці — і мела сваё. Кожны чацьвер насіла на кірмаш у Кастэльнуова яйкі ды малако на продаж і даручала кожнаму сыну працу на цэлы дзень. А вяртаючыся, перад тым, як даць кожнаму гасьцінец, правярала, ці ўсё той дакладна й добра зрабіў.

Можа таму, што сям'я была беднаю, заўсёды знаходзілася ў гэтай хаце месца для яшчэ бяднейшых. Жабракі, бадзягі, вандроўныя гандляры і нават дызэртыры ці тыя, каго шукалі жандары... У прысьмерак стукалі ў дзьверы і атрымлівалі хлеб, зацірку ды пасьцель. А сьледам часам завітвалі аралеўскія карабінэры Віктара-Эмануіля І — гэтых сустракалі ўжо кубкам

віна, покуль госьць уцякаў праз тыльныя дзьверы. Для гаспадыні Маргарыты ўсе, хто прасіў дапамогі, былі «сумленнымі сябрамі»... Ад маці вучыўся Ян міласьці да тых, каго называмі адкідамі грамадзтва.

Апроч такога прыкладу чалавечай сумленнасьці і прыстойнасьці, Маргарыта Боско стала намаўляла да хрысьціянскіх дабротаў — і больш ласкай ды прыкладам, чым загадам. Маці была пазбаўленая як лішняй цьвёрдасьці, так і фальшывай слодычы, просьбаў і абяцанак. Не было празьмерных пяшчотаў, але тым болей не было істэрык і крыку. Спакой, раўнавага, ветлівасьць былі ейнаю зброяю. Ніколі ня біла дзяцей, але не дапушчала да распусты і капрызаў. Пакараньнем толькі пагражала, але заўжды даравала па першай праяве жалю ці пакаяньня, абуджала ў сынах ласку да сябе і непакой, што могуць зрабіць нешта такое, што можа пакрыўдзіць іх маці.

Хлопцы падрасталі. Старэйшы Антон быў грубаваты, хуліганісты, задаволены фізычнаю сілаю і сваім месцам у сям'і. Язэп наадварот меў характар мяккі, спакойны, быў кемлівы й талковы. У Яна з малых гадоў праяўляўся характар гарачы й свавольны. Мала гаварыў, але больш прыглядаўся. Малая моцная галава з кучаравымі валасамі мела ў сабе жвавы розум, сілу волі, прыроджанае пачуцьцё абавязку. І галоўнае, меў ён вялікае сэрца ды неспачынную фантазыю, якія захаваў да канца жыцьця.

Язэп і Ян усё жыцьцё былі ў згодзе, з Антонам ня так. Злоўжываў ён сваёй сілаю й становішчам старэйшага брата дзеля ўлады над меншымі. Калі дзяцінства Яна было цяжкім, дык у вялікай меры дзякуючы характару Антона. З дзевяці да пятнаццаці гадоў Ян быў змушаны трываць няспынныя пакуты, бо Антон упарта дамагаўся зрабіць з яго земляроба, нягледзячы на відавочную здольнасьць да навукі.

Шмат разоў умешвалася маці, каб абараніць меншых ад старэйшага брата або прыгарнуць іх пасьля ягоных кухталёў. Ня раз Антон траха не падымаў руку на мачху, але адступаў перад яе рашучым спакоем.

Калі Ян Боско, ужо сьвятар, акружаны гуртам моладзі, прыгадваў тыя сцэны з дзяцінства, дык заўсёды ўспамінаў цярплівасьць, спакой і дабрыню маці траіх такіх розных сыноў — і гэтым яе рысам заўсёды імкнуўся сьледаваць у сваім жыцьці.

Тая сьціплая непісьменная жанчына першай выхоўвала спосаб мысьленьня аднаго з найвялікшых пэдагогаў XIX ст.

Кардынал Вівэ Туто, першы абаронца Яна Боско на бэатыфікацыйным працэсе, так заявіў аднойчы рымскаму трыбуналу: «За сваё жыцьцё я дасьледаваў розныя справы, але ніводная з іх не была такою неверагоднай, як гэтая».

У дзяцінстве Яна было дзіўнае здарэньне, якое адбілася на ўсім ягоным жыцьці і, дарэчы, паўплывала на ягоную дзейнасьць як каплана. Калі яму было 9 гадоў, ён бачыў сон, быццам стаіць сярод гурту хлопцаў, якія нешта крычаць, некага праклінаюць. І ён захацеў спыніць гэты крык — спачатку стараўся перакрычаць іх, а потым стаў біцца з імі. Але тут зьявіўся перад ім Нехта ды кажа яму: «Не! Так, крыкам ды бойкай, нічога ня зробіш, але заслужыць іх давер можаш адною ласкаю». Тады тыя гіцлі, што нагадвалі ўжо разьятраных зьвяроў, раптам сталі як ціхія і паслухмяныя ягняткі, а голас працягваў: «Ян, вядзі іх, пасьві іх... Потым зразумееш сэнс таго, што цяпер бачыш».

Ранкам, калі ён расказаў гэты сон дома, пачуў такія тлумачэньні:

— Напэўна будзеш пастухом, — сказай Язэп.

— Не, мусіць будзе завадатарам бандытаў, — засьмяяўся Антон, які не любіў малодшага брата.

— Ат, не бяры да галавы розныя сны, — буркнула бабка.

І толькі маці, якая слухала сына вельмі ўважліва, ціха, як у сябе самой, спытала:

— Але хто ж ведае... Ці ня будзе Янка ксяндзом?

І толькі яна прадказала правільна. З кожным годам, як хлопчык падрастаў, ён усё часьцей гаварыў маці, што хацеў бы сапраўды быць ксяндзом.

— Ксяндзом, ксяндзом, — ужо часам раздражнёна гаварыла жанчына. — Лёгка табе казаць, але ці праўда хочаш ім быць?

— Паслухай, мама, — адказваў Ян, — калі б я стаў ксяндзом, то мог бы ўсё жыцьцё быць з дзецьмі, з моладзьдзю, любіў бы іх і яны б любілі мяне. Аддаваў бы ім усе свае сілы, увесь час...

І гэтую прагу апостальства па-featнаму зьдзяйсьняў ужо ў Бэччы. Калі Ян быў у адной са сваіх цётак у суседняй вёсцы Капрыджлі, сам навучыўся чытаць. З таго часу чытаў усё, што мог атрымаць у вёсках і мястэчку, а потым пераказваў прачытанае родным і суседзям, у большасьці сваёй непісьменным. У сялянскіх хатах добра ведалі малога «лектара», які доўгімі зімовымі вечарамі апавядаў пра каралеўскія дынастыі, пераказ-

ваў аповесьці ды розныя гісторыі рыцарскіх прыгодаў. Паслухаць Янку зьбіраліся сяляне з усёй вёскі, ён жа заўсёды пачынаў і заканчваў свае «лекцыі» супольнай малітвай.

Вясною лектар ператвараўся ў жанглёра і канатаходцу. На лузе паміж чарэшняй і грушай нацягваў вяроўку, долу сьцяліў дзяружку і ў нядзелю дэманстраваў сваё умецтва аднавяскоўцам. Навучыўся розным скокам, сальта, хадзіў на руках, таксама практыкаваўся ў клаўнадзе — ператвараў ваду ў віно, з аднаго яйка рабіў два, з насоў гледачоў выцягваў манэты, танчыў на вяроўцы. Гэтаму навучыўся ў Кастэльнуова ад вандроўных акрабатаў. І тут забава пачыналася і заканчвалася супольнаю малітвай.

У тыя гады ў турынскай дыецэзыі да камуніі дапускалі дзяцей пачынаючы з 12-13 гадоў. Але для Яна зрабілі выключэньне — дапусцілі да Камуніі ў 10 гадоў. Гэтая ўрачыстасьць адбылася на Вялікдзень у 1826 годзе ў парафіяльным касьцеле Кастэльнуова. Увечары Ян пачуў ад маці такія павучэньні:

— Янка, — сказала яна, — я веру, што сягоньня Бог узяў тваё сэрца. Абяцай мне, што будзеш у добраці й чысьціні да канца жыцьця. Сьцеражыся ўсялякага сьвятакрадзтва, часьцей прыступай да камуніі, шчыра і часта спавядайся. Будзь слухмяным, спаўняй абавязкі верніка ды пазьбягай дурной кампаніі.

У сшытку, куды Ян Боска запісваў матчыныя парады, можна прачытаць: «Пастараўся спаўняць тое, што казала маці, і здалося мне, быццам з гэтага дня жыцьцё стала лягчэйшым. Навучыўся я слухаць іншых, падпарадкоўвацца ды кінуў звычку ставіць свае капрызы вышэй за добрыя парады іншых».

Праз колькі тыдняў, у тым жа 1826 годзе, адкрылася магчымасьць для сапраўднай навукі, дагэтуль жа Ян умеў толькі чытаць. Адукацыя ў тыя часы каштавала вельмі дорага, а сям'я Боско такіх сродкаў ня мела. Аднак дапамог выпадак.

Папа Леў XII абвесьціў Юбілей або Вялікае Сьвята, якое ў тыя часы адзначалася раз на дваццаць пяць гадоў. Да Рыма сышліся 400 тысяч пілігрымаў. Юбілей быў абвешчаны для ўсіх вернікаў, таму ў дыецэзыі Турына таксама ўдзялялі адпушчэньне грахоў на Сьвяты год. Сям'я Боско восем дзён адбывала гавеньне ў касьцеле мястэчка Буттыджліера, да якога было чатыры кілямэтры. Хадзілі да касьцёлу двойчы — уранку і ўвечары.

З апошняга казаньня вярталіся звычайна позна, разам з сялянамі з вёсак Бэччы, Капрыджлі і Марыяльды. З Марыяльды быў і сямідзесяцігадовы ксёндз Ян Калёсса. І ён у такім узросьце кожны дзень адмяраў пехатою шаснаццаць кілямэтраў, каб атрымаць адпушчэньне на Юбілей. Ксёндз адразу заўважыў хлопчыка з Бэччы, які збоч ад усіх прагна лавіў словы казаньня. Калі ксёндз разгаварыўся з падлеткам, то быў вельмі зьдзіўлены, што Ян слова ў слова перадаў усе казаньні.

— Чый ты? Як завешся? — спытаў ксёндз. — Ці ходзіш у школу?

— Ян Боско. Я жыву з маці й братамі, бацька памёр. У школу не хаджу, але ўмею чытаць і крыху пісаць.

— А ці хацеў бы вучыцца? — працягваў дапытвацца ксёндз.

— Так, вельмі! — адказаў Ян.

— А чаму ж ня вучышся?

— Ня хоча таго мой старэйшы брат Антон. Кажа, што ня трэба ніякай навукі, каб гараць і пасьвіць.

— А на каго ты хацеў бы вучыцца?

— Хачу быць ксяндзом.

— А чаму хочаш быць ксяндзом?

— Каб выхоўваць дзяцей, бо імі ніхто не займаецца.

Гэтая размова вырашыла лёс Яна Боско. Ксёндз Калёсса запрасіў яго ў найбліжэйшую нядзелю дапамагаць пры сьвятой імшы. Яшчэ праз тыдзень разам з Янам прыйшла маці. Ксёндз прапанаваў, каб ад лістапада прысылала сына да яго кожную раніцу — слухаць лекцыі. Пасьля заняткаў хлопец мог як і раней працаваць у полі.

Год выдаўся для Яна добрым. Нарэшце сустрэў ён ня проста настаўніка, але апекуна, пра якога марыў: добрага, простага, пабожнага, які ўмее даць параду.

Праляцелі тры месяцы навукі. Авалодаўшы італьянскаю граматыкай, Ян узяўся за лацінскую мову, пры гэтым вучыўся так старанна, што да Вялікадня 1827 года засвоіў асновы лаціны.

— У вашага сына цудоўная памяць, — казаў ксёндз маці. — Абявязкова і надалей пасылайце яго да мяне.

Маці рабіла гэта з ахвотаю, але з надыходам вясны, калі было асабліва шмат работы ў полі, гэта страшна злавала Антона. І дарма Янак рабіў за дваіх, а лекцыі паўтараў па начах ды па дарозе з Марыяльды. Адзін выгляд кніжкі, якая трапляла Антону на вочы, даводзіў яго да шалу. Аднойчы старэйшы брат ня вытрымаў.

— Досыць! — крыкнуў ён. — Каб больш ня бачыў у хаце ніякіх граматыкаў! Каму гэта трэба? Я абышоўся без усялякіх кніжак — і нічога!

— Маеш рацыю, брат, — адказаў Ян. — Так, маеш рацыю. Наш асёл таксама абышоўся без усялякіх кніжак і таксама жыве ня горш за цябе. А ён таксама ніколі не хадзіў у школу!

Ад братавых кулакоў Яна ўратавалі толькі шпаркія ногі... Наступным разам Антон зьдзекліва гаварыў:

— Паглядзіце, які панок! Ён вучыцца й вучыцца! «Вучоны»! Хочаш мець лёгкае жыцьцё, а мы вечна будзем сёрбаць зацірку?! Ты думаеш, мы так і будзем трываць, каб ты жыў гультаём?

Адносіны паміж братамі былі настолькі напружаныя, што вечна так цягнуцца не магло. Маці гэта зразумела й увосень загадала, каб Ян часова перапыніў навуку. Але гэта толькі пагоршыла становішча. І вось у зімовы вечар Маргарыта адважылася...

— Будзе лепей, Янка, калі ты паедзеш адсюль, — сказала маці. — Антон не супакоіцца. Можа пашукай працы ў недалёкіх маёнтках. А калі не атрымаецца, то йдзі ў Манкука, спытай сям'ю Моджлія. Гэта людзі заможныя, але добрыя, і, напэўна, цябе прымуць. А каб было ціха, зрабі гэта ўжо заўтра зранку...

Быў люты 1828 году. Сьвітанак, пакрытыя сьнегам пагоркі... Трынаццацігадовы хлапчук з торбачкай, у якой дзьве кашулі ды дзьве кніжкі ў сьлязах пакідае дом, дзе нарадзіўся.

Нідзе не захацелі прыняць Яна. Працы не было, але было шмат жадаючых. Спачатку адмовілі яму і ў сям'і Моджлія.

— Пакуль што вяртайся дадому, — сказаў гаспадар.

— Дзеля Хрыста, пане! Прыміце мяне без заробку!

— Вазьмі яго, Алёйза, — заступілася гаспадыня. — Няхай затрымаецца на пару дзён...

Так Ян апынуўся пад гэтым дахам, які з часам, праз працавітасьць і шчырасьць хлопца, зрабіўся нават гасьцінным на цэлыя два гады. Працаваў жа Ян так, што гаспадар, прыняўшы яго з ласкі, прызначыў яму пэнсыю 15 ліраў і паступова падвысіў яе да 50 ліраў за год.

У Манука прынёс Ян і свае старыя звычкі з Бэччы. Цэлы тыдзень хлопец даглядаў коней у стайні, а ў нядзелю зьбіраў хлопцаў, каб вучыць іх катэхізму ці апавядаць што-колечы з Эвангельля. І не пакідала яго думка пра сьвятарства. Аднойчы расказаў пра гэта сваім працадаўцам.

— Але як думаеш вучыцца? — запыталіся ў яго. — Каб вучыцца на ксяндза, трэба мець каля 10 тысяч ліраў. Дзе ты іх возьмеш?

— Ня ведаю. Але ўпэўнены, што рана ці позна буду ксяндзом.

І каб не забыць навуку кс.Калёсса, цэлымі гадзінамі паўтараў граматыку, нават у полі, калі пасьвіў коней.

У сьнежні 1829 года адбылася падзея, якая дала надзею. Выпадкова Ян сустрэў свайго дзядзьку Мікеля Аччыена, селяніна, які разбагацеў на гадоўлі кароў.

— Што, Янка, добра табе ў Моджлія? — запытаў той.

— Так, любяць мяне, але я хацеў бы вучыцца, а гады бягуць. Хутка ўжо пятнаццаць...

— Слухай, — сказаў дзядзька, — можа я што зраблю. Пакуль вяртайся ў Бэччы. Пагавару з тваёй маці. Паглядзіш, усё будзе добра.

Ян у той жа вечар вярнуўся дадому, але быў змушаны дзень хавацца ад Антона, аж пакуль ня вернецца дзядзька з кірмашу ў Чыеры. Калі нарэшце той прыехаў і завёў замерзлага пляменьніка ў хату, то мусіў доўга пераконваць Антона, што хлопца неабходна прыняць у сям'ю.

Ксяндзы з Кастэльнуова й Бутыджліера, якіх Мікель Аччыена прасіў навучаць Яна лаціне, адмовіліся, спаслаўшыся на вялікую занятасьць. Затое пагадзіўся стары знаёмы Яна кс.Калёсса.

— Ня бойся будучыні, хлопча, — сказаў ксёндз. — Пакуль буду жыць, дапамагу табе. А калі Бог мяне пакліча да сябе, распараджуся так, каб мог спакойна вучыцца.

Здавалася, што ўсе перашкоды мінуліся. На жаль, няпрыязь да брата ў Антона нікуды ня зьнікла, нападкі рабіліся больш частымі і зацятымі. Цярплівая маці, якая дагэтуль усё зносіла моўчкі, рашуча заступілася за Яна. Маргарыта запатрабавала падзелу сямейнае маёмасьці праз суд. Супрацьдзеяньне Антона скончылася нічым. Праз некалькі месяцаў гаспадарка была падзеленая судом паміж Маргарытай і яе старэйшым сынам. А яшчэ праз нейкі час Ян пераехаў да капэляна ў Марыяльды.

«Ніхто, — пісаў пазьней сьв.Ян Боско, — ня мог бы адчуць усёй маёй радасьці. Кс.Калёсса быў маім анёлам. Я любіў яго больш за бацьку, гадзінамі маліўся за яго, і было для мяне радасьцю служыць яму. Служыў яму з прыемнасьцю, каб

выказаць сваю ўдзячнасьць. У ягоным сьціплым пакоі за дзень спасьцігаў больш як за цэлы тыдзень у Бэччы».

Але гэтую ўзаемную радасьць перапыніла сьмерць. Аднойчы ў лістападзе ксёндз пайшоў у Бэччы. А ўвечары прыбеглі людзі з весткай, што кс.Калёсса атрымаў апаплексычны ўдар. Покуль Ян дабег да хаты, дзе ляжаў ксёндз, паралюш ужо зрабіў сваё: кс.Калёсса ня мог гаварыць. Ён знакам паказаў, што пад падушкаю ключ ад ягонага стала і ўсё, што там ёсьць, аддае Яну. Гэта здарылася 19 лістапада 1830 года. Праз два дні ксёндз памёр.

Пасьля сьмерці добрага сьвятара прыехалі ягоныя сваякі. Ян адчуваў сябе паміж молатам і кавадлам: з аднаго боку — воля настаўніка, з другога — прэтэнзыі радні. Аднак ён хутка вызваліўся ад такога пачуцьця, бо, як пісаў пазьней, «калі прыехалі нашчадкі, аддаў ім ключ і ўсё, што ім належала». У стальніцы было шэсьць тысяч лір. Добраахвотная адмова ад спадчыны зноў кінула хлопца ў бурлівае мора жыцьця. Было яму ўсяго пятнаццаць.

Паколькі навучальны год ужо пачаўся, маці вырашыла, што Ян будзе хадзіць да Кастэльнуова вывучаць курс лаціны. Узрадаваны, што будзе працягваць вучобу, Ян штодзень хадзіў пехатою за дваццаць кілямэтраў, часта босы, каб зьберагчы абутак. Цяжка даліся першыя тыдні на новым месцы. Аднагодкі насьміхаліся з Яна, што паходзіў з Бэччы, беднай глухой вёскі, што дрэнна апранаўся. Гэтыя кпіны вытрымліваў з усмешкай, але былі й горшыя, якія закранялі яго шмат разоў дагэтуль — адлегласьць паміж вучнямі і настаўнікам.

«У Кастэльнуова, — пісаў айцец Боско, — сустрэў некалькі вельмі добрых ксяндзоў, якія працавалі старанна й шчыра, але ня мог пасябраваць з імі». Часта размаўляў пра гэта з маці.

— Калі б я быў ксяндзом, то не рабіў бы так. Пастараўся б неяк зблізіцца з дзецьмі, зьбіраў бы іх вакол сябе ды імкнуўся, каб яны самі вакол мяне гуртаваліся. Словам і ўласным дзеяньнем працаваў бы для іх збаўленьня. Так рабіў кс.Калёсса.

— Але што ж зробіш, Янка, — казала маці. — Падумай, яны маюць шмат працы. Хочаш, каб яшчэ гулялі з дзецьмі?

— А Пан Езус не лічыў, што марнуе час з дзецьмі, калі тыя зьбіраліся вакол Яго насуперак волі апосталаў. Калі стану ксяндзом, ніколі абыякава не прайду міма дзяцей, заўсёды пагавару з імі.

Настаўнік з Кастэльнуова, 75-гадовы ксёндз, на думку вучня з Бэччы, быў ня надта дасьведчаны. Для Яна гэта быў страчаны год. Але ён навучыўся шыць, як сапраўдны кравец. У вольныя хвіліны прышываў гузікі, цыраваў, абкідаў краі, шыў. Гэтае ўмецтва прыдалося яму пазьней, у Сусамбрыно, гэтаксама як і добрае валоданьне лацінскай моваю.

На вакацыі ў 1831 годзе прыехаў да сям'і, якая жыла ўжо ў вёсцы, за некалькі кілямэтраў ад Сусамбрыно. Пасьля падзелу маёмасьці частка сядзібы ў Бэччы адышла да Антона, які да таго ж у сакавіку ажаніўся. Маці разам з Язэпам трымала сваю частку маёнтка.

Таго ж лета Маргарыта знайшла для Яна кватэру ў мястэчку Чыеры, у маці аднаго студэнта. За кватэру трэба было плаціць дваццаць ліраў штомесяц.

У верасьні Ян бачыў сон, які ўспрыняў як сваё пакліканьне. «Прыйшла да мяне прыгожая Пані, якая пасьвіла вялікі статак, паклікала мяне на імя й сказала:

— Бачыш той статак, Янка? Давяраю яго табе.

— Але як зьберагчы так шмат авечак і ягнятак, калі ня маю пашы, каб адагнаць іх туды?

— Ня бойся, я дапамагу табе...

І сказаўшы так, зьнікла».

Быў пачатак восені 1831 года. Перад тым як ехаць да Чыеры па навуку, доўга хадзіў Янак па ваколіцах Кастэльнуова ад хаты да хаты і прасіў міласьціны на адзеньне й плату за дарогу. Людзкая міласэрнасьць напоўніла ягоную торбу. Склаў сваю ахвяру і ксёндз з Кастэльнуова.

І вось настала раніца... Ян Боско выйшаў з вёскі Сусамбрыно з дзьвюма торбамі за плячыма, у якіх была мука, збожжа, кукуруза. Прадаўшы гэта, купіў сабе сшыткі ды іншыя школьныя прыналежнасьці. Скончыліся сем гадоў навукі похапкам, ад выпадку да выпадку — адкрываўся іншы сьвет. Гэта быў дзень 4 лістапада 1831 года...

*Заканчэньне будзе*

*Пераклад Алеся Чобата*



# Na skryžawańni dumak

## ДА СУАДНОСІНАЎ ХРЫСЬЦІЯНСКАГА І НЕХРЫСЬЦІЯНСКАГА ПАЧАТКАЎ У СУЧАСНАЙ КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

Кожная культура як сыстэма мае пэўную, ясна сфармуляваную мэту свайго існаваньня. Гэтая мэта можа быць эфімэрнай і ілюзорнай, але такімі ўжо створаныя людзі, што здатныя да ірацыянальных учынкаў. Мэта хрысьціяніна — выратаваньне душы. Адпаведна, хрысьціянскае супольніцтва мае мэтай узаемападтрымку ягоных сяброў у імя ўсё тае ж мэты, а культура хрысьціянскага супольніцтва ёсьць, у першую чаргу, комплекс духоўных дасягненьняў дадзенага кола людзей, якія яны прыдбалі падчас свайго супольнага руху да Мэты. Кожная душа на сваім шляху да Бога сутыкаецца з мноствам перашкодаў, сэнс якіх у запавольваньні ейнага руху ці зьмене ягонага кірунку. Людзі самі адказваюць за сваю душу, і таму, калі яны робяць учынак не ў імя Бога, яны робяць грэх, робяць недабро. Грахі можна клясыфікаваць па-рознаму: сьвядомыя ці несьвядомыя, ад маладушша ці злосьці, вялікі грэх ці малы, але ў любым выпадку грэх — гэта ўчынак, зроблены ў імя зямнога, а не нябеснага. І чалавечая культура адпаведна можа быць культурай больш ці менш грэшнага супольніцтва.

На сёньняшняй Беларусі з гэтага пункту гледжаньня хрысьціянскі пачатак культуры ўсталяваўся празьмерна слаба. Першае, што ў гэтай сувязі кідаецца ў вочы, — гэта наяўны раскол грамадзтва на рэлігійна актыўную і рэлігійна індэфэрэнтную часткі. Гэты раскол дастаўся нам у спадчыну ад папярэдняга часу і таму мае выразную рэлігійную адметнасьць: на ўсходзе Беларусі рэлігійнасьць значна меншая, чым на захадзе. Але рэч ня толькі ў эстэтычнай спадчыне. Рэлігійная індэфэрэнтнасьць і зьвязаныя з ёю праблемы шырока распаўсюджанае бездухоўнасьці маюцца і ў разьвітых заходніх краінах, якія не перажывалі пэрыяду панаваньня камуністаў. Прычым і ў нашым выпадку і ў іхнім найбольшая рэлігійная індэфэрэнтнасьць характэрная для жыхароў гарадоў. Па меры павелічэньня вагі гарадзкога насельніцтва культура ў нашых грамадзтвах прымае ўсё больш сэкулярызаваны характар і ў ёй пачынаюць панаваць нехрысьціянскія духоўныя мэты і каштоўнасьці. На Беларусі камуністы толькі прысьпешылі ды па-свойму павярнулі гэты працэс. Падставай для памяншэньня рэлігійнасьці гараджанаў, верагодна, зьяўляецца немабільнасьць хрысьціянскае царквы, якая не пасьпявае за грандыёзнымі зьменамі ў грамадзтве, якія выклікаюць урбанізацыю. Царква ёсьць у значнае мэры арганізацыя, сыстэма, якую складаюць жывыя людзі, таму натуральна, што яны ня ўсё пасьпяваюць. Але, з другога боку, неасьвечаную частку супольніцтва цяпер з большым посьпехам могуць ахопліваць нехрысьціянскія духоўныя канкурэнты царквы. Тым больш, што доступ да сродкаў масавага ўзьдзеяньня на людзей у гарадзкім грамадзтве адкрывае неверагодныя для традыцыйнага сьвету магчымасьці. Нічога новага ў параўнаньні з тым, з чым вёў барацьбу сам Езус Хрыстус, мы не заўважаем. Сказана было: «Аддайце цэсару цэсарава, а Богу Богава», — і ва ўмовах слабое царквы мы бачым, як паўсюдна вернасьць уладзе, дзяржаве пачынае прапагандавацца як найвышэйшая духоўная каштоўнасьць, вышэйшая нават за Веру, а ўмяшальніцтва ўлады ў справы царквы прызнаецца за добры ўчынак. Што ў такім разе Дабро? Ясна, што тут мы маем перад сабою нехрысьціянства. Нельга пагаджацца са сьцьверджаньнем, што «дзяржава ёсьць вышэйшая форма культуры». Не дзяржава, а Вера, царква ёсьць вышэйшая форма культуры. І калі на Беларусі там-сям патрыятызм пачынае ўставаць над Верай, дык гэта сьведчыць, што перад намі нехрысьціянскае супольніцтва.

Таксама сказана ў Эвангельлі: «Няма перад Богам ані эліна ані юдзея». Хаця ў Старым Запавеце гаворыцца, што Бог разбурыў Бабілёнскую вежу ды даў людзям розныя мовы і тым самым падзяліў іх на народы. Гэтае значыцца, што хрысьціянін можа ставіцца з сэнтымэнтам да мовы свайго народу, але ён ня можа Любіць ані яе, ані свой народ болей, як Бога. Ужо праз Бога хрысьціяне любяць Сьвятло, Зямлю, жывёлаў, расьліны, людзей як тварэньне Божае, а не саміх па сабе. Чалавек бяз Бога ў душы — злы чалавек. Чалавека трэба любіць не за ягоную арыгінальнасьць, здатнасьці ці сілу волі, а за наяўнасьць у яго душы, а значыцца, і магчымасьці выратаваць яе. Нездарма сказана: «Шчасьлівыя ўбогія духам». Захапленьне зямноюю індывідуальнасьцю людзей ёсьць адступленьне ад хрысьціянства. Таму ня можа быць прызнаны за хрысьціянскую каштоўнасьць прадпрымальніцкі індывідуалізм і ягоная апалягетыка ў грамадзкай ідэалёгіі. Можна займацца бізнэсам і імкнуцца багата жыць, але ня трэба да гэтага ставіцца як да галоўнае каштоўнасьці ў жыцьці. Можна імкнуцца да максымальнага творчага самывыяўленьня, але аніякі талент сам па сабе ня выратуе душу. Творчасьць ёсьць зямное багацьце і адное задавальненьне ад творчасьці ёсьць дастатковая ўзнагарода за яе. А калі яшчэ прыходзіць і зямное прызнаньне, дык няма чаго і марыць, што гэтае залічыцца Потым. Ня творчасьць патрэбная Богу і Душы, а Вера. Таму ўсе ідэалягічныя сыстэмы геданістычнага, багемнага пляну ня ёсьць хрысьціянскія. Ня ёсьць таму хрысьціянскім і разуменьне нацыі як суб'екту гісторыі. Бог сам ёсьць, калі можна так выказацца, суб'ект гісторыі, а народы — калектыўныя асобы — ёсьць толькі зямная форма суіснаваньня індывідуальных душ людзей, што іх складаюць. Няма і быць ня можа нацыянальнае філязофіі і духоўнасьці. Ёсьць Бог, хрысьціянства і розныя мовы ды іншыя вонкавыя дробязі, што адрозьніваюць людзей адно ад аднога. Проста людзі і нацыі — асобы больш або менш грэшныя на самаўсхваленьне, фанабэрыю, пыху ці духоўную ляноту, яны і ёсьць «нацыяналісты». Нацыяналізм ёсьць грэх пыхлівасьці, духоўная бязглуздасьць. Упадзеньне ў яго вядзе да паганства як сыстэмы ўзаемастасункаў, заснаванай на праве моцы. Хрыстус жа прапаведаваў любоў людзей адно да аднаго як да роўных у праху і адрозных толькі ў меры сваёй Веры й ступені выратаваньня праз яе сваёй Душы. Нездарма пасьлядоўныя нацыяналісты ўсіх вядомых нам народаў, уключаючы наш,

стварылі свае адкрыта паганскія плыні. Усур'ёз народы адрозьніваюцца адзін ад аднаго ня мовай ці філязофіяй, а мерай праведнасьці і набліжэньня да Бога, таму мэта кожнага народа ёсьць стварэньне царквы, каб арганізавана несьці слова Божае далей. У царкве ўвасабляецца народ, і з ёю ён зьнікае.

Але з гэтага зусім не вынікае неабходнасьць так ці інакш гвалтоўнага, хай нават праз хітрасьць, а не праз просты гвалт, падпарадкаваньня нацыяй усіх цэркваў на тэрыторыі ейнага пражываньня. Не нацыянальнае царквы трэба шукаць, а Веры. У імя Бога яднацца, а не ў імя нацыі. І з пазыцыяў Веры падыходзіць трэба Беларусі, скажам, да касьцёлу. Не таму ён благі, што польскі, а таму, што дазваляе сабе вядзеньне праз сябе палянізацыі, што ня Веру часта нясе ксёндз, але яшчэ і нацыянальную сьвядомасьць, да таго ж заснаваную ва ўмовах Беларусі на няпраўдзе пра ейную гісторыю. Ня можа быць у царкве няпраўды і ня можа быць у ёй падпарадкаваньня зямному. З гэтым трэба спрачацца, а не з палянізацыяй самой па сабе. Тое ж тычыцца і праваслаўя, і уніі, і яшчэ шмат чаго ў нас.

Няпраўда ці праўда — рэчы ня намі прыдуманыя. Бяз праўды няма Веры, хаця ня з праўды Вера пачынаецца. Таму і навука не супярэчыць Веры, а ўмацоўвае яе, калі навуковец ці вучань маюць побач добрага настаўніка. Хлусьня не вядзе да Бога. А колькі мы зараз бачым на Беларусі хлусьні? Нават тыя, ад каго мы чакаем іншага, потым знаходзяць сабе апраўданьне. Дый самі мы такія ж. Але Веры бяз праўды ня будзе. Нацыянальныя міты замест марксысцкіх догмаў не дадуць нам Веры. І нашым дзецям не дадуць. А значыцца, не дадуць і выратаваньня нашым душам. Тады навошта яны людзям? І гэтае не зьяўляецца хрысьціянствам. Як ня ёсьць ім і любыя нацыянальныя міты і асабліва міты некаторых нашых агрэсыўных і няшчасных суседзяў.

Гэтае значыцца, сёньня мы маем на Беларусі ня толькі некранутую рэлігійную цаліну на ўсходзе краіны і ў ейных гарадох увогуле, але і аслабленыя нацыяналізмам або слабасьцю Веры традыцыйныя цэрквы. Існыя ў такім грамадзтве духоўныя рухі базуюцца збольшага на нехрысьціянскіх пасылках лібэралізму (індывідуалізму), нацыяналізму розных кірункаў ды камунізму. Нішто з іх ня ёсьць жывою царквою, ня ёсьць хрысьціянствам. Рэалізацыя мэтаў любога з гэтых рухаў не дае Веры, а значыцца, ня ёсьць Дабро. Нават самыя гуманныя з

іх прапануюць Беларусі ў лепшым выпадку лёс заходнеэўрапейскае нацыі з такім падзеньнем маралі, якое робіць натуральным занядбаньне мільёнаў суседзяў, што выміраюць ад радыяцыі. Калі заўтра Чарнобыль здарыцца ў Англіі, ці дапаможа ёй Францыя? Гэтыя краіны і народы ня большыя хрысьціяне за нас. І нам ня варта паўтараць іхні лёс ды іхнія хібы. З другога боку, часовая слабасьць з-за нутранога замяшальніцтва носьбітаў нехрысьціянскіх ідэяў дае пакуль магчымасьці менавіта на Беларусі паўстаць жывой царкве, а гэтаму народу паяднацца нарэшце ў Веры. Такі варыянт разьвіцьця падзеяў на Беларусі здаецца самым прывабным. Да таго ж у іншым выпадку Беларусь яўна чакае зноў пакутніцкі лёс раздушанае суседзямі ідэі.

*Юрась Шаўцоў*



# Absiahi kultury

## ДВА РЭЛІГІЙНЫЯ ВЕРШЫ XVIII СТАГОДЗЬДЗЯ

Цікавымі помнікамі таго пэрыяду разьвіцьця беларускай літаратуры, калі яна рабіла пераход ад старой традыцыі да новай, зьяўляюцца два беларускія рэлігійна-панегірычныя вершы, знойдзеныя ў віленскім архіве[1]. Першы з іх напісаны на прыезд у Вільню вармінскага біскупа Крыштафа, другі — на прыбыцьцё ў Пінск валынскага біскупа Стафана. У абодвух творах, барочных па сваім стылі, рэлігійнае і сымбалічнае своеасабліва спалучаецца з народнафальклёрным.

У першым з вершаў, «Валедыкцыі» («Вітаньні»), расказваецца аб прыезьдзе ў сталіцу Вялікага княства Літоўскага віднага каталіцкага саноўніка Крыштопа Шэмбека (1663—1748). Аўтар некалькіх лацінскіх твораў, ён увайшоў у гісторыю тым, што абараняў у казаньнях польскіх сялян. 17 ліпеня 1729 г. Шэмбека віталі ў Вільні «Валедыкцыяй», складзенай па канонах барока, якое асаблівую вагу надавала геральдыцы і эмблематыцы (адначасова з беларускім быў напісаны і літоўскі панегірык). У вершы багата геральдычна-эмблематычных метафар і параўнаньняў. Дасьціпна абыгрываецца ружа, гербавы знак роду Шэмбекаў, і лілея, сымболь чысьціні і сьвятасьці: «Наш Казімір з

лiлiёй, а Шэмбек з рожамi». Сьвяты Казiмiр, патрон Вiльнi, «зьвяртаецца» да госьця:

Ты мою могiлоньку серэбром городзiш,
Рожамi высажаеш, на дiв людзi водiш.
Ой всi ж будут дiвiтся, як твое рожэ
В мой городак посажу, поможы ш нам, Божэ. (20)

Але раптам у барочную эмблематычную «гульню» ўрываецца жывы струмень народнай паэзыі. Зьяўляецца паўфальклёрная цытата пра «казельчыкаў», якiх сьвяты Казiмер зьбiраецца накармiць сваiмi лiлеямi. Умоўнасьць паступова саступае месца жывой рэальнасьцi:

Нуте ж, нуте, козакi, ласкавого маем,
По святых мы, грэшнiкi, князя повiтаем.
Он седiт хорошонькi, Рожамi кiдает,
А Козельчык одiн з другiм перэд нiм бегает.
На князюю Рожу глядят очэнькамi луп, луп,
Рожэнькi подкiдают, ножэнькамi туп, туп.
Козельчыкi, любчыкi, зостаньцесе з намi,
Наш Казiмiр кармiцi будзе лiлiямi. (20)

Крыштоп Шэмбек — не абстракцыя, а зусiм рэальны чалавек са сваiмi адметнымi бiяграфiчнымi рысамi. «Браця козакi», зацiнаючы ў «кобзы», велiчаюць ня проста «мiлосцiвого госця». Ён сэнатар, «славы полон, пан з панов, седзiць з королямi». I да «Казiмiра» ён прыехаў «в госцi одвежацi» ня проста так, а перад будучым падарожжам у Ватыкан ("зблудзiў аж до Рыму"), — атрымаўшы тут багаславеньне ад сьвятога, ён зможа потым паслужыць i «папеску прыму».

«Валедыкцыя» завяршаецца радкамi, дзе эмблематыка ўжо не iснуе сама па сабе, а непарыўна зьвязаная, пераплеценая з рэальнымi, блiзкiмi да фальклёру вобразамi:

Наш Казiмiр поедет на конiчку собе,
Нашчо нас пакiдаеш, отож, князю, тобе.
Он дорогу лiлiёй, ты стелеш Рожамi,
Мы, Рожы цалуючы, за табой з кобзамi.
Плачам, крычым: князю наш! За што ж нас кiдаеш,
Будзь здоров, многолiсцен на дорогу маеш. (20-21)

Яшчэ больш сьвецкi характар мае верш на прыезд у Пiнск да труны Андрэя Баболi валынскага бiскупа Стафана (ад яго рашэньня, вiдаць, залежала, быць Баболю далучаным да лiку сьвятых, цi не). Верш напiсаны ў форме дыялёгу двух чалавек

— жывога і мёртвага. Карыстаючыся народнымі вобразамі і зваротамі, Стафан будзіць Баболю ад магільнага сну:

— Да ўжо ж годе прэволокі, годе, годе ждання,
Час устаць, Андрэюхно, годе, годе спаня.
Да ўжо ж зора засвітала, добрыдень тобе давала.
Встань жэ, встань, Андрэю!
— Ах, хто ж мене патэркает? Хто ж мене взбудает,
Ён жэ на моіх очонках любы полёгает.
Розэспаўсе ж я вельменько, спаў я собе да міленько,
Усе ж мене Бог сніўся.
— Да ўстань, устань, Андрэю! трэба сором знаці,
Да ўжо ж солньцэ прэд вороты, да ўжэ ж слоньце в хаці.
Належаўся ты доволі, встань жэ, встань, чы чуў, Боболі!
Годе, годе спаці.

У адказ Андрэй вітае «друга мілага», які дзеля яго «з Волынонька пул копы ехаў» і па дарозе «забыўся панскай выгоды». Пачынаюцца звычайныя роспыты пра здароўе. Стафан прапануе Баболю «кінуць» нябеснае жыцьцё, вярнуцца на грэшную зямлю:

— Ой, поехаў я, Андрэю, в госціну до цебе,
Не уседіш, колі б хоцеў, на высоком небе.
Мусіш і з неба ступіці, мусіш до мене прыбыці,
Я цебе заклічу.
— Ой, правда, правда, Сцепане, то узнаці трэба,
Што я готов і зтупіці на Твой голоз (!) з неба.
Я хоць тройцу оглядаю, овечкою быць се знаю
Твоёй чэродунькі. (28)

Урэшце паміж нябожчыкам і жывым заключаецца «дзелавая» дамоўленасьць. Баболя разумее, што ад волі Стафана залежыць, ці быць яму залічаным да ліку сьвятых («чы мне в олтарах стаць кажэш, чы в могіле спаць роскажэш»). Таму дзеля госьця ён гатоў усё «чыніці»). Стафан таксама небескарыслівы, просіць аказаць паслугу за паслугу:

— Не бойсе, не бойсе, Андрэю, добро тобе всё здею,
Гледі ж, помні на мне. (28)

Каму ж могуць належаць абодва працытаваныя творы? Прамыя і ўскосныя доказы сьведчаць, што іх аўтарам, хутчэй за ўсё, зьяўляецца Дамінік Рудніцкі. Прадстаўнік позьняга барока, ён пісаў на польскай і беларускай мовах, у свой час

карыстаўся вялікай папулярнасьцю, але сёньня амаль зусім забыты.

На асобе Рудніцкага, якому, відаць, належаць таксама іншыя беларускія гумарыстычныя і сатырычныя творы, варта спыніцца больш падрабязна.

Паводле лістоў нашага земляка да Асалінскага ды іншых крыніц, Д.Рудніцкі нарадзіўся 4 жніўня 1676 г.[2] Паходзіў ён з дробнай літоўска-беларускай шляхты. Адзін з яго братоў памёр у Полацку, а нейкі сваяк працаваў у Магілёве.[3] Каля 1694 г. Рудніцкі пачаў вучобу ў Віленскай езуіцкай акадэміі, дзе тады, рыхтуючы місыянэраў для работы сярод мясцовага насельніцтва, зьвярталі вялікую ўвагу на веданьне беларускай і летувіскай моваў, а таксама музыкі і тэатральнага мастацтва.[4]

Дзе і калі працаваў Рудніцкі выкладчыкам, сёньня вызначыць цяжка. Адно несумненна: амаль два дзесяцігодзьдзі, да 1720 г., ён пражыў на Беларусі. У некаторых крыніцах указваецца Слуцк.[5] У творах і лістах Рудніцкага прыгадваюцца Горадня, Брацянка (езуіцкі фальварак каля Наваградка), Рудава (каля Нясьвіжа), Мсьціслаў (у адным з калямбураў абыгрываюцца словы Мсьціслаў, помсьціць і слава). Блізкім сябрам Рудніцкага быў Ваўжынец Гінтаўт, ксёндз магілёўскі і аршанскі — на адным з рукапісаў іх прозьвішчы ўказаныя побач (як суаўтараў ці суўладальнікаў рукапісу).[6] Адзін з польскіх панэгірычных вершаў паэта, «Пахвала таму, хто мае ў гербе Лебедзя», праслаўляе менскага ваяводу, пісьменьніка і публіцыста Крыштопа Завішу.

З 1720 г. Рудніцкі жыў у Варшаве, зьяўляўся пракуратарам Літоўскай правінцыі езуітаў. Пасьля 1728 г. быў рэктарам калегіі ў Пултуску. Але сувязяў з Беларусьсю не парываў. У 1730 г. ён прыязджаў у Нясьвіж на выбары дэлегатаў, якім належала ў Рыме вызначыць новага генэрала ордэна. Памёр паэт 10 кастрычніка 1738 г. у Варшаве.

Пры жыцьці Рудніцкі друкаваўся мала. У розных месцах выйшла некалькі яго казаньняў. Пасьля сьмерці сябры выдалі зборнік ягоных вершаў на польскай мове, куды ўвайшлі рэлігійныя і панэгірычна-акалічнасныя вершы.[7] У іх выразна праявіліся рысы позьняга барока: сьцьвярджаецца марнасьць і хуткаплыннасьць жыцьця, камізм мяжуе з макабрызмам, шырока выкарыстоўваецца гратэск. Адначасова зборнік сьведчыць пра даволі высокае паэтычнае майстэрства аўтара, яго арыентацыю на народную песьню,[8] пра яго «шырокую ўражлівасьць, жывое

пачуцьцё гумару і жарту».[9] Рудніцкаму належаць таксама інтэрмэдыі, гумарыстычныя вершы, напрыклад, пра вайну жураўлёў з пігмеямі, пераклад на польскую мову паэмы барочнага лаціпіста Якаба Бальдэ «Сон чалавечага жыцьця» (нагадаем, што яна зьявілася адной з крыніцаў «Пэнтатэўгума» А.Белабоцкага).

На жаль, найбольш цікавыя для гісторыка беларускай літаратуры творы Рудніцкага да нас не дайшлі. Яны зьмяшчаліся ў двух рукапісах, якія ў XVIII ст. знаходзіліся ў варшаўскай бібліятэцы Залускіх (адзін з Залускіх быў мэцэнатам паэта), потым іх вывезьлі ў Петэрбург. У 20-я гг. нашага стагодзьдзя ў адпаведнасьці з дамоваю паміж савецкім і польскім урадамі рукапісы былі перададзеныя ў Варшаву, дзе і згарэлі ў 1944 г.

*Адам Мальдзіс*

[1]ЦДГА Летувы, ф.1135, воп.2, спр.147. Далей спасылкі на старонкі падаюцца пасьля цытат у тэксьце.

[2]Eustachiewicz Maria. Twórczość Dominika Rudnickiego. Wrocław,1966. S.13.

[3]Тамсама. С.14.

[4]Zaleski Stanisław. Jezuici w Polsce. T.3. Lwów,1902. S.914-915.

[5] Eustachiewicz Maria. Twórczość Dominika Rudnickiego. S.23.

[6]Zaleski Stanisław. Jezuici w Polsce. T.4. Cz.3. S.1510.

[7]Głos wolny w wiązanej mowie. Warszawa, 1741.

[8]Czesław Hernas. Wiek prefolklorystyki polskiej // Pamiętnik Literacki. T.LIV (1963). Z.2. S.288.

[9]Piszczkowski Mieczysław. Wieś w literaturze polskiego baroku. Wrocław etc.,1977. S.73.

# ГІСТОРЫКА-ФІЛЯЗОФСКІЯ ІНТЭНЦЫІ ДУХОЎНАГА ДОСЬВЕДУ АЎГУСТЫНА

Няшмат знойдзецца ў гісторыі чалавецтва асобаў, чый духоўны пошук пакінуў бы такі яскравы сьлед, як Аўгустынаў. Ёсьць патрэба спасьцігнуць набытак ягонага духоўнага досьведу і сёньня. Асабліва ў сувязі са стварэньнем новых формаў духоўнай культуры чалавека, якія адпавядалі б нашаму часу і, у прыватнасьці, садзейнічалі б больш аб'ёмнаму асьвятленьню шляхоў беларускага нацыянальнага Адраджэньня. Вось і пера-горнем хаця б некалькі старонак вялізнай «кнігі» ягонага жыцьця ды творчасьці.

Аўгустын нарадзіўся ў Тагасьце (Паўночная Афрыка) 13 лістапада 354 г. Гэта быў невялікі горад у рымскай правінцыі Нумідыя, які цяпер належыць Алжыру і носіць назву Сук-Арас. Заўважым, што тагачасная паўночная Афрыка была скрыжа-ваньнем фінікійска-картагенскага, грэцкага і рымскага культур-ных уплываў.

Продкі Аўгустына, хутчэй за усё, належалі да мясцовых бэрбэрскіх плямёнаў. Ягоны бацька Патрыцы служыў у мясцовым муніцыпалітэце, быў дробным землеўладальнікам. Але як вядома

са «Споведзі» самога Аўгустына, яго духоўнае разьвіцьцё перадвызначала найперш маці. Калі Патрыцы прыняў хрысьціянства толькі незадоўга да сьмерці, то Моніка была шчырай хрысьціянкай.

Аўгустын, вучачыся ў пачатковай школе ў Тагасьце, вызначаўся значнымі здольнасьцямі. Бацька, які марыў зрабіць Аўгустына рытарам ці адвакатам, вязе яго спачатку ў Мадаўру, а пасьля ў Картаген. Юнак вывучае лацінскіх клясыкаў, дасканала аваподвае лацінай. Пры гэтым ён рана спазнае «радасьці жыцьця», пра што таксама можам даведацца са «Споведзі». Шукаючы найвышэйшае праўды, ён пераживае ўплыў маніхейства.

У 383 г. Аўгустын едзе ў Рым, каб выкладаць рыторыку. Па рэкамэндацыі маніхеяў атрымаў месца прыдворнага рытара ў рэзыдэнцыі імпэратара ў Мэдыяляне (зараз Мілян). Тут ён знаёміцца з мясцовым біскупам Амброзыем і пад яго ўплывам канчаткова адыходзіць ад маніхейства. А скептычныя настроі перарастаюць у «натхнёнае» захапленьне ідэямі нэаплятанізму. Адпаведна, сымпатыі да хрысьціянства прыводзяць яго да рашэньня прыняць хрост. Такім чынам адбыўся самы істотны для Аўгустына духоўны пералом.

Аўгустын пачынае старанную падрыхтоўку да хросту. З маці і вучнямі ён едзе ў прадмесьце Мэдыяляна і жыве там больш за паўгода. Тут ён і складае свае першыя філязофскія дыялёгі «Супраць акадэмікаў», «Пра парадак», «Пра дабрачыннае жыцьцё». Ізноў пераехаўшы ў Мэдыялян, Аўгустын пачынае пісаць «Пра бесьсьмяроцьце душы» і «Маналёгі». Лічыцца, што ў Вялікую ноч з 24 на 25 сакавіка 387 г. Амброзы Мэдыялянскі дае хрост Аўгустыну, а таксама ягонаму сыну і сябру.

Перад самым вяртаньнем на радзіму нечакана захварэла і памёрла ягоная маці. Ён амаль на цэлы год затрымліваецца ў Рыме. Вядома, што ў Рыме ён пачаў дыялёг «Пра вольнае рашэньне» ды трактат «Пра звычаі маніхеяў». Увосень 388 г. Аўгустын вяртаецца ў Тагасту, прадае бацькоўскі маёнтак і раздае грошы бедным. Сабе ён пакінуў маленькі дом, дзе жыў з сябрам як мніх. У 1389 г. яго напаткала яшчэ адно няшчасьце — заўчасна памёр сын Адэядат.

На радзіме Аўгустын працягвае творчую працу. У гэты час ім напісаныя творы «Пра настаўніка», «Пра музыку», «Пра колькасьць душы», завершаны трактат «Пра звычаі маніхеяў», працягваецца праца над «Вольным рашэньнем». Недзе на мяжы

390—391 гг. біскуп Гіпона Валеры ідзе насустрач жыхарам горада, і Аўгустын атрымлівае сан прэсьвітэра. Па багаславенстве Валерыя ён будуе каля Гіпона кляштар, дзе селіцца з блізкімі сябрамі. Тут і стварыў Аўгустын антыманіхейскія трактаты «Пра карысьць веры», «Пра дзьве душы» ды іншыя. У жніўні 392 г. ён праводзіць дыспут з вядомым маніхейцам Фартунатам.

А далей Аўгустына чакае разгорнутая ды напружаная палеміка з данатыстамі, з якімі зьвязаны першы царкоўны раскол. Некаторыя ерархі на чале з біскупам Маярынам ды ягоным пераемнікам Дыяклетыянам, лічачы царкву забруджанай, стварылі паралельную царкоўную арганізацыю. У 2-ой палове IV — пачатку V ст. данатысцкая царква была вельмі ўплывавая. Справа дайшла да патрабаваньня перахросту, а пасьля і ўвогуле да перамяшчэньня праблемы з сацыяльна-царкоўнай сфэры ў чыста тэалягічную плашчыню. Багаслоўскія тонкасьці гэтай спрэчкі я хацеў бы тут пакінуць убаку. Але трэба падкрэсьліць, што гэта прывяло Аўгустына ў ягонай барацьбе за адзінства царквы да больш жорсткай пазыцыі, чым тая, якую ён займаў спачатку. Апору Аўгустын знайшоў у адным з выказваньняў Новага Запавету: «І гаспадар сказаў слузе: пайдзі па дарогах і ля платоў і ўгавары прыйсьці, каб напоўніўся дом мой» (Лука,14:23). Аўгустын інтэрпрэтаваў гэта так: калі данатысты ня хочуць увайсьці ў царкву, іх трэба прымусіць.

Узімку 395—96 гг. Аўгустын атрымлівае біскупскі сан, і біскупам Гіпона ён заставаўся да самай сьмерці. Царкоўныя справы забіралі шмат часу, але палемічная ды разумова-пісьменьніцкая дзейнасьць не перапыняюцца. Якраз наадварот, яна дасягае свайго росквіту.

Ня будзем пералічваць далей усіх справаў Аўгустына, адзначым толькі яшчэ адну. 24 жніўня 410 г. вэстготы Аларыха захапілі Рым. Здавалася, што павінен разбурыцца ўвесь сьвет; узьнікла прадчуваньне сусьветнай катастрофы, якое нараджала змрочныя настроі. Існуе меркаваньне, што менавіта пад іх уплывам Аўгустын задумвае, а пасьля піша тэалёгію гісторыі «De civitate dei». Магчыма, гэтую працу варта назваць «Пра Божы лад». Аўгустын пасьпявае перад сьмерцю ня толькі завяршыць «De civitate dei» і трактат пра «Хрысьціянскае вучэньне», але і выкласьці свае думкі пра неабходнасьць выпраўленьняў ва ўсіх сваіх папярэдніх творах у трактаце «Перагляды». Аўгустын памёр летам 430 г. ў абложаным вандаламі Гіпоне.

Нягледзячы на тое, што Аўгустын не стварыў філязофскай сыстэмы ў клясычным разуменьні гэтага слова, ягоная творчасьць мае відавочную ўнутраную цэласнасьць. У пісьменстве Аўгустына б'ецца пульс самой вечнасьці, якая не дазваляе абмежаваць яго ня толькі жорсткімі рамкамі антычнасьці ды сярэднявечча, але і больш аддаленых часоў. Недарэмна менавіта Аўгустын упершыню сфармуляваў праблему часу ў такой абвострана-трагічнай форме. Праўда, гэта будзе незразумелым без агульнага ўяўленьня хрысьціянскага філёзафа пра быцьцё.

Найвялікшым быцьцём, паводле Аўгустына, павінна быць такое, якое заўсёды ёсьць аднолькавым чынам. Яно дакладна падобнае само да сябе, ні ў адной сваёй частцы не зьнікае і не мяняецца, не падуладнае часу, ня можа быць зараз іншым, чымся раней. Тое, што мяняецца, ёсьць нешта сярэдняе паміж быцьцём і нябытам. Яно заўсёды ёсьць ня тое, што было ці будзе, а тое, чым яно ўжо не зьяўляецца адносна нябыту. Зьменнае як частковая сьмерць, непаўната быцьця знаходзіцца толькі ў няўлоўна кароткіх імгненьнях сучаснага. Нязьменная ды цэласная прысутнасьць у сучасным без мінулага і будучага — вечнасьць. Вечным зьяўляецца толькі абсалютнае быцьцё.

З гэтага самага агульнага палажэньня пра быцьцё, якое мы тут ня маем магчымасьці разьвіваць, выцякала ва ўсёй паўнаце і вучэньне Аўгустына пра вечнасьць ды час. Б.Расэл прызнаваўся, што не сустракаў нічога больш дасканалага па гэтым пытаньні ў грэцкай філязофіі, як згаданыя разважаньні Аўгустына. Найбольш поўна праблема часу распрацаваная Аўгустынам у «Споведзі». Аўтар прысьвячае ёй больш за два дзесяткі разьдзелаў. Разважаньні «Споведзі» пабудаваныя на тым зыходным пасыле, што час ня можа існаваць як сучаснае ў сваёй паўнаце. Мінулае выходзіць з будучага, а будучае настае за мінулым. Мінулае і будучае зыходзяць з Таго, Хто стварае іх і для Каго іх не існуе. У сучасным мінулага ўжо няма, будучага яшчэ няма. Сучаснае пераходзіць у мінулае ці будучае, а тым самым яно ўжо ня час, а вечнасьць. З другога боку, калі ў сучасным няма ні мінулага, ні будучага, то і само яно ператвараецца ў нуль. Дык ці ёсьць час?

Эпікур казаў, што чалавек памірае, як учора нарадзіўшыся. У Аўгустына праблема хісткасьці-неакрэсьленасьці часу, а адсюль нейкай бессэнсоўнасьці жыцьця набывае куды больш агульную форму. Прычым Аўгустын ня мог тады ўжо шукаць падобнага менавіта Эпікуру выйсьця ў асалодзе. У значнай

ступені гэта было абумоўлена гістарычнай эпохай. Канчаткова ж усё вырашалася ўласным духоўным вопытам Аўгустына.

Праблему часу гіпонскі біскуп у рэшце рэшт для сябе вырашыў. Адштурхоўваючыся ад крытыкі сьцьвярджэньня, што існуюць мінуўшчына, сучаснасьць і будучыня, Аўгустын прыходзіць да наступнай высновы. Ёсьць тры формы часу: сучаснае, што датычыцца мінулых рэчаў; сучаснае, што датычыцца цяперашніх рэчаў; сучаснае, што датычыцца будучых рэчаў. Гэтыя тры аб'екты існуюць толькі ў нашай душы. Сучаснае мінулых рэчаў узьнікае ва ўспамінах (memoria), цяперашніх — у сузіраньні (intuitius), будучых, наступных — у чаканьні (expectatio).

Такім чынам, Аўгустын выпрацаваў разуменьне суб'ектыўнага часу. Яго вымярэньне ў гэтым выпадку залежыць ад яго духоўнага ўспрыняцьця. Калі ўвогуле вечнасьць і час — характарыстыкі быцьця, якія адлюстроўваюць меру яго трываласьці ды абсалютнай вызначанасьці, то для чалавека час існуе толькі ў сувязі са зьместам духу, мерай якога гэты апошні і зьяўляецца.

Акрамя таго, Аўгустын распрацаваў гіпотэзу аб'ектыўнага часу, які ён разумеў як адносіны паміж рэчамі. Такі час уяўляе сабой лад сьледаваньня рэчаў адна за другой, іх узаемнага зьмяненьня. Ён ня можа існаваць сам па сабе, бяз рэчаў, функцыяй якіх зьяўляецца. Усё гэта датычыцца і прасторы.

Пастаноўка і філязофска-тэалягічная спроба рашэньня Аўгустынам праблемы часу намнога апярэдзіла сваю эпоху. Разьвіцьцё ідэі суб'ектыўнага часу знайшло месца ў Канта, аб'ектыўнага часу — у Ляйбніца. Яны ўжо стаяць на глебе навукі, а не тэалёгіі, аднак агульны сэнс іхніх канцэпцый відавочна адлюстроўваў і дасягненьні разумовага вопыту Аўгустына. Падобнае магло адбыцца толькі таму, што Аўгустын займаўся не абстрактна-мэтафізычнымі разважаньнямі на зададзеную тэму, а глыбока пераасэнсоўваў і паўсядзённа перажываў папярэднія філязофскія вучэньні.

Шмат што са сказанага вынікае з жыцьцёвага шляху філёзафа. Але найлепшым чынам апісвае гісторыю свайго духоўнага росту зноў-такі сам Аўгустын. Згодна са «Споведзьдзю», жыцьцё і вучэньне думцы можна падзяліць на два этапы. Вынікі першага якраз падводзяцца Аўгустынам у названым творы. Кульмінацыйным пунктам гэтага этапу і стала прыняцьце хрысьціянства. У сусьветнай літаратуры няшмат твораў, якія б

вылучаліся такой шчырасьцю, псыхалягічнай напружанасьцю, з якой Аўгустын апісвае сваё духоўнае станаўленьне. У гэтай сувязі мае сэнс зварот да разгляду таго, што не задавальняла яго ў поглядах папярэднікаў.

Мы адзначалі, што Аўгустын перажыў досьвед маніхейства. Гэтае вучэньне ўзьнікла на Блізкім Усходзе і пашырылася ў III — XI стст. ад Паўночнай Афрыкі да Кітая. Яго заснавальнік, перс Мані, лічыў сваімі папярэднікамі Заратустру, Буду ды Хрыста. Вучэньне разьвіваецца ў сыстэме «трох часоў». У «першым часе» існуюць два першапачатковыя, вечныя ды супрацьлеглыя прынцыпы: дабро і зло, сьвятло і цемра (ці матэрыі), якія адмежаваныя адно ад аднаго. Зло займае поўдзень. Кожная з першасубстанцый мае пяць эманацый, ці іпастасяў ("эонаў"). У «другім часе» адбываецца зьмяшэньне двух прынцыпаў, бо зло прасякае валадарства сьвятла. Валадар сьвету нараджае першачалавека, які ўступае ў барацьбу з «архонтамі» (сынамі змроку). Для ўратаваньня першачалавека, які трапляе ў палон, Найвышэйшы Валадар стварае дух жывы, які перамагае «архонтаў» і стварае космас дзеля ачышчэньня сьвятла. У «трэцім часе» дабро канчаткова перамагае зло.

Ня цяжка заўважыць, што канцэпцыя часу Аўгустына несумяшчальная з маніхейскай. Аднак ён ня змог канчаткова вырвацца з абдымкаў маніхейскага дуалізму ва ўласна тэарэтычнай галіне. Няясна, як можна спалучыць для чалавека аб'ектыўны і суб'ектыўны час. І гэтая праблема застанецца адкрытай ажно да новаэўрапейскай філязофіі, да Канта. Выйсьце для Аўгустына ў іншым.

Чалавек у маніхействе ёсьць стварэньне цемры, але па ўзоры першачалавека. Таму ён мае ў сабе больш Боскага, чымся расьліны ды жывёлы. А значыцца, Сын Божы Езус можа ўратаваць чалавечую душу, што ён і робіць з дапамогаю «гносіса» (веды). Тут самым рашучым чынам і сутыкаецца «аўгустынізм» з маніхействам. Аўгустын ня можа дапусьціць, што Хрыстус — толькі бачнасьць. Гэта пярэчыць сапраўднасьці ахвяры дзеля ўратаваньня чалавецтва. Супярэчнасьць паміж маніхействам і поглядамі сталага Аўгустына ўзмацняецца і праз тое, што Аўгустын бачыць магчымасьць дабрачыннасьці на шляхах веры, а не «гносіса». На шляхах духоўнасьці.

У «Споведзі» яскрава паўстаюць асабістыя рысы Аўгустына. Падкрэсьлім, што Аўгустын ня проста вывучаў маніхейства, скептыцызм, але шчыра перажываў іх. Што да скептыцызму,

дык самое слова азначае ў грэцкай мове «той, хто разглядае», «дасьледчык». Тут ня месца падрабязна разглядаць усе нюансы, якія якраз і зьвязаны з лягічным дасьледаваньнем. Яны карэняцца яшчэ ва «ўсё цячэ» Гэракліта. Працягам гэтай тэзы, калі так можна сказаць, было выказваньне: «У адну і тую ж раку нельга ўвайсьці двойчы». Кратыль быццам бы працягнуў думку наступным чынам: у тую самую раку нельга ўвайсьці нават аднойчы. За ўсім гэтым стаіць зварот да мысьленьня, у параўнаньні з якім пачуцьці выкрываюць сваю падманлівасьць. Пра тое думалі элеаты. Дэмакрыт, які па лёгіцы разважаньняў быў, магчыма, найбольш блізкім да сафістаў.

Лінія праз Пірона пацягнулася да Сярэдняй Акадэміі, калі антычны скептыцызм дасягнуў найвышэйшага пункту свайго разьвіцьця. Сыстэма доказаў была даведзеная да такой дыялектычнай дасканаласьці, калі змайстраваная драбіна аргумэнтацыі сама адкідалася скептыкам, які ўзьлез па ёй на вяршыню. Аўгустыну ў ягоных пошуках патрабуецца лягічны апарат. Але ён ня можа пры гэтым задаволіцца выключна адмоўным бокам справы. Тут ён і зьвяртаецца да нэаплятанізму.

Пра сыстэматычнасьць Аўгустына складана казаць як у гісторыка-філязофскім, так і ва ўласна лягічным сэнсе слова. Тым ня менш менавіта ягоны шлях пераадоленьня сумненьняў прывёў да стварэньня парадыгмы, «узору», формы ўсёй сярэднявечнай філязофіі. Вялікая загадка — як жа атрымалася, што, нягледзячы на несыстэматычнасьць, ягоныя філязофскія працы адрозьніваюцца той унутранай цэласнасьцю, якую на працягу сярэднявечнай лацінскай традыцыі пераўзышоў хіба што Тамаш з Аквіну. Г.Маёраў слушна заўважае наконт гісторыка-філязофскага боку справы: «Застаецца толькі зьдзіўляцца таму, што, не валодаючы дастатковымі навуковымі рэсурсамі, Аўгустын усё ж такі здолеў ня толькі ўвайсьці ў кола вельмі няпростых праблем антычнай філязофіі і знайсьці ім сваё рашэньне, але і пабудаваць своеасаблівую гісторыю філязофіі, якая — наколькі б скрыўлена яна ні падавала факты — зьмяшчала ў сабе адну важкую, невядомую антычнай даксаграфіі ідэю — ідэю разьвіцьця».

Калі мы зьвернемся да прац найбуйнейшага знаўцы антычнасьці ды антычнага нэаплятанізму А.Ф.Лосева, то знойдзем у іх дастаткова матэрыялаў, на якіх якраз высьвятляецца адсутнасьць ідэі разьвіцьця ў грэка-рымскіх «гісторыкаў філязофіі». Аўгустын жа па-свойму ўвайшоў у антычныя ідэі, у

дыялектыку міта, распрацаваную нэаплятонікамі. Тут мы сьцісла разгледзім менавіта ўспрыняцьце Аўгустынам грэцкай філязофіі.

Натурфілёзафаў Аўгустын падзяляе на дзьве школы: італійскую (заснавальнік Піфагор) ды іанійскую (Фалес, Анаксымандр, Анаксымэн, Анаксагор, Дыянісі Апаляніійскі, Архелай). У літаратуры існаваў такі падыход, калі філязофія Піфагора і Фалеса супрацьпастаўляліся. Зразумела, што гэта было зьвязана зусім не філязофскай патрэбай абявязкова знайсьці «дзьве тэндэнцыі», «дзьве лініі» у філязофіі. Фалес прадстаўляў матэрыялістаў, Піфагор — ідэалістаў, містыкаў і цемрашалаў. Нават біяграфічныя зьвесткі пра гэтых дасакратыкаў сьведчаць пра недарэчнасьць падобнага супрацьпастаўленьня. Аўгустын, праўда, не займаецца біяграфіямі грэцкіх філёзафаў. Можна выказаць здагадку, што шмат чаго з адпаведнай літаратуры ён мог і ня ведаць. Аднак ён значна бліжэй да праўды згаданых опусаў. Уся натурфілязофія разглядаецца ім як суцэльны рух да ідэалёгіі, тэалёгіі. Для свайго часу гэта была вельмі нядрэнная думка.

Такая ж лёгіка ляжыць і ў аснове Аўгустынавага стаўленьня да Сакрата. Натурфілязофію ён разглядае ў поўнай залежнасьці ад Бога ды філязофіі. Сакрат жа, паводле Аўгустына, пераадолеў памылку сваіх папярэднікаў, таму вышэй за зварот да прыроды ставіў маральнае ачышчэньне.

Такім чынам, Аўгустын глядзеў на старажытнагрэцкую філязофію з пазыцый нэаплятанізму, які ў ягоных творах атрымаў адпаведную хрысьціянскую трансфармацыю. Сам таго не заўважаючы, ён скрозь такую прызму разглядае і Плятона. Адпаведна ён адхіляе сэнсуалізм стоікаў і эпікурэйцаў.

Разважаньні гіпонскага біскупа спалучаюцца з напружаным пошукам сувязі з Богам. І ў гэтым выпадку Аўгустын кажа ня толькі пра сябе, але ўвогуле пра чалавека. І бясспрэчна, усё гэта атрымлівае ў яго адпаведную эстэтычную афарбоўку. Нічога ня можа быць прыгажэйшае за тыя гармонію, рытм, сьвятло, якімі суправаджаецца яднаньне сьветаў зямнога ды нябеснага. У гэты кантэкст уваходзяць і гісторыка-філязофскія разважаньні Аўгустына. Тут мы, магчыма, толькі і падабраліся да цэнтральнай тэмы Аўгустына. Аднак спынімся на выснове, якой будзе дастаткова для дадзенага нарысу. Ці не найбольш каштоўнае ў Аўгустыне — ягоны духоўны пошук, духоўная эвалюцыя. Менавіта гэта захоўвае сваё значэньне да нашых дзён. Гэта, мне здаецца, актуальнае для любой тэарэтычнай плыні.

*Сяргей Купцоў*

# АРГАННАЯ КУЛЬТУРА НА БЕЛАРУСІ

У гісторыі беларускай інструмэнтальнай музыкі пэрыяд XVII — першай паловы XVIII ст. пакуль яшчэ недастаткова вывучаны. Такое становішча перш за ўсё зьвязана з нешматлікасьцю выяўленых і ўведзеных у навуковы зварот музычных помнікаў.

Нам пашчасьціла знайсьці асобныя ўзоры з галіны арганнай музыкі. Вывучэньне саміх крыніцаў, аналіз знойдзеных музычных твораў дае магчымасьць устанавіць у іх наяўнасьць пэўных стылёвых тэндэнцый і разгледзець гэтыя зьявы ў кантэксце агульнаэўрапейскай культуры.

Можна меркаваць, што на Беларусі арганы былі яшчэ ў першым наваградзкім касьцеле, які заснаваў вялікі князь Міндоўг (1253 г.). Пры адкрыцьці кожнага новага касьцёла на Беларусі сьвятары, законьнікі імкнуліся паказаць каталіцкае набажэнства ва ўсёй прыгажосьці. Арганы ўражвалі слых і сьвядомасьць людзей сваёй боскай веліччу. Цалкам верагодна, што ў невялікіх касьцёлах да збудовы стацыянарных інструмэнтаў маглі выкарыстоўвацца невялікія арганы — партатыў (пашыраўся ў Заходняй Эўропе ў XIII—XVI стст.), пазытыў (шырока вядомы ў Эўропе ў XIII—XVIII стст.) і рэгаль (XVI—XVIII стст.)

Партатыў — малыя пераносныя арганы. Арганісты мог несьці інструмэнт на пасе праз плячо, прычым левай рукою ён пампаваў паветра, а правай — іграў. Партатыў мог узнаўляць толькі

аднагалосьсе. Выкарыстоўваўся ў працэсыях, у ансамблевай музыцы, а таксама вындроўнымі музыкамі.

Пазытыў — пераносныя ці ўсталяваныя невялікія арганы, з адным мануалам, без пэдаля (пазьнейшыя інструмэнты мелі адзін несамастойны пэдаль). Малыя пазытывы маглі ўжывацца ў працэсыях, вялікія — перважна ў тэатрах, у хатніх умовах ці невялічкіх капліцах. Інструмэнт быў незаменным у камэрнай музыцы, асабліва ў функцыі генэрал-баса. На пазытыве выконваліся сольныя беспэдальныя творы, а таксама сольныя партыі ў ансамблевых кампазыцыях.

Рэгаль — малыя пераносныя арганы з гарызантальна разьмешчанымі толькі язычковымі трубамі; выкарыстоўваўся ў хатнім музыцыраваньні, падобна да фісгармоніі.

Самыя раньнія зьвесткі пра беларускіх прафэсыйных музыкантаў, сярод якіх былі арганістыя, належаць да 1392 г. Князь Ягайла, калі стаў польскім каралём, выклікаў да сябе ў Кракаў (паводле хронікі Длугаша) з Беларусі сьпевакоў, музыкаў і мастакоў.

Большасьць сьведчаньняў пра арганы XVI ст. на Беларусі маюць дачыненьне да Вільні, былой сталіцы Вялікага княства Літоўскага. Так, ужо ў 1510 г. у катэдры сьв.Станіслава майстар Гэрманзэлік (Hermanzelik, St.Zelik, Hermanzelug de Cracovia) змайстраваў пазытыў [34;120]. І толькі ў канцы стагодзьдзя, у 1595—98 гг. быў збудаваны першы стацыянарны інструмэнт, вельмі прыгожа дэкараваны. Аўтарам яго быў арганны майстар Ян Копэльман [26;373]. На жаль, гэтыя арганы загінулі падчас пажару ў 1610 г. А ў 1618 г. вялікі князь Жыгімонт III ахвяраваў 3500 злотых на будаўніцтва новага інструмэнта [34;121]. У канцы XVI ст. былі пабудаваныя новыя арганы і ў бэрнардынскім касьцеле, а князь Альбрэхт Радзівіл уфундаваў першыя арганы ў акадэмічным касьцеле сьв.Яна [26;372]. Пра арганы касьцёла сьв.Ганны зьвестак няма, але вядомы прозьвішчы арганістых, якія ў 80-я гады гэтага стагодзьдзя былі запісаныя да будаўніцтва сьв.Ганны: Organarius Maffon Franciscus (Italus de Brixia), арганістыя Андрэй Блюм і Ян Сарна [34;120].

Інвэнтар капэлы Ст.Баторыя (1586) сьведчыць, што там існавалі тры розныя рэгалі, а ў гарадзенскай капліцы каралеўскага замка быў нават рэгаль з флетам [26;42].

Ёсьць таксама зьвесткі, што ўжо ў 1586 г. у езуіцкім касьцеле ў Нясьвіжы таксама існавалі арганы [34;122]. Можна меркаваць, што ў XVI ст. былі арганы і ў Берасьці, бо ў

некаторых берасьцейскіх дакумэнтах тых часоў пазначаная прафэсыя арганістага [16;154]. Тое самае і ў Менску. Нам вядома імя таленавітага Сэбаст'яна з Менску [28]. Вядомым арганістым XVI ст. быў таксама Мікалай Мазовіч [28].

У XVI ст. арганы былі ва ўсіх найважнейшых віленскіх сьвятынях, існавала прыкладна 7 інструмэнтаў. Арганны майстар Grolnig Andrej [29;153] працаваў у Вільні ў 1640-72 гг.



Арганы (1726). Праабражэнскі касьцёл. Новая Мыш. Берасьцейская вобл.

У 1652 г. ён збудаваў арганы для пратэстанцкага збору. Вядома, што ў другой палове XVII ст. у Вільні працавалі таксама Ян Вэндт і Пётр Доўкша. Да гэтага ж пэрыяду належаць сьведчаньні пра арганы ў касьцеле рэгулярных канонікаў сьв.Барталамея і ў францішканскім касьцеле Унебаўшэсьця Найсьвяцейшай Панны Марыі [29;461].

Да 1627 г. адносяцца зьвесткі пра арганы ў нясьвіжскім парафіяльным касьцеле Божага Цела [26;338]. Шмат сьведчаньняў з другой паловы XVII ст. пра пабудову або існаваньне арганаў у францішканскіх касьцёлах у Пінску, Паставах, Алькіньніках, Коўне, Драгічыне ды інш. [26].

У канцы XVII ст. вялікія і якасныя арганы (на 80 рэгістраў) былі ў жыровіцкім кляштары базыліянаў [16;155].

Цікавыя ўспаміны пакінуў стольнік Пятра I А.Талстой. Праяжджаючы праз Менск, ён наведаў некаторыя тутэйшыя кляштары: «Те барнардынки при мне играли на органах и пели зело придивно», і далей: «Те бенедиктинки играли на органах и воспевали при мне зело преудивительно» [9;147].

У XVII ст. на Беларусі працавала шмат прафэсыйных арганістых. Сярод іх слуцкі арганісты Андрэй Рагачоўскі, нясьвіжскі Ян Зубрыцкі, пінскі Людвік Лапчынскі. У Паставах працаваў Андрэй Жывіцкі, у Драгічыне Тамаш Фалькоўскі [31]. Найлепшым беларускім арганістым XVII ст. быў Адам Масяжкоўскі, які працаваў пры двары вялікага князя Жыгімонта III [19;21].

Ёсьць зьвесткі і пра смаленскага арганістага Казімера Васілеўскага, які пасьля 1670 г. выехаў у Маскву. Дарэчы ў Маскве, пры царскім двары, арганнымі сьпевамі займаліся шматлікія выхадцы з Вялікага княства Літоўскага. Напрыклад, Васіль Іванаў, сын Рэп'еў, які працаваў у цара Аляксея Міхайлавіча [21].

У XVII ст. у Вільні і навогул у Княстве адзначаецца значны ўздым арганнага будаўніцтва. У гэты пэрыяд у Вільні існавала ўжо 16 інструмэнтаў рознай велічыні, некаторыя з якіх згадваюцца ў справах эўрапейскага арганнага будаўніцтва. Разьвіцьцё беларускае уніяцкае царквы таксама вельмі спрыяла пашырэньню арганаў на Беларусі. Шкада, але пасьля выпальваньня царызмам здабыткаў уніяцкае культуры толькі адзінкавыя зьвесткі пра арганы ва уніяцкіх цэрквах дайшлі да нашага часу. А менавіта ў гэтым асяродзьдзі назіраўся моцны росквіт нацыянальнага барока.

Узровень арганнага будаўніцтва на Беларусі цалкам адпавядаў эўрапейскаму. Віленскі мастацтвазнаўца кс.М.Марэлоўскі яшчэ ў 30-я гады нашага стагодзьдзя адзначыў падабенства фасадаў некаторых беларускіх арганаў XVIII ст. да флямандзкіх і паўночнафранцузскіх [32;306].

Арганнае будаўніцтва на Беларусі разьвівалася на заходнеэўрапейскім узроўні і адпавядала асноўным патрабаваньням у галіне мэханікі, а таксама стылёвым традыцыям зьнешняга аздабленьня. Пра гэта сьведчаць старадаўнія беларускія арганы, якія захаваліся да нашых часоў. Напрыклад, барокавы тып — у нясьвіжскім касьцеле, у віленскай катэдры, у гарадзенскай катэдры; тып рэнэсансны не захаваўся. Найбольш распаўсюджаны быў тып рамантычны, існаваў тып ракако, клясычны.

Шмат зьвестак маецца пра віленскія арганы XVIII ст. Яны былі ў касьцеле сьв.Казімера, у касьцеле бэрнардынак. У касьцеле аўгустынцаў і Вострабрамскім касьцеле Сьв.Тэрэзы былі пабудаваны арганы ў стылі ракако. У гэтым жа стылі былі выкананы і пазытывы ў касьцеле сьв.Міхала і ў кармэліцкім касьцеле Усіх Сьвятых [26].

У 1737—39 гг. майстар Язэп Альшанскі ўстанавіў пазытывы ў капліцы сьв.Бэнавэнтуры [34;123]. Акрамя гэтага ён рамантаваў слынныя па ўсёй Літве арганы першай паловы XVII ст. [26;372]. Язэпам Альшынскім пабудаваны і новыя арганы ў акадэмічным езуіцкім касьцеле Сьв.Яна.

У другой палове XVIII ст. новыя арганы зьявіліся ў эвангелісцкім зборы (1757 г., майстар Каспарыні [32;306]), у касьцеле бэнэдыктынак сьв.Кацярыны (1761, майстры Стэль і Людвік Клімовіч [26;373]), у дамініканскім касьцеле Сьв.Духа (1776, Д.А.Каспарыні [26;372]). У 1764-68 гг. новыя вялікія арганы ў касьцеле бэрнардынаў выканаў Мікалай Янсан [29;858,859]. У 1782 г. новыя арганы ў касьцеле сьв.Яна пабудаваў Фрыдэрык Стэль, а з 1789 да 1815 гг. у гэтым касьцеле працаваў арганісты са Слоніма Язэп Фок [26;183].

Пра саміх арганістых XVIII ст. дайшло зьвестак няшмат, у параўнаньні з колькасьцю звестак пра арганы і арганных майстроў. Але нам стала вядома яшчэ адно прозьвішча — Шымкевіч, ён працаваў у Нясьвіжы прыкладна ў 1724—30 гг. і быў таксама кампазытарам. [17]

Захаваліся сьведчаньні пра арганы XVIII ст. таксама ў касьцёлах іншых гарадоў і мястэчак — у Полацку, Нарвілішках,

Рубіне, Слуцку, Сейнах, Шырвінтах, Горадні, Ражанах, Друі ды інш. [26].




Арганы (каля 1788). Траецкі касьцёл. Ражаны.

У першай палове XIX ст. новых касьцёлаў на Беларусі будавалася значна менш, чым раней, што цалкам тлумачыцца гісторыка-палітычнымі умовамі. Таму ўвага арганных майстроў была накіраваная на рэпарацыю, аднаўленьне старадаўніх інструмэнтаў. Пабудова новых інструмэнтаў рамантычнага тыпу пачалася ў другой палове XIX ст., бо адбылося ажыўленьне будаўніцтва каталіцкіх сьвятыняў, асабліва ў заходняй частцы Беларусі.

Так, у XIX ст. віленскім арганным майстрам Мацкевічам і майстрам з Горадні Флярыянам Астрамецкім былі перабудаваныя арганы ў віленскай Вострабрамскай капліцы і касьцеле. У Вільні таксама будаваў арганы Тытман [26;228]. У 1838 г. Каспарыні перавёз арганы з полацкага касьцёла езуітаў у віленскі акадэмічны касьцёл сьв.Яна [34;207]. Цікава, што ў 1843—58 гг. у гэтым касьцеле працаваў арганістым Станіслаў Манюшка, які пакінуў шматлікія арганныя творы [26;183]. У Вільні былі таксама перанесены арганы з касьцёла аўгустынаў у катэдру, а ў 1861 г. адбылася перастаноўка арганаў з касьцёла Сьв.Казімера ў касьцёл сьв.Юра.

Новае сьведчаньне пра арганы з двума мануаламі ў францішканскім касьцеле Унебаўшэсьця Найсьвяцейшай Панны Марыі знаходзіцца ў інвэнтарным вопісе за 1861 г. [26;373]. Кіруючыся відавочнымі патрэбамі ў рэстаўрацыі і пабудове арганаў, Дамінік Бэрнацкі (1870—1928) адкрыў у 1908 г. арганную фабрыку ў Добрыні (Польшча) і яе філію ў Вільні [26;269].

У 1806 г. Янсан перабудаваў арганы ў слонімскім касьцеле бэрнардынаў [34;124]. Ёсьць сьведчаньне пра арганы ў м.Кімбараўка (Мазырскі павет) у францішканскім касьцеле сьв.Міхала [26;315]. У Дукштах, у парафіяльным касьцеле піяраў, у 1856 г. Станіслаў Длужэўскі пабудаваў новыя арганы [26;303]. Новы інструмэнт быў пабудаваны ў 1860 г. Янам Бяляўскім у Каралішчавічах, што пад Менскам. Пазьней гэты майстра рабіў фартэпіяна ў Варшаве [26;269]. Новыя арганы зьявіліся ў касьцёлах Германішкаў, Гудагая, Новай Мышы, Росі, Ішчальна, Браслава, Мёраў ды інш.

Многія дакумэнты сьведчаць, што арганістыя, якія працавалі ў беларускіх касьцёлах, мелі добрую прафэсыйную адукацыю. З самых вядомых, акрамя Манюшкі, быў Яхім Глінскі, да ўсяго яшчэ добры сьпявак і кампазытар. З 1853 да 1858 г. ён працаваў у Горадні, а ў 1880-х гадох выкладаў ігру на арганах у Віленскай

духоўнай сэмінарыі [16;156]. Прафэсар Грун з Прагі навучаў ігры на арганах у музычнай школе Гадлеўскага ў Бялынічах [26;200].

Патрэба ў высокакваліфікаваных музыкантах, якімі абавязаны былі быць касьцельныя арганістыя, была заўсёды. Таму ў 1872 г. пры менскім касьцеле сьв.Тройцы была адчынена вучэльня арганістых. Гэтая ўстанова праіснавала 26 гадоў і падрыхтавала 32 музыкантаў [18].

Абагульняючы выкладзенае вышэй, можна знайсьці пэўныя тэндэнцыі ў разьвіцьці арганнай культуры на Беларусі. Таму важна падкрэсьліць эвалюцыю гэтай культуры, якая натуральна адбывалася ва ўлоньні каталіцкага касьцёлу, што было звычайным і характэрным для Заходняй Эўропы, у адрозьненьне ад Расеі, дзе арганы выкарыстоўваліся ў сьвецкім асяродзьдзі.

Можна вылучыць некалькі этапаў у творчым засвойваньні арганаў на Беларусі і ўзрастаючае значэньне гэтага інструмэнту для нацыянальнай музычнай культуры.

Першы этап, прыкладна XIII—XIV стст., характарызуецца зьяўленьнем адзінкавых інструмэнтаў у першых беларускіх касьцёлах. Можна дапусьціць, што арганны майстар, які будаваў інструмэнт, тут жа і заставаўся працаваць арганістым, дэманструючы «дзіва» парафіянам. Верагодна, такія майстры-музыканты запрашаліся з Каралеўства Польскага, дзякуючы ўзмацненьню міждзяржаўных сувязяў. Гістарычныя зьвесткі кажуць, што ў Польшчы арганы былі вядомыя ўжо ў XI—XII стст. [26]. Ня выключана, што запрашаліся таксама арганістыя і з іншых краінаў.

Другі этап — пачатак навучаньня арганнай справе мясцовых музыкантаў. У сувязі з пашырэньнем будаўніцтва касьцёлаў быў пакладзены пачатак разьвіцьця на Беларусі дзьвюх асноўных сфэраў арганнай культуры — будаўніцтва і выканаўства, у якіх удзельнічалі і мясцовыя майстры-музыканты.

Трэці этап зьвязаны перш за ўсё з росквітам выканаўства. Рэпэртуар складаўся пямяркоўна, з літургічнай арганнай музыкі, якая яшчэ залежала ад харавой, а таксама з раснастайных п’есаў, зафіксаваных у арганных табулятурах. Вялікую ролю адыгрывала выканаўчае майстэрства замежных арганістых, а таксама азнаямленьне мясцовых музыкаў з эўрапейскай арганнай літаратурай. Гісторыя пакінула нам імёны некаторых вядомых у свой час арганістых XVI—XVII стст. Гэта Ян-арганісты з Вільні, Сэбаст’ян з Менску, Мікалай Мазовіч, Ян Сарна, Maffon

Franciscus, Адам Масяжкоўскі ды інш. Разьвіцьцю выканаўства садзейнічалі спрыяльныя грамадзка-палітычныя абставіны ў Княстве, ідэі Адраджэньня, Рэфармацыі. Кульмінацыяй так званай залатой пары ў гісторыі Беларусі былі менавіта XVI—XVII стст.

З іншага боку, адбывалася паступовае разьмежаваньне і спэцыфікацыя прафэсыяў арганістага і майстры. А ў сувязі са значным павелічэньнем колькасьці касьцёлаў і кляштараў на Беларусі ў XVI—XVII стст., адпаведна ўзрастала патрэба ў абедзьвюх прафэсіях.

Усьведамленьне неабходнасьці прафэсыйнай музычнай адукацыі для падтрымкі на высокім ўзроўні музычнай часткі каталіцкай літургіі сьведчыць пра пачатак чацьвертага этапу засваеньня арганаў. Таленавітыя мясцовыя музыканты мелі магчымасьць навучацца за мяжою у Польшчы, Чэхіі, Італіі, Францыі, Гэрманіі. Шмат замежных музыкантаў на Беларусі працавала выкладчыкамі музыкі. Навучыцца іграць на арганах можна было пры касьцеле ці кляштары. Гэта практыкавалася найбольш шырака, касьцельны арганісты сам рыхтаваў сабе зьмену. Сыстэма школаў, калегіюмаў, сэмінарыяў і акадэміяў, утвораных езуітамі на Беларусі, таксама задавальняла патрэбу ў прафэсыйных арганістых. У некаторых установах такога тыпу навучаньню музуцы, у тым ліку арганнай, надавалася асаблівая ўвага, як, напрыклад, у Віленскай і Полацкай акадэміях, Пінскім калегіюме.

Пяты, найвышэйшы этап засваеньня арганаў на Беларусі, зьвязаны з пачаткам разьвіцьця важнай і паказальнай сфэры арганнай культуры — кампазытарскай творчасьці. Першыя ўзоры арганнай музыкі мясцовага паходжаньня належаць да XVI—XVII стст. З аднаго боку, запрошаныя замежныя кампазытары, што працавалі на Беларусі — палякі, чэхі, італьянцы, немцы — ужо прыўносілі ў свае творы характэрныя мясцова-бытавыя элемэнты. З іншага боку, мясцовыя кампазытары-арганістыя, валодаючы прафэсыйнай музычнай адукацыяй і грунтуючыся на дасягненьнях эўрапейскай культуры, спрабавалі свае сілы ў кампазыцыі. Арганы на пачатку выкарыстоўваліся імі традыцыйна ў якасьці ансамблевага інструмэнту. Крыху пазьней зьявіліся апрацоўкі літургічных сьпеваў, якія паслужылі асноваю для стварэньня сольных арганных кампазыцыяў, у тым ліку і пазалітургічнага пляну.

Такім чынам, пачатак кампазытарскай творчасьці для арганаў ёсьць найвышэйшым этапам у засваеньні гэтага інструмэнту. На Беларусі ён амаль супаў з пачаткам барока. Наяўнасьць і цеснае ўзаемадзеяньне ўжо ў тыя часы арганнага будаўніцтва, выканаўства і творчасьці сьведчылі пра станаўленьне на Беларусі новай арганнай культуры, якая мела пэўны ўздым у XVII—XVIII стст. Трывалыя сувязі з Заходняй Эўропай, натуральнае існаваньне арганаў ва ўлоньні каталіцкага касьцёлу, спрыяльныя грамадзка-палітычныя ўмовы садзейнічалі разьвіцьцю гэтай культуры. І адбывалася яно ў кантэксце станаўленьня эўрапейскіх нацыянальных арганных школаў.

*Уладзімер Неўдах*

1. Бюкэн Э. Музыка эпохи рококо и классицизма. М.,1934.
2. Вельфлин Г. Основные понятия истории искусств. М-Л.,1913.
3. Гісторыя беларускага мастацтва. Т.2,3. Мн.,1986, 1989.
4. Грамадскі быт і культура грамадскага насельніцтва Беларусі.Мн.,1990.
5. Католицизм в Белоруссии. Традиционализм и приспособление.Мн.,1987.
6. Конон В. От Ренессанса к классицизму. Мн.,1978.
7. Ксёндз Адам Станкевіч. Родная мова ў сьвятынях. Вільня,1929; новы друк: Мн.,1992.
8. Кулагин А.Н. Архитектура и искусство рококо в Белоруссии.Мн.,1989.
9. Ливанова Т. Очерки и материалы по истории русской музыки и культуры. М.,1933.
10. Лихачев Д.С. Развитие русской литературы. Л.,1973.
11. Лыч Л. Рэлігія і мова // ЛіМ, 1991, 16 жніўня.
12. Мальдзіс А. На скрыжаваньні славянскіх традыцый. Мн.,1980
13. Мараш Я.Н. Ватикан и католическая церковь в Белоруссии.Мн.,1980.
14. Мараш Я.Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII в. Мн.,1974.
15. Музыка барокко и классицизма; Сб.тр.ГМПИ вып.84,М.1986.
16. Назіна І.Д. Арганы на Беларусі // Помнікі мастацкай культуры Беларусі. Мн.,1986.
17. Неўдах Ул. Адна старонка мінуўшчыны // Мастацтва Беларусі, 1991, N10.
18. Ничков Б.В. Минское училище органистов. Рукопись.
19. Прывалаў М. Народныя музычныя інструмэнты Беларусі. Мн., 1928.
20. Рогов А.И. Проблемы славянского барокко // Славянское барокко. М.,1979.
21. Ройзман Л. Орган в истории русской музыкальной культуры. М.,1979.
22. Ф.Скарына і яговы час. Энцыкляпэдычны даведнік. Мн.,1990.
23. Чантурия В.А. История архитектуры Белоруссии. Мн.,1969.
24. Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Мн.,1928.
25. Якимович Н.А. Зодчество Белоруссии. Мн.,1991.
26. Golos J. Polskie organy i muzyka organowa. Warszawa,1972.
27. Haas R. Die Musik des Barok // Handbuch der Musikwissenschaft Hrsg. von E.Bucken. Wildpark--Potsdam, 1928/29.
28. Irinskis L. Kirchengesang in Litauen im 16--17 Jh. // Commentationes Balticae. I Bonn,1953.
29. Lopacinski E. Materialy z dziejow rzemiosla artystycznego w Wielkim Ksiestwie Litewskim (XV--XIX ww.). W-wa,1946.
30. L'Osservatore Romano, 1984, N3.
31. Mizgalski J. Organisci i organmistrze // Prace Naukowe Instytutu Muzykologii U.W. W-wa,1961.
32. Morelowski M., ks. Snycerz Gedowski, mistrz Casparini i organy grupy Wilenskij XVIII w. // Prace i materialy Sprawozdawcze Sekcji Historii sztuki TRN w Wilnie. T.3.Wilno,1938/39.
33. Seeger H. Musiklexikon. Leipzig,1966. Bd. 1--2.
34. Smulikowska E. Prospekty organowe w dawnej Polsce. Wroclaw. Ossolineum. 1989.
35. Sokolowska I. Spory o barok. W-wa,1976.

| Дата | Мясцовасьць | Месца існаваньня | Інструмэнт | Арганны майстар | Арганісты | Дадатковыя зьвесткі | Крыніцы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| XVI ст. | Менск | | | | Сэбаст'ян з Менску | | 28 |
| | | | | | Мікалай Мазовіч | | 28 |
| 1510 | Вільня | катэдра | пазытыў | Hermanzelik (Stan.Zelik; Hermozelyg de Cracovia) | | | 34;120 |
| 1525 | Вільня | катэдра | | | | Пісьмо з Рыма да каноніка капітулы | 34;120 |
| 1550 | Вільня | | | | «Іянъ аръганіста неколи бывшего Яна Тихого сынъ поданый его милости князя бискупа виленскага» | | 16;154 |
| 1565-66 | Берасьце | | | | Сярод розных прафэсыяў адзначана прафэсыя арганістага | | 16;154 |
| 1580<br>1583<br>1580-83 | Вільня | касьцёл сьв.Ганны | | | Organarius Maffon Franciskus (Halus de Brixia)<br>Blum Andrej<br>Sama Jan | Запісаныя да брацтва Сьв.Ганны пры касьцеле Сьв.Ганны | 34;120<br>29;67,71 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1586 | Горадня | капліца каралеўскага замка | рэгаль з флетам | | | | 26;42 |
| 1586 | Горадня | | тры розныя рэгалы | | | Інвэнтар капэлы Ст.Баторыя | 26 |
| 1586 | Нясьвіж | езуіцкі касьцёл | | | | | 34;122 |
| 1595-98 | Вільня | катэдра | першыя арганы | Ян Копэльман | | | 26;373 34;121 |
| канец XVI ст. | Вільня | касьцёл акадэм. сьв.Яна | першыя арганы | | | Уфундаваў князь Альбрэхт Радзівіл | 26;372 |
| 1598<br><br>1616 | Вільня | бэрнардынскі касьцёл | <br><br>Спамінаньні аб збудаваньні тых арганаў | | | Атрымалі грошы на будаваньне арганаў з капітулы<br><br>1-ая пал. XVII ст. — у касьцеле сьв.Францішка і Бэрнарда «вядомыя па цэлай Літве арганы» | 26;372 34;121 |
| XVII ст. | Вільня | Існавала прыкладна 7 інструмэнтаў Арганы ва ўсіх буйнейшых сьвятынях | | | | | 34;121 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ражаны (Ружаны) | | Спамінаньні аб арганах | | Андрэй Рагачоўскі | | 16;155 |
| | Слуцак<br>Нясьвіж<br>Пінск<br>Паставы<br>Драгічын | | | | Ян Зубрыцкі<br>Людвік Лапчынскі<br>Андрэй Жывіцкі<br>Тамаш Фалькоўскі | | 31 |
| 1618 | Вільня | катэдра | | | | Жыгімонт III даў 3500 зл. на пабудову новых арганаў | 34;121 |
| 1627 | Нясьвіж | параф. касьцёл Божага Цела | Спамінаньні аб арганах | | | | 26;338 |
| 1652 | Вільня | пратэстанцкі збор | | Андрэй Грольніг | | Працаваў на працягу 1640 — (1672) гг. | 29;153<br>34;121 |
| 1653 | Вільня | касьцёл канонікаў рэгулярных сьв. Баргаламея | Паведамленьне пра арганы | | | | 26;372<br>34;121 |
| 1658 | Вільня | | | Станіслаў Валынскі | | | 29;170 |
| 1663 | Вільня | | | Лорэнс | | Аплаціў падатак за ўласны дом | 29;190<br>34;121 |
| 1670 | Смаленск | | | | Казімер Васілеўскі | Пасьля выехаў у Маскву | |
| 1679 | Пінск | францішканскі касьцёл | Пасьведчаньне аб арганах | | | | 26;345 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1686 | Паставы | францішканскі касьцёл | Пасьведчаньне аб арганах | | | | 26;347 |
| 1686 | Вільня | францішканскі касьцёл Унебаўшэсьця Найсьв. Панны Марыі | Пасьведчаньне аб арганах | | | | 26;373 |
| 1686 | Вільня | францішканскі кляштар | | Амброзі Грушкоўскі | | Зьвестка аб сьмерці | 34;121 |
| 1694 | Вільня | | | Ян Вэндт Пётра Доўкша | | Судовая справа | 29;461 |
| 1697 | Алкіньнікі (Вілен.губ) | францішканскі касьцёл | Пасьведчаньне аб арганах | | | | 26;342 |
| 1699 | Коўна | францішканскі касьцёл (да 1830 г.) | Пасьведчаньне аб арганах | | | | 26;317 |
| 1698 | Менск | кляштар бэрнардынак, кляштар бэнэдыктынак | Зьвесткі пра арганы | | Зьвесткі пра выканаўцаў | Успаміны стольніка Пятра І А.Талстога | 9;147 |
| | | двор караля Жыгімонта ІІІ | | | Адам Масяжкоўскі | Адзін з лепшых арганістых XVIIст. | 19;21 |
| да 1696 | Вільня | | | Антон з Вільні | | бэрнардынскі будаўнік | 26;268 |
| канец VII ст. | Жыровічы | базыліянскі кляштар | Якасныя арганы на 80 рэгістраў | | | Лічыўся адным з найлепшых | 16;155 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| XVIII ст. | Вільня | касьцёл сьв.Казімера | Зьвесткі пра арганы | | | У 1861 г. перанесеныя ў касьцёл сьв.Юрыя | 26;372 |
| | Вільня | касьцёл сс.Бэрнардынак | Зьвесткі пра арганы | | | | 26;373 |
| | Вільня | касьцёл сьв.Міхала | Пазытыў у стылі ракако | | | | 26;373 |
| | Вільня | кармэліцкі касьцёл Усіх Сьвятых | Пазытыў | | | З дакумэнтаў за 1861 г. | 26;373 |
| | Вільня | касьцёл аа.Аўгустынцаў | Зьвесткі пра арганы ў стылі ракако | | | У 1857 г. перанесеныя ў катэдру сьв.Станіслава | 26;373 |
| | Вільня | касьцёл сьв.Тэрэзы | Зьвесткі пра арганы ў стылі ракако | | | 1859 г. — рамантаваў Мацкевіч | 26;373 |
| | У Вільні і ў ВКЛ — значны росквіт арганнага будаўніцтва. У XVIII ст. у Вільні існавала 16 інструмэнтаў рознай велічыні, некаторыя ўспамінаюцца ў справах эўрапейскага арганнага будаўніцтва. Вялікая роля уніятаў. Падабенства фасадаў віленскіх і іншых арганаў да флямандзкіх і паўночна-французскіх. | | | | | | 34;122 |
| 1702 | Вільня | | | Будард | | | 29;514 |
| 1706 | Нарвілішкі | францішканскі касьцёл | Пасьведчаньне пра арганы | | | | 26;337 |
| 1727-30 | Нясьвіж | | | | Шымкевіч | Кампазытар | 17 |
| 1735 | Вільня | акадэм.касьцёл сьв.Яна | Новыя арганы | Язэп Альшынскі | | Брацішак бэрнардынскі | 34;123 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1737 | Вільня | касьцёл сьвятых Францішка і Бэрнарда | Вядомыя па ўсёй Літве арганы ў 1-й пал. XVII ст. | рамантаваў Язэп Альшынскі | Шымкевіч | Барокавае афармленьне | 26;372 34;123 |
| 1737-39 | | | Паставіў яшчэ пазытыў | Язэп Альшынскі | | | |
| 1737 | Вільня | капліца сьв.Бэнавэнтуры | Пазытыў | паставіў Язэп Альшынскі | | | 34;123 |
| 1-ая пал. XVIII ст. | Полацак | | Другія па велічыні арганы на 60 галасоў | Дамінік Адам Каспарыні | | Існавалі там прыкладна да 1750 г. | 16;156 |
| 1752 | Губін (Віцебская вобл.) | францішканскі касьцёл | Пасьведчаньне пра арганы | | | Касьцёл зачынены ў 1833 г. | 26;309 |
| 1752-59 | Слуцак, Вільня і аколіца | | | Паўцнэр (Панцнэр) | | (J.C.Panzner з Прагі?) | 26;282 |
| 1753-54 | Вільня | дамініканскі касьцёл сьвятых Паўлы і Якуба | Пазытыў | Рэпарацыю рабіў Фрыдэрык Шэль | | Па іншых зьвестках Col (у 1753—82 гг. працаваў) [122,795,947] | 34;123 |
| 1757 | Вільня | эвангеліс-цкі збор | | Каспарыні | | | 32;306 |
| 1761 | Вільня | касьцёл сс.Бэнэдыктынак сьв.Кацярыны | Новыя арганы | Пабудавалі Шэль і Людвік Клімовіч | | 1865 г. Шэль плаціў таксу ў магістрат [122,859] | 26;373 34;123 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1762-67 | Друя | бэрнардынскі касьцёл | Зьвесткі пра пабудову арганаў | | | | 34;126 |
| 1762 | Сейны | касьцёл дамініканаў | Пасьведчаньне пра арганы | Ананімны аўтар | | | 34;124 |
| 1762 | Полацак | драўляны францішканскі касьцёл | Пазытыў | | | | 16;156 |
| 1764-68 | Вільня | бэрнардынскі касьцёл | Вялікія новыя арганы | Выканаў Мікалай Янсан | | | 29;858,859 26;275 |
| 1770 | Шырвінты | параф. касьцёл | | Адам Готліб Каспарыні | | У 1859 г. перанесеныя да збору ў Цялічках; 1765 г. — успамінаюцца ў віленскіх дакумэнтах [110,270] | 34;124 |
| 1770-76 | Полацак | езуіцкі касьцёл | | Дамінік Адам Каспарыні | | У 1838 г. перанесеныя ў Вільню да касьцёла сьв.Яна | 26;374 34;207 |
| 2-ая пал. XVIII ст. | Горадня | прыкляшторны касьцёл | | Каспарыні | | | 34;126 |
| 1772 09.08 | Горадня Мілян | | | | | Ліст Бэц-Тызэнгаўзу пра набыцьцё арганаў ў Міляне | 16;156 |
| 1776 | Вільня | дамініканскі касьцёл сьв.Духа | Новыя арганы | Дамінік Адам Каспарыні | | | 26;372 |

© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1781 | Слонім | касьцёл сьв.Андрэя | «Пазытыў на хорах, які рамонту патрабуе» | | | (Інвэнтарны вопіс) | 16;156 |
| 1782 | Вільня | касьцёл сьв.Яна | Новыя арганы | Фрыдэрык Шэль | | | 34;123 |
| 1785 | Ражаны | дамініканскі касьцёл сьв.Тройцы | Новыя арганы | Мікалай Янсан | | | 34;124 |
| 1797 | Слонім | | | Ян Бурэк | | Міх.Казімер Агінскі замовіў арганы за 1800 гульдэнаў | 26;270 |
| 1778 — 1836 | | | | Якуб Фалькоўскі | | Дамініканін, працаваў ў ВКЛ | 26;272 |
| 1789 — 1815 | Вільня | касьцёл сьв.Яна | | | | | 26;183 |
| XVIII ст. | Вільня | касьцёл сьв.Ганны | Пасьведчаньне пра арганы на 18 галасоў | | Язэп Фок са Слоніма | | 26;372 |
| XIX ст. 1800 | Кімбараўка (Менск.вобл.) | францішканскі касьцёл сьв.Міхала | Пасьведчаньне пра арганы | | | | 26;315 |
| 1806 | Слонім | бэрнардынскі касьцёл | Арганы перабудаваў | Янсан | | | 34;124 |
| 1-ая пал. XIX ст. | Вільня | | | Тытман | | Будаваў арганы ў Вільні | 26;288 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| XIX ст. (да 1860) | Вільня<br>Вільня | касьцёл і капліца Вострабрамская<br>Вострабрамская капліца | Арганы перабудаваў | Мацкевіч<br>Флярыян Астрамецкі | | «Віленскі арганны майстар»<br>Майстар з Горадні | 26;279<br>34;207 |
| 1838 | Полацак—Вільня | з полацкага касьцёла езуітаў у віленскі касьцёл сьв.Яна | Перавезеныя арганы | Каспарыні | | | 26;372<br>34;207 |
| 1843 — 1858 | Вільня | касьцёл сьв.Яна | | | Станіслаў Манюшка | Напісаў шмат твораў для арганаў | 26;183 |
| 1853-58 | Горадня | | | | Яхім Глінскі | Таксама сьпявак і кампазытар, у кан. 1880-х г. выкладаў ігру на арганах у Віленскай духоўнай сэмінарыі | 16;156 |
| 1856 | Дукшты | параф.касьцёл аа.Піяраў | Арганы пабудаваў | Станіслаў Длужэўскі | | | 26;303 |
| 1857 | Вільня | з аўгустынскага касьцёла ў катэдру | Перанесеныя арганы | | | | 26;373 |
| 1860 | Каралішчавічы (пад Менскам) | | Арганы пабудаваў | Ян Бяляўскі | | Потым рабіў фартэпіяна ў Варшаве | 26;269 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1860 | Бялынічы | муз. школа Гадлеўскага | | | Прафэсар Грун з Прагі | Выкладаў ігру на арганах | 26;200 |
| 1861 | Вільня | з касьцёла сьв.Казімера ў касьцёл сьв.Юрыя | Перанесеныя арганы | | | | 26;372 |
| 1861 | Вільня | францішканскі касьцёл | Арганы, 2 мануалы | | | Інвэнтар | 26;373 |
| 1870 | Дубенец | | Арганы збудаваў | Ігнат Палашэвіч | | | 26;282 |
| 1872 — 1894 | Менск | касьцёл сьв.Тройцы | Вучэльня арганістых; інструктар Я.Сенчыкоўскі. Выпусьцілі 32 арганістых | | | | 18 |
| 2-ая пал. XIX ст. | Германішкі | | | Андрэй Бломбэрг | | | 16;156 |
| канец XIX ст. | Гудагай | касьцёл Маці Божай | | Станіслаў Крупоўскі і ягоны сын | | | 16;156 |
| 1891 | Новая Мыш | касьцёл Ператтварэньня Панскага | Арганы пабудаваў | Флярыян Астрамецкі | | | 16;156 |
| 1899 | Рось | касьцёл сьв.Тройцы | Арганы пабудаваў | Флярыян Астрамецкі | | | 16;156 |
| 1908 | Вільня | | | Дамінік Бэрнацкі (1870—1928) | Адкрыў арганную фабрыку ў Добрыні (Польшча) і яе філію ў Вільні | | 26;269 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1910 | Ішчальна | касьцёл сьв.Тройцы | Арганы пабудаваў | Вацлаў Бэрнацкі | | | 16;156 |
| 1935-37 | Пінск | франці-шканскі касьцёл | Арганы з XVII ст. | Рэпараваў Вацлаў Бэрнацкі | | | 16;156 |



Spradwiečnaje

*Анатоль* ***ГРЫЦКЕВІЧ***

# УНІЯЦКАЯ ЦАРКВА НА БЕЛАРУСІ Ў КАНЦЫ XVII — ПАЧАТКУ XIX СТАГОДЗЬДЗЯЎ

Гісторыя уніяцкай царквы на Беларусі прыцягвала ўвагу дасьледчыкаў ужо ў XIX ст., калі былі апублікаваны навуковыя працы галоўным чынам расейскіх і польскіх гісторыкаў. У XX ст. гісторыя уніяцтва разглядвалася ў агульных працах па гісторыі Беларусі, спэцыяльных дасьледаваньняў было значна менш. Але цікавасьць да гэтай навуковай праблемы захавалася і асабліва ўзрастае цяпер у сувязі з адраджэньнем на Беларусі каталіцкай царквы ўсходняга абраду.

У навуковай літаратуры існуюць два погляды на гісторыю уніяцкай царквы. Адзін з іх — пагляд гісторыкаў рускай праваслаўнай царквы XIX ст. (М.М.Бантыш-Каменскі, М.О.Каяловіч, І.А.Чыстовіч ды іншыя). Да іх ліку далучыліся ў 50—80-я гг. XX ст. беларускія гісторыкі, прадстаўнікі афіцыйнай,

сталінісцкай гістарычнай навукі ў БССР (Л.С.Абэцэдарскі, Я.Н.Мараш ды інш.).

Іншы пагляд на гісторыю уніяцтва ў гісторыкаў каталіцкага касьцёла XIX ст. (Ю.Пелеш, Э.Лікоўскі ды іншыя).

Праваслаўныя гісторыкі бачаць уніяцкую царкву ў цёмных фарбах як носьбіты антыкаталіцтва. Афіцыйныя ж гісторыкі БССР былі з імі салідарныя ў ацэнцы уніяцтва— з палітычных пазыцый савецкай гістарычнай навукі з яе варожасьцю да Ватыкана і каталіцкага касьцёлу і прыхільнасьцю да праваслаўнай царквы ў рэтраспэктыве. Гэта сыходзіць з цэнтралісцкага маскоўскага падыходу наогул да гісторыі Беларусі ды іншых суседніх краін. Гісторыкі каталіцкага касьцёлу падаюць гісторыю уніяцкай царквы больш аб'ектыўна.

Уніяцкая царква на тэрыторыі Беларусі ў XVIII ст. ахапіла сваёй душпастырскай дзейнасьцю шырокія масы гарадзкога і асабліва сельскага насельніцтва. Праз некалькі гадоў пасьля далучэньня ўсходняй часткі Беларусі да Расейскай імпэрыі, у 1777 г. у Магілёўскай губэрні, як адзначана ў «Атласе Магілёўскай губэрні 1777 г.», уніяцкая царква і манастыры складалі 68,4% ад агульнага ліку ў губэрні, рымска-каталіцкія — 10%, а праваслаўныя — 21,6%. Да канца XVIII ст. 75% жыхароў Беларусі былі уніятамі (у сельскай мясцовасьці 80%). У 1791 г. сярод насельнікаў Вялікага княства Літоўскага было 39% уніятаў, 38% каталікоў, 6,5% праваслаўных і 16,5% іншых веравызнаньняў. Пераважная большасьць насельніцтва этнічнай Летувы была каталікамі. Праваслаўныя заставаліся толькі ва ўсходняй частцы Беларусі, дзе знаходзілася каля паловы ўсіх праваслаўных Рэчы Паспалітай, таксама на Случчыне і Піншчыне.[1] Такім чынам, пераважная большасьць насельніцтва Беларусі ня ведала ніякага рэлігійнага прыгнёту, пра які пісалі дарэвалюцыйныя расейскія і савецкія гісторыкі, у тым ліку беларускія. Уніяты даўно ўжо прызвычаіліся да сваёй царквы. З канца XVI да канца XVII ст. беларуская мова ў рэлігійным жыцьці была раўнапраўнаю з царкоўнаславянскаю. Навучаньне, малітвы, за выключэньнем літургіі, адбываліся на беларускай мове. У XVIII ст. беларуская мова ва уніяцкай царкве абмяжоўваецца. Аднак у розных пастановах гэтага пэрыяду загадвалася гаварыць з вернікамі на іх мове, або «простай мове», выкладаць катэхізм, тлумачыць Эвангельле, прамаўляць казаньні па-беларуску.[2]

Уніяцкае духавенства набывала адукацыю ў найлепшых каталіцкіх духоўных школах і было добра адукаванае.[3] Герой паўстаньня 1863 г. Вінцэнт Кастусь Каліноўскі лічыў (паводле газэты «Мужыцкая праўда»), што уніяцкая царква стала нацыянальнай царквою беларускага народу.

На пачатку XVIII ст. у склад уніяцкай царквы ў Рэчы Паспалітай уваходзілі: мітраполія кіеўская (з цэнтрам у Вільні), дзьве архіепархіі — Полацкая, або Полацка-Віцебская, і Смаленская, епархіі Берасьцейска-Уладзімірская, Турава-Пінская, Бэлзска-Холмская, Астрожска-Луцкая, Галіцка-Львоўская і Самборска-Перамышльская.[4] Такі яе склад захаваўся да канца XVIII ст.

У выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай усходняя частка Беларусі была далучаная да Расейскай імпэрыі. На гэтым абшары была уніяцкая Полацкая архіепархія, галавою якой быў Я.Смагаржэўскі. Тут знаходзіўся таксама і смаленскі архіепіскап Лапкоўскі, архіепархія якога была невялікая. Урад Кацярыны II царскім указам ад 14 сьнежня 1772 г. зацвердзіў Я.Ю.Смагаржэўскага епіскапам беларускіх уніятаў.[5] У 5-ым пункце трактату (які зацвярджаў першы падзел тэрыторыі Рэчы Паспалітай), заключанага 7 (18) верасьня 1773 г. паміж Расеяй і Рэччу Паспалітай, гаварылася аб захаваньні на тэрыторыі Усходняй Беларусі каталіцкай царкве абодвух абрадаў, г.зн. лацінскага і уніяцкага, усёй маёмасьці, уласнасьці, правоў і прывілеяў, якія належалі ёй за часоў Рэчы Паспалітай. Кацярына II за сябе і сваіх пераемнікаў гарантавала каталіцкаму касьцёлу захаваньне яго становішча і запэўнівала, што касьцёлу ня будзе рабіцца ніякай шкоды.[6] Разам з тым дзейнасьць каталіцкай і уніяцкай цэркваў абмяжоўвалася. З пануючых веравызнаньняў рымска-каталіцкае і уніяцкае сталіся «терпимыми», як адзначана ў лісьце да прымаса Рэчы Паспалітай. Указам Кацярыны II забаранялася каталіцкім і уніяцкім сьвятарам схіляць праваслаўных да сваёй веры.[7]

Не зважаючы на дэкляратыўны артыкул трактату 1773 г., расейскі ўрад адразу ж пачаў актыўна дзейнічаць. Ужо да канца 1774 г. у пяці беларускіх правінцыях Пскоўскай і Магілёўскай губэрняў — Полацкай, Віцебскай, Аршанскай, Мсьціслаўскай і Рагачоўскай — 429 цэркваў былі перададзены ад уніяцкай царквы да праваслаўнай, а з уніі ў праваслаўе пераведзена 688 чалавек. Да таго ж у лацінскі абрад перайшло яшчэ 486 дарослых.[8] У 1778 г. пасьля сьмерці апошняга смаленскага

уніяцкага архіепіскапа І.Лапковіча гэтая невялікая архіепархія атрымала праваслаўнага зьверхніка.[9] Кантроль за дзейнасьцю рымска-каталіцкай і уніяцкай царквы на тэрыторыі Беларусі заставаўся за расейскімі ўладамі. 3 ліпеня 1779 г. Кацярына II указам на імя беларускага генэрал-губэрнатара забараніла ўезд у Расею замежнаму рымска-каталіцкаму і уніяцкаму духавенству, у тым ліку правінцыялам, візытатарам ды іншым.[10]

Загадам Кацярыны II на імя графа З.Р.Чарнышова 2 ліпеня 1780 г. забаранялася уніяцкаму мітрапаліту ў Рэчы Паспалітай Я.Смагаржэўскаму, куды ён пераехаў з Полацкай архіепархіі, кіраваць справамі уніяцкай царквы на тэрыторыі Полацкага і Магілёўскага намесьніцтваў імпэрыі. Для кіраваньня уніяцкай царквою ва Усходняй Беларусі імпэратрыца загадала ўтварыць кансысторыю з трох-чатырох духоўных асобаў уніяцкай царквы, «людзей верных, падданствам Нам абавязаных і паводзін добрапрыстойных». Генэрал-губэрнатару было загадана ў выпадку вакансый ва уніяцкіх цэрквах апытваць вернікаў, ці ня згодныя яны мець праваслаўнага сьвятара. І тады праваслаўны архіепіскап пскоўскі прызначаў праваслаўнага сьвятара ў Пскоўскай губэрні, а епіскап Магілёўскі — у Магілёўскай. Калі ж жыхары-уніяты хацелі мець уніяцкага сьвятара, тады уніяцкая кансысторыя часова даручала суседняму сьвятару служыць і ў вакантным прыходзе, пакуль імпэратрыца не прызначыць новага уніяцкага архіепіскапа, а той ужо рукапаложыць новага сьвятара, але толькі такога, які жыве ў Расейскай імпэрыі.[11] У тым жа 1780 годзе, 20 лістапада, сэнат прыняў указ, паводле якога дзеці ад шлюбаў бацькоў розных хрысьціянскіх веравызнаньняў, у тым ліку і ад уніятаў, павінны былі быць ахрышчаны: сыны — у бацькавай веры, а дочкі — у матчынай.[12]

Толькі ў 1784 г. полацкім уніяцкім епіскапам быў зацьверджаны Іраклій Лісоўскі, і яму падпарадкавана ўсё уніяцкае духавенства і базыліянскія кляштары ў Полацкай і Магілёўскай губэрнях.[13]

У гэты час на беларускіх і ўкраінскіх землях Рэчы Паспалітай царызм таксама пачаў наступ на уніяцкую царкву, толькі ў завуаляваным выглядзе. У 1784—1785 гг. Кацярына II праз сваіх дыпляматаў у Варшаве настойвала, каб кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі згадзіўся зацьвердзіць намінацыю Кацярыны II архімандрыта слуцкага Траецкага манастыра Віктара Садкоўскага вікарыем кіеўскага мітрапаліта ў сане епіскапа Пераяслаўскага і Барыспальскага з рэзыдэнцыяй у

Слуцку. Гэты праваслаўны епіскап быў зацьверджаны каралём і стаў першаерархам усіх праваслаўных у Рэчы Паспалітай. Спроба уніяцкага мітрапаліта Я.Смагаржэўскага, епіскапаў і архімандрытаў базыльянскіх кляштараў перадухіліць гэтае ўзмацненьне праваслаўнай царквы на Беларусі і Украіне была дарэмнай.[14] Садкоўскі адразу пачаў дзейнічаць. Калі ён атрымаў сан епіскапа ў 1785 г., на Беларусі было толькі 94 царквы, з іх больш за палову перайшлі да праваслаўных яшчэ за часоў магілёўскага архіепіскапа Г.Каніскага, а ў 1787 г. пад уладай В.Садкоўскага было ўжо 300 цэркваў.[15]

Пасьля сьмерці Я.Смагаржэўскага на мітрапаліта быў абраны Феадосі Растоцкі (1788 г.), даўні базыліянін, які скончыў у Рыме грэцкую калегію. Ф.Растоцкі падчас працы ўпершыню дамогся сэнатарскага крэсла. 29 ліпеня 1790 г. сойм Рэчы Паспалітай надаў годнасьць сэнатара «правелебнаму архіепіскапу кіеўскаму, мітрапаліту ўсяе Русі цяперашняму і ўсім ягоным пераемнікам...»[16] Уніяцкі мітрапаліт заняў месца ў сэнаце пасьля каталіцкіх біскупаў лацінскага абраду. Сойм упаўнаважыў мітрапаліта хадайнічаць у Рыме аб адкрыцьці новай уніяцкай епархіі ў Менску для той часткі Полацкай епархіі, якая засталася ў складзе Рэчы Паспалітай пасьля першага яе падзелу. Было таксама пастаноўлена ўтварыць у кожнай уніяцкай епархіі духоўныя сэмінарыі, а пры катэдрах — капітулы з шасьці сьвецкіх духоўных. Былі прызначаны таксама пэнсыі для уніяцкіх епіскапаў. Камісыю сойму, якая разглядала патрэбы уніяцкай царквы, ачаляў мітрапаліт Растоцкі.[17]

Але гэтае пашырэньне правоў уніяцкай царквы працягвалася ўсяго некалькі гадоў. У 1793 г. Расея і Прусія падпісалі трактат аб другім падзеле Рэчы Паспалітай. Паводле яго цэнтральная частка Беларусі, а менавіта Менскае, часткі Полацкага і Наваградзкага ваяводзтваў, Правабярэжная Украіна, частка Валыні і Падольле былі ўключаны ў склад Расейскай імпэрыі. На сойме ў Горадні (1793 г.) у 8-ым пункце трактату з Рэччу Паспалітай Кацярыны II гарантавала ў новадалучаных землях каталікам абодвух абрадаў захаваньне ўсіх правоў і прывілеяў, маёмасьці, касьцёлаў і цэркваў, непарушнасьці набажэнства і ўсяго, зьвязанага з выкананьнем рэлігійнай чыннасьці. Але ў тым жа годзе на нарадзе з найвышэйшым праваслаўным духавенствам імпэрыі абмяркоўвалася пытаньне: «як можна лягчэй і найлепей схіліць польскіх уніятаў да праваслаўнай

грэцкай царквы».[18] Такім чынам, нягледзячы на ўрачыстыя абяцаньні, царскі ўрад пачаў новы наступ на уніяцкую царкву.

22 красавіка 1794 г. выйшаў чарговы ўказ Кацярына II «Аб скасаваньні ўсялякіх перашкод да схіленьня уніятаў да праваслаўнай грэцкай царквы».[19] Імпэратрыца загадвала генэрал-даручніку Ц.І.Туталміну, які выконваў абавязкі менскага, ізяслаўскага і брацлаўскага генэрал-губэрнатара, распаўсюдзіць з дапамогай земскай паліцыі па ўсіх гарадах і вёсках новадалучаных губэрняў пастырскую грамату праваслаўнага архіепіскапа менскага, ізяслаўскага і брацлаўскага Віктара Садкоўскага да уніятаў аб вяртаньні іх у нетры праваслаўнай царквы. Кацярына II афіцыйна абвесьціла аб вяртаньні «гвалтоўна адарваных ад праваслаўнай царквы» уніятаў, якія мусяць быць «добраахвотна» вернутыя да праваслаўнай царквы. Гэтая тэза аб нібыта гвалтоўна адарваных уніятах потым сталася пастулятам у царкоўнай палітыцы царскага ўраду, а таксама ў працах расейскіх ды пасьлярэвалюцыйных гісторыкаў і, натуральна, у кнігах і артыкулах гісторыкаў афіцыйнага курсу ў беларускай тэарэтычнай навуцы ў БССР.

У сваім указе ад 24 красавіка 1794 г. Кацярына II загадвала генэрал-губэрнатару Ц.І.Туталміну сурова назіраць і папярэджваць усялякія спробы беспарадкаў пры вяртаньні уніятаў у праваслаўе, забараніць памешчыкам і чыноўнікам, сьвецкім і духоўным асобам каталіцкага і уніяцкага веравызнаньня «перашкаджаць уніятам вяртацца ў праваслаўе і крыўдзіць іх, пад пагрозай крымінальнай адказнасьці».[20] Кацярына II таксама загадвала ўказам сыноду Расейскай імпэрыі абвясьціць ад імя архіепіскапа менскага В.Садкоўскага пастырскую грамату да уніятаў, выдадзеную ім у траўні 1794 г. у сваёй рэзыдэнцыі ў Слуцку, у якой быў заклік да уніятаў далучыцца да праваслаўнай царквы.[21]

Гэты ўказ і гвалтоўныя захады да яго выкананьня былі прынятыя акурат на пачатку паўстаньня 1794 г. у Польшчы, на Літве і Беларусі, калі значная частка шляхты падтрымала паўстаньне, а уніяцкае духавенства заняло патрыятычную антырасейскую пазыцыю. Уніяцкі мітрапаліт Ф.Растоцкі нават адмовіўся прынесьці прысягу Кацярыне II.

Пачалося першае «ўзьяднаньне» з праваслаўнай царквой. Царскім урадам пры гэтым былі выкарыстаны розныя сродкі. Сярод сялян пашыраліся чуткі, што пры пераходзе ў праваслаўе сялянаў адбяруць ад паноў і перададуць дзяржаве, скасаваўшы

паншчыну. Новадалучаныя да Расеі сяляне ведалі, што становішча дзяржаўных сялянаў там значна лепшае, чым памешчыцкіх. Паны былі афіцыйна папярэджаны: усялякае процідзеяньне з іх боку кваліфікавацьмецца як крымінальнае злачынства і пацягне за сабою судовыя разгляды і сэквэстр маёнткаў.[22] Хоць паводле Статуту Вялікага княства Літоўскага 1588 г. такія дзеяньні ўладаў былі супрацьзаконнымі.

Генэрал-губэрнатару, губэрнатарам і земскай паліцыі прадпісвалася садзейнічаць ва ўсім духоўнай уладзе. Такімі агульнымі намаганьнямі быў забясьпечаны на першы погляд бліскучы посьпех. Ужо праз год імпэратрыца ў сваім указе сыноду (12 красавіка 1795 г.) з самазадавальненьнем адзначала, што на Беларусі і Украіне («у далучаных да Расеі губэрнях») «больш за мільён з народу Расейскага (г.зн. украінцаў і беларусаў. — А.Г.) да праваслаўнай Усходняй Грэка-расейскай царквы добраахвотна далучылася».[23] Да канца цараваньня Кацярыны II (лістапад 1796 г.) у праваслаўе было пераведзена больш за паўтара мільёна вернікаў на Беларусі, Украіне і Валыні.[24] Большая частка пераведзеных у праваслаўе уніятаў прыпадала на Украіну.

Пасьля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у новадалучаных частках Менскай праваслаўнай епархіі ў праваслаўе было пераведзена 80 тысяч чалавек, у Магілёўскай і Полацкай губэрнях у 1794—95 гг. — 110 тысяч.[25]

У канцы 1795 г. новым указам Кацярыны II былі зьліквідаваныя ўсе уніяцкія епархіі ў Расейскай імпэрыі, за выключэньнем архіепіскапства Беларускага (Полацкага). Усе маёнткі уніяцкіх епіскапаў былі сканфіскаваныя, частку іх перадалі дзяржаве, а частку раздалі расейскім генэралам і чыноўнікам.[26]

Але посьпех царскага ўраду быў вонкавы, болей для губэрнатарскіх справаздачаў у Пецярбург. Гэты пераход у праваслаўе быў вымушаным і нетрывалым. Губэрнатары дзейнічалі проста. Яны «пераканаўча раілі» уніяцкаму духавенству далучыцца разам са сваімі вернікамі да праваслаўнай царквы. Тых сьвятароў, хто рашуча адмаўляўся, арыштоўвалі. У некаторых мясьцінах Магілёўшчыны і Полаччыны сьвятары разам з памешчыкамі былі арганізатарамі сялянскіх выступленьняў. Гэта вымусіла мясцовыя ўлады прыпыніць тут гвалтоўнае ўзьяднаньне.[27]

Кацярына II да канца свайго панаваньня пасьпела абмежаваць дзейнасьць уніяцкай царквы. Мітрапаліт Ф.Растоцкі быў адхілены ад ачаленьня уніяцкай царквы. Ён пасяліўся ў Петэрбурзе, атрымаўшы 5 тысяч рублёў пэнсыі штогод. Епіскапы скасаваных епархій атрымалі пэнсыі па 3 тысячы рублёў і былі накіраваныя ў кляштары, але не ў сваіх былых епархіях. Уніяцкая царква і кляштары, якія засталіся, без дазволу Апостальскай Сталіцы былі падначаленыя архіепіскапу полацкаму Іраклію Лісоўскаму.[28]

Загадам Кацярыны II былі зачынены тыя базыліянскія кляштары, пры якіх не было школ. Маёнткі базыліянскіх кляштараў сканфіскавалі.[29]

За часам панаваньня Кацярыны II уніяцкая царква на Беларусі і Украіне страціла 8 мільёнаў вернікаў у 9316 парафіях і 145 базыліянскіх кляштараў.[30]

Павел I, які сеў на пасад у лістападзе 1796 г., з палітычных меркаваньняў зьмяніў палітыку ў адносінах да рымска-каталіцкага касьцёлу і уніяцкай царквы, гэтаксама як і ў дачыненьні да беларускага магнацтва. Уніятам было дазволена вярнуцца ў сваю веру. 90% уніятаў скарысталі такую магчымасьць.[31]

28 красавіка 1798 г. Павел I выдаў указ, які быў зацьверджаны Рымскім Папам, аб узнаўленьні дзьвюх уніяцкіх епархій — Луцкай і Берасьцейскай. Полацкая епархія ахоплівала Магілёўскую і Віцебскую губэрні, Луцкая — украінскія землі,[32] г.зн.Валынскую і Падольскую губэрні, а Берасьцейская — Літоўскую, Менскую, Гарадзенскую губэрні і Курляндыю.[33]

Паводле гэтага ўказу ўтварэньне новых уніяцкіх епархій праводзілася на ўзор рымска-каталіцкіх. Епіскапам полацкім быў прызначаны Іраклій Лісоўскі, епіскапам берасьцейскім — Арсень Гланеўскі, епіскапам луцкім застаўся Сьцяпан Лявінскі. Былі пацьверджаны пажыцьцёвыя пэнсыі мітрапаліту Ф.Растоцкаму і былым епіскапам з правам вольнага выбару месца жыхарства па ўсёй Расейскай імпэрыі. Устанаўлівалася таксама пэнсыя і былому пінскаму епіскапу Язафату Булгаку. Усе справы царкоўнага (у тым ліку і касьцельнага) і школьнага жыцьця прадпісваліся пастановамі імпэрскай улады.[34] Рымска-каталіцкіх дыецэзый у Расеі было шэсьць: арцыбіскупства Магілёўскае, якое ахоплівала Беларускую і Кіеўскую губэрні, біскупства Віленскае (Літоўская і Курляндзкая губэрні), біскупства Самагіцкае (Жамойція), Луцкае (Валынская губэрня), Камянецкае

(Падольская губэрня), Менскае.[35] Такім чынам, рымска-каталіцкі касьцёл і уніяцкая царква дзейнічалі ў значнай меры на адной і той жа тэрыторыі.

Аднак палітыка Паўла І і ягонага ўраду не была такой лагоднай у дачыненьні да уніяцкай царквы, як гэта магло б здацца на першы погляд. Так, 1 лютага 1800 г. выходзіць указ аб забароне вяртаньня ў унію тым вернікам, якія ўжо далучыліся да праваслаўя, і аб неперашкоджаньні уніятам пераходзіць да праваслаўнай канфэсыі,[36] што заахвочвала мясцовыя ўлады і праваслаўную царкву весьці ранейшы наступ на уніяцкую царкву. Праўда, у параўнаньні з указамі Кацярыны II гэтыя пастановы былі ўсё ж такі больш лагоднымі.

Наступнік Паўла І Аляксандар І 13 лістапада 1801 г. у дакладзе сэнату зацьвердзіў узнаўленьне духоўнага і царкоўнага кіраваньня рымска-каталіцкага касьцёлу ў Расейскай імпэрыі. Была ўстаноўлена асобная рымска-каталіцкая духоўная калегія ў Петэрбурзе, якая і кіравала справамі рымска-каталіцкага касьцёлу і уніяцкай царквы ў Расеі. Гэтая пастанова сэната была абвешчаная 9 сьнежня 1801 г.[37]

Такім чынам замест ранейшага дэпартамэнту для спраў рымска-каталіцкага касьцёлу ў міністэрстве юстыцыі Расейскай імпэрыі паўстала новая рымска-каталіцкая духоўная калегія. У яе склад зусім не ўваходзілі прадстаўнікі уніяцкай царквы, а толькі ксяндзы лацінскага абраду, што дэлегаваліся ад шасьці дыецэзый. Гэты акт быў падрыхтаваны Аляксандрам І пад уплывам каталіцкага магілёўскага арцыбіскупа і мэтрапаліта С.Богуш-Сестранцэвіча. Стаўшы найвышэйшым кіраўнічым органам, калегія падпарадкоўвала і уніяцкую царкву, што адразу прывяло да канфліктаў паміж касьцёлам і уніяцкай царквай, тым болей, што ў калегіі зусім не было уніяцкіх ерархаў.[38] Уніяцкая царква памалу страчвала свае пазыцыі. Рымска-каталіцкае духавенства павяло сярод вернікаў-уніятаў палітыку далучэньня іх да каталіцкага касьцёлу лацінскага абраду, папярэджваючы, што інакш іх будуць гвалтоўна пераводзіць у праваслаўе, як было пасьля падзелу Рэчы Паспалітай. У выніку такой палітыкі і агітацыі ў першыя гады панаваньня Аляксандра І каля 200 тысяч вернікаў, часам са сьвятарамі, часам цэлымі вёскамі, зьмянілі ўсходні абрад на лацінскі.[39]

Супраць гэтага выступіла Полацкая уніяцкая кансысторыя і полацкі архіепіскап І.Лісоўскі, патрабуючы ад С.Богуш-Сестранцэвіча спыніць перавод уніятаў у рыма-каталікі. Была

пададзеная скарга імпэратару з просьбай аддзяліць кіраваньне справамі уніяцкай царквы ад Рымска-каталіцкай калегіі і ўтварыць незалежную уніяцкую калегію.[40] Намаганьні уніяцкага духавенства мелі часовы посьпех: у 1803 г. было забаронена наварочваць уніятаў у рыма-каталікі.[41]

У наступным годзе указам імпэратара да васьмі лацінскіх сяброў калегіі далучылі яшчэ чатырох «рускіх», г.зн. аднаго уніяцкага епіскапа і трох дэлегатаў, што выбіраліся ад трох уніяцкіх епархій на 3 гады. Уніяцкі епіскап станавіўся віцэ-прэзыдэнтам каталіцкай духоўнай калегіі. Выбар епіскапа залежаў ад цара. Каб ураўнаважыць прадстаўніцтва уніяцкага духавенства з рыма-каталіцкім, кожны з уніятаў у калегіі меў два галасы. У выпадку роўнасьці галасоў прэзыдэнт калегіі меў перавагу, таму усе складаныя пытаньні вырашаліся на карысьць касьцёлу.[42]

Архіепіскап І.Лісоўскі зноў скардзіцца імпэратару, што каталіцкая духоўная калегія ўмешваецца ва ўнутраныя справы епархій. Выконваючы ўказ Кацярыны II аб скарачэньні колькасьці уніяцкіх манастыроў, калегія пачала звыш патрабаваньняў указу ліквідаваць манастыры ў Полацкай і Берасьцейскай епархіях. У выніку з 18 манастыроў у Полацкай епархіі было пакінута толькі 5, а ў Берасьцейскай — з 39 толькі 10.[43] Да таго ж у калегію быў уключаны берасьцейскі уніяцкі епіскап Язафат Булгак, які быў вялікім прыхільнікам каталіцкага касьцёлу.[44]

Нягледзячы на такія неспрыяльныя ўмовы, у 1804 г. у Расейскай імпэрыі было 1338 уніяцкіх цэркваў, 91 манастыр, 1398478 вернікаў. А ў 1795 г. лічылася, што уніяцкая царква ў імпэрыі перастала існаваць.[45]

Пасьля захадаў полацкага архіепіскапа І.Лісоўскага быў выдадзены ўказ ад 16 ліпеня 1805 г. Паводле яго каталіцкая духоўная калегія была падзеленая на два незалежныя дэпартамэнты: лацінскі і руска-уніяцкі, якія зьбіраліся разам толькі дзеля вырашэньня агульных спраў. Замест агульнага віцэ-прэзыдэнта Я.Булгака старшынёй уніяцкага дэпартамэнту быў прызначаны імпэратарам архіепіскап Лісоўскі з рэзыдэнцыяй у Петэрбурзе.[46]

25 студзеня 1805 г. памёр уніяцкі мітрапаліт Ф.Растоцкі. На ягонае месца быў прызначаны І.Лісоўскі, але бяз тытула мітрапаліта кіеўскага і галіцкага, як гэта было звычайна, бо мітрапалітам кіеўскім быў і праваслаўны ерарх.[47] Надаючы

Лісоўскаму тытул мітрапаліта, Аляксандр I намагаўся як мага зьменшыць уплыў Рыма на справы уніяцкай царквы ў Расеі, перадухіліць далучэньне яе да касьцёлу і тым самым не ўзмацняць яе ў сваёй імпэрыі.

І.Лісоўскі намагаўся вызваліць уніяцкую царкву ад уплыву касьцёлу, паставіць базыліянаў у залежнасьць ад мясцовых епіскапаў, зьліквідаваць у манастыроў бэнэфіцыі на карысьць сьвецкага духавенства, а таксама прыватныя патранаты уніяцкіх бэнэфіцыяў, бо лічыў іх неўласьцівымі для уніяцтва, хоць яны былі ў рыма-каталікоў.[48] Лісоўскі дамогся ад імпэратара дазволу духоўным і сьвецкім асобам, якія ў апошнія гады перайшлі ў каталіцтва, свабодна вярнуцца да уніі.[49]

І.Лісоўскі ў 1806 г. заснаваў уніяцкую духоўную сэмінарыю ў Полацку. Яму ўдалося ў тым жа годзе вярнуць манастыр сьв.Сафіі, дзе і разьмясьцілася сэмінарыя.[50] Па хадайніцтве Лісоўскага ў 1809 г. колькасьць епархій павялічылася за кошт тэрыторыі Беластоцкай акругі, якая паводле ўмоў Тыльзыцкага трактату 1807 г. ад Прусіі адышла да Расеі. Беластоцкая акруга складала асноўную частку зямель Супрасьльскай уніяцкай епархіі, утворанай прускім каралём пасьля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. Спачатку большая частка Супрасьльскай епархіі была далучаная да Берасьцейскай, у склад якой увайшло 59 цэркваў, 3 манастыры і 41 тысяча вернікаў. Берасьцейская епархія стала занадта вялікай, а па плошчы і цяпер немалая. У ёй знаходзілася каля 900 цэркваў. З гэтай нагоды частку прыходаў перадалі ў Віленскую епархію на чале з мітрапалітам, дзе стала налічвацца цяпер 300 цэркваў. Але паколькі сам мітрапаліт увесь час знаходзіўся ў Петэрбурзе, то яго замяняў намесьнік (суфраган) з тытулам епіскапа аршанскага. Імпэратар зацьвердзіў гэты плян. Ад гэтага часу ў складзе Расейскай імпэрыі было 4 уніяцкія епархіі: мітрапалітальная Віленская, Берасьцейская, Луцкая і архіепіскапская Полацкая.[51] Віленская епархія займала тэрыторыю Віленскай і часткі Менскай і Курляндзкай губэрняў, Полацкая — Віцебскую і Магілёўскую губэрні, Луцкая — Кіеўскую, Падольскую і Валынскую, Берасьцейская — Гарадзенскую, частку Менскай губэрні і Беластоцкую акругу. У Віленскай мітрапалітальнай епархіі суфраганам быў прызначаны Адрыян Галаўня з брацлаўскага базыліянскага манастыра. Полацкая епархія заставалася пад уладай І.Лісоўскага, луцкім епіскапам з 1808 г. (пасьля сьмерці епіскапа С.Лявінскага) быў Рыгор Кахановіч, а берасьцейскім

— Язафат Булгак, намесьнікам ягоным быў прызначаны базыліянін з Супрасьля Леў Явароўскі з тытулам епіскапа ўладзімірскага.[52]

Пэўным посьпехам у палітыцы мітрапаліта І.Лісоўскага было ўзнаўленьне мітрапалітарнай катэдральнай капітулы 16 сьнежня 1808 г., куды ўваходзілі галоўныя прадстаўнікі сьвецкага уніяцкага духавенства, якія зьбіраліся на паседжаньні капітулы ў Жыровіцкім манастыры.[53]

30 жніўня 1809 г. Іраклі Лісоўскі памёр. Яшчэ перад сьмерцю ён прасіў імпэратара, каб той прызначыў уніяцкім мітрапалітам Рыгора Кахановіча, епіскапа луцкага. Прыслухаўшыся да гэтае просьбы, Аляксандар I 3 кастрычніка таго ж года ўзьвёў Р.Кахановіча ў сан мітрапаліта. Адначасова архіепіскапам полацкім стаў, зноў-такі згодна з просьбаю І.Лісоўскага да імпэратара, протаерэй Ян Красоўскі, выхаванец папскай калегіі ў Вільні.

Але з-за войнаў, якія ішлі ў Эўропе ў напалеонаўскія часы, сувязь Расеі з Рымам была слабая, і ўсе новыя прызначэньні Аляксандра I, што датычылі ўнутранага ладу уніяцкае царквы, не былі зацьверджаныя Папам Піем VII. Тады мітрапаліт Р.Кахановіч, з дазволу імпэратара, 16 студзеня 1810 г. у Петэрбурзе разам з епісапамі Я.Булгакам і Я.Красоўскім склаў Эпікію, якую з першаю аказыяй меўся даслаць у Апостальскую Сталіцу. У гэтым дакумэнце паведамлялася, што ён з-за немагчымасьці зьвязацца з Рымам, хоць і не зацьверджаны яшчэ Апостальскаю Сталіцай, захоўваючы разам з епіскапам вернасьць Папу, сам пакуль, да папскага зацьвярджэньня, правядзе рукапалажэньне (кансэкрацыю) новапрызначаных епіскапаў. Потым ён афіцыйна абвесьціў пра гэта лацінскім і уніяцкім епіскапам, і 10 студзеня 1811 г. ва уніяцкай катэдры ў Вільні пры асыстэнцыі двух лацінскім біскупаў — менскага Ю.Дэдэркі і суфрагана полацкага Ц.Адынца, — зноў абвесьціўшы Эпікію, кансэкраваў трох новых епіскапаў.[54]

Падчас напалеонаўскіх войнаў ня толькі сувязь з Рымам, з Папам была фактычна спыненая, але й навогул урад Аляксандра I пачаў менш цікавіцца пытаньнем уніяцкае царквы. У 1814 г. мітрапаліт Р.Кахановіч памёр. Сталі выкантнымі пасады зьверхнікаў адразу дзьвюх епархіяў — мітрапалітальнай Віленскай і Луцкай. Часовае кіраваньне Віленскаю было перададзенае архіепіскапу полацкаму Яну Красоўскаму, а Луцкай — берасьцейскаму епіскапу Язафату Булгаку. Аляксан-

дар I знаходзіўся на Венскім кангрэсе і не сьпяшаўся выращаць унутраныя справы уніяцкай царквы. А ў гэты час пачалася барацьба за мітрапалітальную катэдру паміж дзьвюма групоўкамі ў самой уніяцкай царкве — паміж базыліянамі і сьвецкім духавенствам. Урэшце ў 1817 г. Аляксандар I аддаў перавагу прадстаўнікам базыліянаў. Ён узьвёў у сан мітрапаліта епіскапа берасьцейскага Я.Булгака, а сьвятара і доктара тэалёгіі Якуба Мартушэвіча зацьвердзіў епіскам луцкім, дадаючы яму суфрагана сьвятара Кірылу Серацінскага (пры гэтым апошні атрымліваў тытул епіскапа пінскага).[55]

Нягледзячы на часовую перамогу прыхільнікаў базыліянскага ордэну, групоўка сьвецкага духавенства заставалася моцнаю. Менавіта з яе асяродзьдзя выйшаў Язэп Сямашка, які разам са сваімі прыхільнікамі ў далейшым падрыхтаваў сумесна з урадам Мікалая I ліквідацыю уніяцкае царквы ў Расейскай імпэрыі ў той час, калі мітрапалітам заставаўся яшчэ Я.Булгак.

Такім чынам, да пачатку 20-х гг. XIX ст. становішча уніяцкай царквы ўнармавалася. Яна мела пэўны юрыдычны статус на абшарах Беларусі і Украіны, перанесла цяжкія ўдары, нанесеныя ёй урадам Кацярыны II, узнавілася падчас цараваньня Паўла I і Аляксандра I, хоць мела пэўныя абмежаваньні і знаходзілася пад кантролем расейскага ўраду.

Уніяцкая царква ў Расейскай імпэрыі падпарадкоўвалася 2-ому дэпартамэнту Рымска-каталіцкае духоўнае калегіі, якая, у сваю чаргу, знаходзілася пад наглядам міністра народнай адукацыі Расеі. Гэтаму міністру быў падначалены дэпартамэнт замежных веравызнаньняў, які і кіраваў урадавай палітыкай у дачыненьні да уніяцкай царквы. Ужо падчас цараваньня Мікалая I у нетрах гэтага дэпартамэнту пачаў распрацоўвацца плян зьліквідаваньня уніяцкае царквы. Ініцыятарам гэтага пляну і быў асэсар Рымска-каталіцкай духоўнай калегіі ад луцкай уніяцкай епархіі Язэп Сямашка. Але да канца 20-х гг. XIX ст. уніяцкая царва ў Расейскай імпэрыі яшчэ ня страціла сваіх гістарычных шанцаў захавацца і працягваць сваю дзейнасьць. Тым больш, што царскі ўрад у гэты час праводзіў палітыку падтрымкі мясцовых памешчыкаў, ідучы ім насустрач і нават праводзячы палітыку палянізацыі насельніцтва.

[1]А.П.Грыцкевіч. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці АН БССР. Серыя грамадских навук. 1973, N6. С.62-63.

[2]ks.Adam Stankievič. Rodnaja mova ŭ świątyniach. Vilnia, 1929. S.37, 41—44.

[3]Н.М.Никольский. История русской церкви. М., 1931. С.208.

[4]Блажейовський Д. Українські церковні унії: Константинопільска, Римська і Московська // Записки Наукового Товариства ім.Шевченка. Т.205. Нью-Йорк—Париж—Торонто, 1987. С.65—66.

[5]М.Коялович. История воссоединения западнорусских униатов старых времен. СПб., 1873. С.117.

[6]Volumina Legum. T.VIII. Petersburg, 1860. S.26.

[7]М.Коялович. С.119—120.

[8]E.Likowski. Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. Poznań, 1880. S.150.

[9]Ibidem. S.156.

[10]Полное собрание законов Российской империи (ПСЗРИ). Т.20. СПб., 1830. С.848.

[11]Ibidem. S.954.

[12]Ibidem. S.1016.

[13]Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. СПб., 1890. С.320.

[14]E.Likowski. Dzieje... S.178—180.

[15]Ibidem. Historia unii kościoła Ruskiego z kościołkemRzymskim. Poznań, 1875. S.149.

[16]Volumina Legum. T.IX. Krakow. S.176.

[17]E.Likowski. Historia... S.151.

[18]E.Likowski. Dzieje... S.207.

[19]ПСЗРИ. Т.23. СПб., 1830. С.509—510.

[20]Тамсама.

[21]Ibidem. S.510—511.

[22]Н.М.Никольский. С.208.

[23]ПСЗРИ. Т.23. С.663.

[24]E.Likowski. Historia... S.163.

[25]Белоруссия и Литва. С7324.

[26]E.Likowski. Dzieje... S.217.

[27]Н.М.Никольский. С.208,209.

[28]E.Likowski. Dzieje... S.217.

[29]E.Likowski. Historia... S.164.

[30]Тамсама.

[31]Н.М.Никольский. С.209.
[32]E.Likowski. Dzieje... S.246.
[33]Ibidem.
[34]ПСЗРИ. Т.25. СПб.,1830. С.222.
[35]Тамсама. С.222—223.
[36]ПСЗРИ. Т.26. СПб.,1830. С.24-31.
[37]Тамсама. С.823.
[38]E.Likowski. Dzieje... 2 wydanie. Cz.2. Warszawa, 1906. S.15.
[39]Ibidem. S.16—17.
[40]Ibidem. S.18—19.
[41]Н.Василенко. Уния//Энциклопедический словарь Брокгауз и Эфрон. Т.34а (полутом 68). СПб.,1902. С.829.
[42]E.Likowski. Dzieje... 2 wydanie. Cz.2. Warszawa, 1906. S.19.
[43]Тамсама.
[44]Н.Василенко. С.829.
[45]J.Pelesz. Geschlichte der Union der ruthenischen Kirche mit Rom von den ältesten Zeiten bis auf die Gegenwart. Wien,1880. Band 2. S.595.
[46]E.Likowski. Dzieje... 2 wydanie. Cz.2. Warszawa, 1906. S.20.
[47]Ibidem. S.21.
[48]Н.Василенко. С.829.
[49]E.Likowski. Dzieje... 2 wydanie. Cz.2. Warszawa, 1906. S.22.
[50]Н.Василенко. С.829.
[51]Тамсама.
[52]E.Likowski. Dzieje... 2 wydanie. Cz.2. Warszawa, 1906. S.23.
[53]Ibidem. S.32.
[54]Ibidem. S.24—25.
[55]J.Pelesz. Geschlichte der Union der ruthenischen Kirche mit Rom von den ältesten Zeiten bis auf die Gegenwart. Wien,1880. Band 2. S.799.

а.Адам СТАНКЕВІЧ

# РАСКАЗЫ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ ДЛЯ ШКОЛЫ І НАРОДУ*

## Leŭ Sapieha — vialiki biełarus hramadzianin

Leŭ Sapieha — kažam — vialiki. Čamu? Bo jon niezvyčajny čałaviek, jon nie taki, jak usie, jon duža mnoha zasłužyŭsia dla ludziej.

Pry tym zaviom jaho nia tolki vialikim, ale **vialikim biełarusam.** Čamu? Tamu, što jon nia tak sabie čałaviek, čałaviek niaviedama jaki, ale što jon biełarus i što ŭsio toje dabro, jakoje jon rabiŭ, rabiŭ dla biełaruskaha narodu.

Dy mała taho, što Lva Sapiehu nazyvajem vialikim biełarusam, my jaho akramia hetaha nazyvajem **hramadzianinam.** Chto-ž taki hramadzianin? Kožny čałaviek, jaki sam niamała majučy dabra ad ludziej, ad haspadarstva, z svajho boku tak-ža hetaj hramadzie, hetamu haspadarstvu robić dabro. Hetkim byŭ Leŭ Sapieha.

* Заканчэньне. Пачатак у №№1,2.

Ale zaviom my Sapiehu nia tolki hramadzianinam, ale **vialikim biełarusam hramadzianinam**, bo jon duža šmat pałažyŭ zasłuhaŭ i zrabiŭ dabra dla biełaruskaha narodu, dla biełaruskaha haspadarstva.

Chto-ž taki byŭ Leŭ Sapieha? I što jon takoje zrabiŭ dla biełaruskaha narodu, što jość jon vialiki biełarus hramadzianin?

Sapiehi — heta staradaŭni biełaruski kniazioŭski rod. Pachodziać jany **iz Smalenščyny**. Prarodzičy Sapiehaŭ byli pravasłaŭnaj viery. Ab hetym śviedčać navat ich imiony: Siamion, Ivan (Ivaška), Bahdan, Hleb i inšyja. Sapiehi daŭniej byli niebahatyja i ničym asablivym nie adznačalisia. Vialikuju sławu rodu Sapiehaŭ prydbaŭ Leŭ. Baćkami jaho byli: Ivan Ivanavič Sapieha, starasta Darahičynski i vajavoda Padlaski (Bielščyna) i kniahinia Bahdasia z domu Druckaja-Sakalinskaja.

Radziŭsia Leŭ u 1557 h. u dvary svaich backoŭ **Astroŭnie** (Viciebščyna). Vyšejšuju navuku atrymaŭ u Niamieččynie, u Lejpcyhu. Tut jon z pravasłaŭja pierajšoŭ u kalvinstva. Viarnuŭšysia ŭ kraj, chutka prasłyŭ vialikimi zdolnaściami i vučonaściaj. U 1580 h. karol Sciapan Batura naznačyŭ jaho **pisaram** vialikaha biełaruskaha i litoŭskaha kniastva.

Praca na hetym stanoviščy była ciažkaja. Było ŭžo paśla Lublinskaj vunii. Biełaruś ličyłasia dałučanaj da Polščy. Palaki rabili ŭsio, kab źniščyć astatki samastojnaści biełaruskaha haspadarstva. Małady Leŭ Sapieha jak pisar hetaha haspadarstva ščyra i ŭmieła baraniŭ samastojnaści biełaruskaha narodu.

Pačałasia vajna maskoŭskaha cara Ivana IV Hroznaha ź Biełarusiaj. Dla Lva paŭstała nieabchodnaść novaj pracy. Jon stvaryŭ **połk biełaruskaha** vojska i pamysna biŭsia z maskalami **pry Zavałaččy, pry Vialikich Łukach i pad Pskovam.**

Paśla vajny z maskalami Leŭ Sapieha ŭ 1584 h. byŭ vypraŭleny ŭ Maskvu da cara na **pierahavory**. Dziakujučy jaho ŭmiełym i starannym zachadam, była padpisana zhoda na dziesiać hadoŭ. Maskva atrymała biełaruskuju Smalenščynu, a Biełarusi viarnuła Połaččynu.

U tym-ža 1584 h. Leŭ Sapieha, varočajučysia z Maskvy, atrymaŭ hodnaść **padkanclera**, a paśla **kanclera** Biełarusi i Litvy.

Praz 16 hadoŭ paśla hetaha (u 1600 h.) Leŭ Sapieha ŭznoŭ jeździŭ u Maskvu i padpisaŭ tam zhodu miž Biełarusiaj i Maskvoj na 20 hadoŭ.

Dy nia tolki ad Maskvy, ale tak-ža **i ad Polščy Leŭ Sapieha baraniŭ Biełaruś**. Praŭda, na Lublinskaj vunii 1569 h. palaki biełarusaŭ zmusili padpisacca, što Biełaruś dałučajecca da Polščy, ale Biełarusi jašče krychu pakidali pravoŭ. A paśla vunii jany i hetych pravoŭ nie pryznavali, uvažajučy Biełaruś zvyčajnaj častkaj Polščy. Takim čynam palaki nie datrymali słova i sarvali henuju tak nienavisnuju i siłaj nakinutuju biełarusam vuniju. Bačačy i razumiejučy, što ŭsio heta viadzie Biełaruś da hibieli, Leŭ Sapieha

tak-ža pierastaŭ ličycca z hetaj vunijaj. Jon Biełaruś uvažaŭ samastojnym haspadarstvam i, jak maha, baraniŭ hetaj samastojnaści i ad Maskvy i ad Polščy. Jon imknuŭsia da taho, jak heta było pry Vitaŭcie, kab usie biełaruskija ziemli byli pry Biełarusi, kab Biełaruś była ŭ družbie z Ukrainaj i Litvoj i kab mieła volnuju sabie darohu da Čornaha i Bałtyckaha mora.

A jak mnoha prysłužyŭsia Leŭ Sapieha dla Biełarusi, z daručeńnia karala Žyhimonta III, paradkujučy **biełaruskija sudy i zakony**. Dziakujučy jaho starańniam i pracy ŭ Biełarusi byŭ utvorany ŭ 1581 h. **Najvyšejšy Sud** (trybunał). Sud heny sudziŭ spravy hramadzian biełaruska-litoŭskaj dziaržavy niezaležna ad polskich sudoŭ i sudziŭ pa-biełarusku. Pa-biełarusku byli pisany i ŭsie papiery hetaha sudu.

Apračа hetaha Leŭ Sapieha apracavaŭ i ŭ 1588 h. ułasnym koštam vydaŭ zakony dla Biełarusi i Litvy. Henyja zakony byli vydadzienyja ŭ knizie, jakaja zaviecca trecim **«Litoŭskim Statutam»**. Zakony henyja zavucca litoŭskimi, bo tady była moda i navat usiu Biełaruś nazyvać Litvoj z pryčyny biełaruskich kniazioŭ ź litoŭskaha rodu. Ale kniha hetych zakonaŭ napisana pa- biełarusku i hetymi zakonami kiravalisia Biełaruś i Litva.

Dy mała taho, što henyja zakony byli napisany pa-biełarusku. Apračа hetaha jany abaraniali asobnaść i samastojnaść Biełarusi. Henyja zakony baroniać celaści hranic biełaruska-litoŭskaj dziaržavy, prypaminajuć stary zakon, što ŭ hetaj dziaržavie ŭsio maje pisacca pa-biełarusku, a tak-ža zabaraniaje palakom zajmać u našym krai pasady i nabyvać našy ziemli.

Pavodle viery, jak viedajem, najbolš biełarusaŭ pravasłaŭnych, ale jošć tak-ža značnaja častka i biełarusaŭ katalikoŭ. A za časaŭ Sapiehi, ad 1596 h. byli jašče biełarusy vunijaty. Heta takija biełarusy, jakija ŭ svajej viery pryznajuć usio toje, što i kataliki, ale molacca takim sposabam, takim abradam, jak i pravasłaŭnyja.

Voś-ža i **ŭ spravach relihijnych** Leŭ Sapieha akazaŭsia duža spraviadlivym i razumnym. Niahledziačy na toje, što sam u 1588 h. staŭsia katalikom, jon adnolkava lubiŭ uvieś narod biełaruski biaz roźnicy viery. Jon paddzieržvaŭ i budavaŭ śviatyni, jak katalikom, tak pravasłaŭnym i vunijatam, a tak-ža łahodziŭ miž imi svarki i nieparazumieńni.

U 1625 h., kali adbyvałasia vajna Polščy i našaha kraju **z Švecyjaj**, za biełaruskija «Inflanty» (Dźvinsk, Režyca, Lucyn), Leŭ Sapieha byŭ naznačany na **hetmana** Biełarusi i Litvy i na praciahu niekalkich hadoŭ baraniŭ naša haspadarstva ŭłasnym koštam.

Paśla švedzkaj vajny stary Leŭ, abciažany viekam i zmučany pracaj, pavoli addalajecca ad šyrejšaha hramadzkaha žyćcia. Ciapier jon tolki spaŭniaje abaviazki vilenskaha vajavody, a tak-ža **paradkuje papiery kancylaryi biełaruska-litoŭskaha haspadarstva**. Kancylaryja heta znachodziłasia ŭ Vilni, i ŭ joj usio pisałasia pa-biełarusku. Roznych papieraŭ i

dakumantaŭ henaj kancylaryi astałosia duža mnoha. Raskazvajuć jany nam siańnia niamała cikavaha ab minuŭščynie biełaruskaha narodu.

Prad śmierciaj Leŭ Sapieha atrymaŭ hodnaść Maršałka Biełarusi i Litvy. Pamior u 1633 h., majučy 76 hadoŭ. Pachavany ŭ Vilni ŭ kaściele śv.Michała.

Hetkim byŭ Leŭ Sapieha i hetak pracavaŭ dla dabra biełaruskaha narodu. Heta sapraŭdy vialiki biełarus hramadzianin. Niachaj-ža jon budzie i nam prykładam, jak Biełaruś lubić i dla jaje pracavać...

**Adychod biełaruskaha bajarstva ad svajho narodu. Polščańnie kraju**

U kožnym narodzie jość ludzi bahaciejšyja i biadniejšyja, vučonyja i prostyja, žaŭniery, duchoŭniki, uradaŭcy, sialanie, rabotniki. Hetaksama i ŭ biełaruskim narodzie. Zdaŭnych u Biełarusi byli viedamy jak hałoŭnyja častki biełaruskaha narodu: kniazi, bajary, žaŭniery, duchavienstva, sialanie.

**Kniazi** — heta byli tyja ludzi, jakija kiravali Biełarusiaj, a tak-ža ich patomki, što ź ich rodu pachodzili. Najboĺš viedamyja biełaruskija kniazi z rodu Połackaha kniazia Rohvałada i Usiasłava Čaradzieja, a tak-ža z rodu Hiedymina.

**Bajary** — heta byli bahatyja i aśviečanyja ludzi. Vobak z kniaziami byli jany pieravažna bujnymi ziemlaŭładalnikami. Jany naležali da rady kniazioŭ. Paźniej bajary zvalisia tak-ža: pany, vialmožy, mahnaty, a ŭreščie, za prykładam palakoŭ, nazyvalisia šlachtaj. Mnohija z hetych bajaraŭ vyvodzili svoj rod ad kniazioŭ i byli ź imi ŭ svajactvie.

**Žaŭnierami**, abo vajakami, nazyvalisia tyja ludzi, jakija ŭvachodzili ŭ skład vojska i bilisia na vajnie z vorahami Biełarusi. U vojsku słužyli najboĺš bajary i kniazi, ale byli tak-ža i sialanie.

**Duchavienstva** — heta tyja duchoŭnyja asoby, jakija adpraŭlali słužby Božyja pa cerkvach i kaściołach, navučali narod chryścijanskaj viery, a tak-ža i aśviety ahułam.

**Sialanie**, abo ziemlaroby, — heta ludzi, jakija abrablali ziamlu i dastaŭlali Biełarusi chleb. Hetych było najboĺš. Jany — padstava biełaruskaha narodu. Spiarša sialanie byli volnymi ludźmi, i taja ziamla, jakuju jany ŭrablali, była ich. Ale paźniej pany zabrali ad sialan i ziamlu, i volu. Zaviaršyłasia heta tady, kali biełaruskija pany dla svajej karyści vyraklisia biełaruskaha narodu i zaličyli siabie ŭ palaki. Takim svaim pastupkam jany Biełarusi šmat zrabili kryŭdy. Ab hetym i patałkujem my ŭ hetaj našaj hutarcy.

Uvieś naš narod — kniazi, bajary, žaŭniery, duchavienstva, sialanie — heta byli, zrazumiełaja reč, usie biełarusy i pravasłaŭnaj viery. Ale nastaŭ taki čas, kali mnohija Ś biełarusaŭ **pačali pakidać i svaju narodnaść i svaju vieru**. Pačatak hetamu — ad Jahajły. Hety biełaruski i litoŭski kniaź staŭsia polskim karalom i rymskim katalikom, i, abiacaŭšy dałučyć Biełaruś ź Litvoj da Polščy, pryadčyniŭ palakom u naš kraj dźviery i paddzieržvaŭ ich spravy bolš, čym biełaruskija. Palakom i katalikom jon pryznavaŭ roznyja palohki, pravasłaŭnych panoŭ jon zahaniaŭ u čorny kut i ŭvažaŭ ich za horšych ludziej. A **pry jaho nastupnikach** było jašče horš. Było ŭžo tak, što pasady zajmać u Biełarusi mahli tolki palaki rymskija kataliki, a pravasłaŭnyja biełarusy hetaha prava byli pazbaŭlenyja. Dziela hetaha znachodzilisia biełaruskija pravasłaŭnyja pany, jakija ŭžo tady pakidali i svaju narodnaść i vieru i tulilisia da palakoŭ, aby tolki im lepš žyłosia.

A byli i takija ź biełaruskich bajaraŭ, jakija, nia mohučy źnieści takoj kryŭdy i panižeńnia, jaŭna prociŭ hetaha vystupali i **buntavalisia**. Takich vialikija biełaruska-litoŭskija kniazi karali śmierciaj. Tak, naprykład, vialiki kniaź biełaruski i litoŭski, a razam i polski karol, **Kazimier Jahajłavič** u 1482 h. zahadaŭ adsieč hałavu biełaruskamu Słuckamu kniaziu **Michału Alelkaviču** i biełaruskamu kniaziu **Alšanskamu**.

Bačačy ŭsio heta, niekatoryja biełaruskija bajary ŭciakali navat u Maskvu. Hetak zrabili: Todar i Vasil Bielskija, Ivan i Źmitra Varatynskija i inšyja.

Pierachod biełaruskaha bajarstva ŭ katalictva, a z hetym samym i ŭ polskaść staŭsia ahulnaj modaj, žyćciovaj patrebaj i masavym źjaviščam, pačynajučy **ad Haradzielskaj vunii ŭ 1413 h**. A było heta tak. Palaki, kab dałučyć Biełaruś da Polščy, jak viedajem, padpisali ź biełarusami vunii, dahavory. Hetyja dahavory, reŭnie-ž, svajo rabili, jany pakrysie Biełaruś apalačvali, ale apalačvańnie išło duža pavoli, i biełarusy ŭparta baranili samastojnaści svajho kraju. Vychodziła tak, što dahavory ab vunii tak dahavorami na piepiery i astavalisia, a biełaruskaje žyćcio išło svaim paradkam. Voś-ža polskija pany na hetuju chvarobu prydumali lepšaje lakarstva.

U Polščy zdavion-daŭna, možna skazać, usiomahutnym stanam, ci klasaj, u hasradarstvie byli pany, abo pany-šlachty. Słova heta pachodzie ad staraniamieckaha **slahta**, što znača rod, radnia. Kožnaja takaja šlachockaja radnia mieła svoj znak, jaki nazyvaŭsia **herbam**. Heta herb byŭ znakam i dokazam šlachoctva. Biełaruskaje bajarstva nia mieła ani takoha vialikaha nieahraničanaha značeńnia ŭ haspadarstvie, ani znakaŭ-herbaŭ svajej prynaležnaści da svajho bajarstva.

Hetaksama było i ź litoŭskim bajarstvam. Voś-ža polskija pany nadumali biełaruskich i litoŭskich bajar nadzialić svaim šlachoctvam, pryniać

ich da svajej šlachockaj radni i nadaryć ich svaimi hierbami. Biełaruskim i litoŭskim panam-bajaram heta padabałasia. Bo hetkaj darohaj mała taho, što zamacoŭvajecca ich bajarstva, ale i pašyrajecca ŭłada koštam ułady vialikaha kniazia. Dziela praviadzieńnia hetaha planu adbyŭsia źjezd panoŭ polskich, biełaruskich i litoŭskich **u Harodle ŭ 1413 h.** Ną hetym źjeździe 47 polskich šlachockich rodaŭ pryniało da svaich hierbaŭ 47 biełaruskich i litoŭskich bajarskich rodaŭ. Ale heta tolki tym biełarusam i lićvinom, jakija ŭžo byli katalickaj viery. Pravasłaŭnych nie prymali. Pravasłaŭnyja pany ŭsio bolš i bolš ahraničvalisia ŭ pravoch. Adkrytaja daroha da ŭsiakich uradaŭ i dastojnaściaŭ była tolki dla šlachty katalickaj viery. Pravasłaŭnym biełaruskim bajaram dziela hetaha prychodziłasia pakidać svaju pravasłaŭnuju vieru, prymać katalictva i polskija hierby, a z hetym usim polskuju movu, zvyčai i stavacca ŭreščie palakami. Hetak biełaruskaje bajarstva pakidała svoj narod i polščyłasia.

Ale jašče bolš biełaruskaje bajarstva pakidała biełaruski narod i pierakidałasia na staranu palakoŭ i polskaha katalictva **paśla Lublinskaj vunii 1569 h.**, kali Biełaruś ličyłasia dałučanaj da Polščy i kali polskija pany atrymali prava nabyvać ziemli ŭ Biełarusi i zajmać roznyja stanovišču. Ciapier biełaruskaje bajarstva, kab nia być susim adcisnutym ad hramadzkaha žyćcia, musiła ŭsim staracca być padobnym da palakoŭ, a viarniej kažučy, jano musiła pierarablacca na palakoŭ.

Paśla Lublinskaj vunii, jakaja Biełaruś ź Litvoj dałučyła da Polščy, pryjšła **ŭ 1596 h. Bieraściejskaja vunija**, jakaja biełaruskuju pravasłaŭnuju carkvu dałučyła da katalickaha kaścioła. Hetaja carkoŭnaja vunija tak-ža niamała spryjała apalačvańniu ŭžo nia tolki biełaruskaha bajarstva, ale tak-ža i ahułam biełaruskaha narodu. Biełaruskaja pravasłaŭnaja carkva, jakaja doŭhija viaki była aporaj i abaroncam biełarusaŭ, ciapier, staŭšysia vunijackaj, i sama stałasia polskaj słužkaj. Praŭda, vunijackaj carkvie katalicki kaścioł pakidaŭ abrad i movu, ale polskija pany i polskija panskija ŭłady jej hetaha nie pryznavali i nie davali. Jany, jak pravasłaŭje, tak i vuniju, uvažali za niešta nižejšaje i horšaje ad polskaha katalictva i imknulisia da taho, kab i biełarusaŭ pravasłaŭnych i biełarusaŭ vunijataŭ (złučanych) pierarabić na palakoŭ. Dziela hetaha palaki ŭsio biełaruskaje zaciskali, praśledvali i panižali. Vychodziła tak, što ŭ Biełarusi polščyna išła ŭvierch, biełaruščyna ŭniz. U hetkich umovach žyćcia biełarusy pakidali svaju biełaruščynu i palačylisia.

Viedama, siarod biełarusaŭ i ŭ hetkich ciažkich umovach žyćcia było niamała takich, jakija z usich sił baranili svoj kraj, svaju ŭpadajučuju dziaržavu, svoj narod, movu i vieru. Jak viedajem, navat zakonam, vydanym u 1588 h., niahledziačy na pastanovu Lublinskaj vunii, uznoŭ zabaraniałasia palakom u Biełarusi nabyvać ziemli i zajmać pasady. Uznoŭ-ža dla abarony

viery i nacyjanalnaści paŭstali **carkoŭnyja bractvy**, u skład jakich uvachodzili lepšyja biełarusy, jak śvieckija, tak i duchoŭnyja. Adnak siły byli ŭžo niaroŭnyja. Pieravaha była na staranie polskaj. Apalačvańnie biełaruskaha bajarstva, navat častkova i narodu, išło ź vialikim razhonam.

Hetkim čynam adyšli ad biełaruskaha narodu i spolščylisia samyja słaŭnyja biełaruskija rody kniazioŭ i bajarstva: Słuckija, Zasłaŭskija, Sanhuški, Pronskija, Rażynskija, Sałamareckija, Hałaŭčynskija, Višniavieckija, Masalskija, Horskija, Vakalinskija, Łukomskija, Puzyny, Hlabovičy, Kiški, Sapiehi, Vałovičy, Radziviły, Zianovičy, Tyškievičy, Paciei, Skuminy, Karsaki, Kalinoŭskija, Mialeški i šmat inšych.

Hety adychod ad biełaruskaha narodu jaho bajarstva niamała prynios hetamu narodu **škody**. Heta byli bahatyja ludzi, mieli šmat ziamli i ŭsiakaha inšaha dabra. Usio heta pajšło na karyść palakoŭ. Dalej, hetyja ludzi byli aśviečanyja, časta vydatnyja vučonyja. Svaju viedu i aśvietu jany tak-ža skiravali na karyść polskaha narodu.

Siarod biełaruskaha duchavienstva, asabliva vyšejšaha (jepiskapy) takža byli pieravažna bajary. I jany, jak i ŭsie inšyja, polščylisia sami i polščyli ŭsiu biełaruskuju carkvu i biełaruski kaścioł.

U kancy kancoŭ vyjšła tak, što ŭsie bahaciejšyja i śviatlejšyja ludzi pakinuli biełaruski narod samomu sabie, sami pracavali na jaho niekaryść i kryŭdzili jaho. Svaje asabistyja spravy i svoj asabisty dabrabyt biełaruskaje bajarstva pastaviła vyšej narodu i hetym, treba skazać, jano hetamu narodu zdradziła. Praŭdu ab biełaruskich panoch kazaŭ Smalenski Mialeška: «I svaja kostka, ale abrasła sabačym miasam i śmiardzić».

I biełaruski narod častkova pryniaŭ polskaje katalictva i, nia ŭmiejučy ničoha pa-polsku, pačaŭ zvać siabie tak-ža polskim. A polskaje duchavienstva hety fałš siarod viełarusaŭ katalikoŭ paddzieržvaje dalej. Asabliva krepka trymajecca polskaści biełaruskaja drobnaja šlachta, dumajučy, što jana sapraŭdy polskaja. A tymčasam heta ŭsio biełarusy, jakim niekali było nadana šlachoctva.

Ale ŭsioždyki biełaruskija pany zrabili biełaruskamu narodu vialikuju kryŭdu, uciakajučy sami da čužych i pakidajučy hety narod biez apieki, biaz pomačy. Ale narod heta vytrymaŭ i siańnia ŭžo abchodzicca biaź ich. Siańnia **z hetaha narodu vychodziać ludzi śvietłyja i vučonyja** i pamahajuć jamu budavać lepšaje žyćcio. A navat i ź biełaruskaj apalačanaj šlachty **mnohija viarnulisia da svajho narodu** i niamała papracavali dla jaho dabra. Tak, naprykład, pieršyja budzicieli biełaruskaha narodu ź niavoli i ciemry da śviatła i voli naležać da biełaruskaj šlachty, jak Vincuk Dunin-Marcinkievič, Kastuś Kalinoŭski, Franciš Bahuševič, Branisłaŭ Epimach-Šypiła, Anton Lavicki, Ivan i Anton Łuckievičy i ci mała inšych.

I my, kab papravić tyja škody, jakija zrabiła biełaruskamu narodu biełaruskaje bajarstva, nie ŭciakać majem ad narodu, pierakidajučysia ŭ bok polski abo maskoŭski, iści ŭ hety narod, ź im žyć, jaho baranić i dla jaho pracavać. A praca heta, viedama, pavinna adbyvacca ŭ rodnaj dla hetaha narodu biełaruskaj movie.

**Maskva zavajoŭvaje Biełaruś**

Praz try hady paśla Lublinskaj vunii (1572) skanaŭ **apošni naśledny vialiki kniaź Biełarusi** i Litvy i karol Polščy Žyhimont III Aŭhust z rodu Jahajłavaha. Paśla jaho nastupiŭ čas vybiranych vialikich kniazioŭ Biełarusi i Litvy i karaloŭ Polskich.

Hetych kniazioŭ i karaloŭ vybirała šlachta, pany. Ad śmierci Žyhimonta Aŭhusta, heta znača: ad 1572 i da 1795 h. Biełarusiaj ź Litvoj i Polščaj kiravali vybranyja asoby. Bolšaść ź ich byli **čužyncy**: francuz (Hienryk Valežy), švedy (Žyhimont III Vaza, Uładysłaŭ, Jan Kazimier), niemcy (Aŭhust II, Aŭhust III), madziar (Sciapan Batura). I tolki niekalki było palakoŭ (Sabieski, Višniaviecki, Paniatoŭski).

Paśla śmierci Žyhimonta Aŭhusta kandydatam na biełaruska-litoŭska-polski pasad byŭ miž inšymi tak-ža i maskoŭski carevič, syn Ivana Hroznaha, **Todar**. Pierahavory z Hroznym ab Todary nia dali ničoha. Palaki patrebvali, kab Todar staŭsia katalikom i kab da Biełarusi byli dałučany Smalensk i Połack. Hrozny śmiajaŭsia z hetaha, havoračy, što jahony Todar «nie panienka» i pasahu jamu nie naležycca.

Kali-ž byŭ vybrany **Sciapan Batura** (1576—1586), usiakaja družba z Maskvoj skončyłasia i pačałasia vajna. Była heta vajna za Livoniju (łatvijskija i častkova biełaruskija ziemli). Pačałasia jana jašče pierad Lublinskaj vunijaj i ciapier ciahnułasia ad 1579 da 1582 h. Vajna heta adbyvałasia na Biełarusi. S'piarša vojska Batury było nakiravana na Połack, jaki ŭ papiarednija časy byŭ adyšoŭšy da Maskvy. Zdabyć hety horad było ciažka: mieŭ jon vielmi krepkija mury. Abłoha zaciahnułasia. Urešcie vojska Baturaha prarvałasia ŭ Połack i zaniało jaho.

Ad pažaru zhinuła vialikaja i nadta darahaja połackaja biblijateka. Zhinuła tady i takaja vartaja reč, jak pierakład śv.Pisańnia, napisany rukoj słavianskich apostałaŭ śviatych bratoŭ Kiryła i Miafoda, a tak-ža zhinuŭ letapis kryŭska-połackaj ziamli. A prad hetym, kali Połack byŭ u rukach Ivana Hroznaha, šmat roznaha biełaruskaha dabra było vyviežiena ŭ Maskvu.

Praź niejki čas vojska Batury ŭziało krepaści Sokał i Sušu, pabudavanyja Ivanam Hroznym, i harady Vialiž, Uśviat i Vialikija Łuki i padyšło pad Pskoŭ. Abiedźvie starany byli vajnoj duža asłableny, dyk pačali pierahavory

ab zhodzie. Zhoda nastupiła ŭ 1582 h. **Maskva pryznała Biełarusi Livoniju, Połack, Vialiž.**

Dla Biełarusi hetaja vajna pryniesła strašennaje spustašennie. Apisvajuć, što prastor bolšy na 50 km navokał Połacku za časaŭ Livonskaj vajny staŭsia lasnoj puščaj. Źnikli vioski, źnikli nivy, źnik i čałaviek, pracavaŭšy tut. A čałaviek hety byŭ biełaruski sielanin. Znoŭ pryjšłosia pracoŭnamu narodu našaj baćkaŭščyny Biełarusi nanava budavać žyćcio, zrujnavanaje voraham.

Paśla Baturaha na pasad vialikaha kniazia Biełarusi i Litvy i polskaha karala byŭ abrany šved **Žyhimont III Vaza** (1587—1622). Hety naš haspadar, karystajučysia z zabureńnia ŭ Maskvie, u 1609 h. začaŭ ź joj vajnu. Pa śmierci Ivana Hroznaha vybuchła ŭ Maskvie baraćba za carski pasad. Znajšlisia bajary, jakija vybrali na Maskoŭskaha cara syna Žyhimonta Uładysłava. Karol Žyhimont III sam žadaŭ być Maskoŭskim carom, kab naviarnuć maskoŭcaŭ na katalictva. Dziela hetaha skarystaŭ jon z maskoŭskaha zamiašannia i abjaviŭ Maskvie vajnu. Vajna heta ciahnułasia ad 1609 da 1611 h. Žyhimont ź vialikim vojskam stajaŭ pad Smalenskam až pakul nie zdabyŭ jaho. Heta vojska, viedama, karmiłasia tym, što možna było ŭziać u Biełarusi.

Inšaje ŭznoŭ biełaruska-litoŭska-polskaje vojska pad pavadyrstvam hietmana **Žaŭkieŭskaha** zajšło až u Maskvu i starałasia Uładysłava ŭtrymać na pasadzie Maskoŭskaha cara. Šmat tady ludziej było zabrana z našaj baćkaŭščyny ŭ vojska. Mała chto ź ich viarnuŭsia da rodnych svaich chat. Urešcie **ŭ 1618 h.** u nievialikaj vioscy **Dziaulinie** (pad Maskvoj) nastupiła časovaja zhoda. Smalensk byŭ pryznany Biełarusi. Ale vajna nie spyniłasia. Uładysłaŭ, abrany raniej na maskoŭskaha cara, carom hetym hatoŭ byŭ stacca. Tymčasam u 1613 h. tak-ža na hetaha cara byŭ vybrany maskoviec **Michał Ramanaŭ.** Kali-ž Uładysłaŭ (**Uładysłaŭ IV**, 1632—1648) staŭsia vialikim našym kniaziem, vajna z Maskvoj pačałasia ŭznoŭ. I na hety raz adbyłasia jana na ziemlach Biełarusi.

Maskoŭskaje vojska likam u 32 tysiačy ludziej pačało rujnavać Biełaruś i abłažyła Smalensk. Na dapamohu Smalensku prybyŭ Uładysłaŭ. Maskoŭcy zdalisia. Vajna adnak paciahnułasia dalej, ale ŭžo nie na našu karyść. Paśla dvuch hadoŭ vajny (1632—1634) pačalisia pierahavory ab zhodzie. Pasły Maskvy, Biełarusi, Litvy i Polščy źjechalisia na pamiežnaj rečcy **Pałanaŭcy** i padpisali «viečnuju zhodu». Smalensk astaŭsia pry Biełarusi. Uładysłaŭ admoviŭsia ad pravoŭ na maskoŭski pasad.

Dy nie kaniec na hetym. Za časaŭ **Jana Kazimiera** (1648—1668) i maskoŭskaha cara **Alaksieja Michajłaviča** (1645—1676) uznoŭ pačałasia vajna z Maskvoj za Ukrainu, jakaja, uciakajučy ad polskich panoŭ, paddałasia Maskvie. Vajna tryvała 13 hadoŭ (1654—1667) i adbyvałasia, jak

zvyčajna, na Biełarusi. U Biełaruś uvajšło da 200 tysiač maskoŭskaha vojska. Pieršaja armija, na čale jakoj stajaŭ sam car, pašła na Smalensk i paśla niekatoraha času zaniała jaho. Druhaja armija praź Viciebščynu pajšła na Połack, treciaja — na Mahiloŭ, čaćviertaja — na paŭdzień ad Mahilova. Zastahnała, zadymiłasia ad pažaraŭ Biełaruś, pakryłasia kryvioj čałaviečaj.

Prajšło niekalki miesiacaŭ i ŭ rukach maskoŭcaŭ, aprača Smalenska, apynulisia harady: Mahiloŭ, Viciebsk, Miensk, Horadzień, Vilnia, Troki, Koŭna. Usiaho było ŭziata carom Alaksiejem Michajłavičam u Biełarusi i Litvie bolš jak 200 haradoŭ, miastečak i zamkaŭ.

Maskoŭski car pačaŭ nazyvać siabie sarom «Vialikaj, Małoj i Biełaj Rusi», a tak-ža vialikim kniaziem litoŭskim. Niekatoryja biełaruskija i litoŭskija vialikija pany hatovy byli maskoŭskaha cara praznać carom Biełarusi i Litvy, aby tolki jon pryznaŭ hetym krajom samastojnaść. Ale car z hetym nie śpiašaŭsia.

Dalejšy pachod maskoŭskaha vojska zatrymali **švedy**, jakija išli ŭ naš kraj z Łatvii praź Dźvinsk. Niekatoryja biełaruskija i litoŭskija vialikija pany na čale z kniaziem Janušam Radziviłam rašyli **ŭ Kiejdanach u 1655 h.** Biełaruś ź Litvoj addać pad apieku švedzkaha karala i prasić jaho praznać hetym krajom samastojnaść. Ale ničoha i z hetaha nia vyjšła.

U kancy kancoŭ miž Biełarusiaj, Litvoj, Polščaj i Maskvoj dajšło da zhody **ŭ 1667 h. u Andrusavie**, niedaloka ad Smalenska, na 13 hadoŭ z pałovaj. Maskoŭski car admoviŭsia ad Biełarusi i Litvy, zdabytych jaho vojskam, ale zatrymaŭ za saboj biełaruski Smalensk i Ukrainu pa levym bierazie Dniapra z horadam Kijevam.

Reč Paspalitaja raspadałasia i słabieła. Maskva mahutnieła i ŭsio bolš i bolš umiešvałasia ŭ biełaruska-litoŭska-polskija ŭnutranyja spravy. Urešcie za časaŭ apošniaha vialikaha kniazia Biełarusi i Litvy Stanisłava Paniatoŭskaha (Aŭhust IV, 1764—1795) Biełaruś, Litva i Polšča byli padzieleny miž susiedziami. Biełaruś adyšła da Rasiei.

## Panščyna. Sialanskija paŭstańni

**Panščyna, abo pryhon,** — heta taja niavola biełaruskaha sialanstva, u jakoj praź niekalki sot hadoŭ trymali jaho pany. U hetym raskazie raspaviadziem usiu hetu sumnuju historyju našaha narodu.

Spradvieku **sialanami ŭ** Biełarusi nazyvalisia tyja biełarusy, jakija ŭłasnymi rukami abrablali ziamlu. Ziamla, na jakoj jany pracavali, śpiarša ličyłasia ich ułasnaj. Ź bieham času adnak kniazi i pany ŭsiu ziamlu sabie prysvoili. Jak pry kniazioch z rodu Rohvałada-Usiasłava, tak i pry kniazioch

z rodu Hiedyminavaha biełaruskija sialanie nie byli ŭsie adnolkavyja. Siarod ich byli: niavolniki (čeladź, chałopy), paŭniavolniki (baćkavičy) i volnyja.

**Niavolniki** — heta pieravažna pałonnyja, ludzi, uziatyja na vajnie ŭ pałon, a tak-ža tyja, što nie mahli addać doŭhu i sami siabie pradali, abo tyja, što žanilisia ź niavolnicami, ci išli zamuž za niavolnikaŭ. Dzieci ŭsich hetych niavolnikaŭ byli tak-ža niavolnikami. Hetyja ludzi pracavali ŭ kniazioŭ ci panoŭ jak ich słuhi i jak ziemlaroby-rabotniki. Pravoŭ jany nia mieli nijakich. Byli jany zvyčajnaj panskaj rečaj. Nazyvalisia jany dvornaja čeladź abo chałopy.

Tak-ža niavolnymi, choć ad čeladzi značna valniejšymi, byli **baćkavičy**. Hetak nazyvalisia sialanie, što mieli svaje sialanskija haspadarki, jakija pierachodzili z baćki na dziaciej. Adhetul ich i nazova. Ale ziamla heta była pana, ad jakoha baćkavičy byli zusim zaležnymi.

**Volnyja** sialanie — heta biełarusy ziemlaroby, jakija mieli poŭnuju asabistuju svabodu. Jany mahli tak saboj kiravać, jak im padabałasia, i pierachodzić z adnaho miesca pracy da druhoha. Ziamla, na jakoj jany pracavali, była panskaj abo kniažaj. Na hetaj adnak ziamli byli paletki, jakija ličylisia ŭłasnaściaj sialan. Paletki hetyja jany mieli prava addać kamu ci pradać, ci pierakazać u spadku, ci załažyć.

Aprača sobskich paletkaŭ ziamli, volnyja sialanie mieli svaje sudy, jakija nazyvalisia kopnymi. Niekalki susiednich sialanskich sialibaŭ składali sialanskuju hramadu. Sialanie — haspadary hramady — heta była **kapa**. Kožny taki sielanin nazyvaŭsia schodčykam, abo kopnym sudździoj. Usie hetyja sialanie, abo kapa, źbiralisia ŭ hałoŭnym miescy sialanskaj hramady pad adkrytym niebam i tam rašali roznyja spravy. Toje miesca nazyvałasia **kopaviščam** abo **kopiščam**.

Dla vyrašeńnia važniejšych spraŭ kapa źbirałasia na miescy prastupku. Raźbirała jana spravu pavodle staradaŭnych biełaruskich zvyčajaŭ. zdaralisia i pryhavory śmierci. Hetkija prahavory spaŭnialisia ŭ prysutnaści ŭsiej kapy.

Mieli volnyja sialanie tak-ža samaŭrad, jaki rupiŭsia ab raskładcy padatkaŭ hramady i ab inšych hramadzkich spravach.

Volnych sialan u staradaŭniaj Biełarusi ŭ paraŭnańni ź niavolnymi było najbolš. Jany sastaŭlali hałoŭnuju asnovu ŭsiaho biełaruskaha sialanstva.

Hetak vyhladała biełaruskaje sialanstva ŭ staradaŭnaści i kali ŭ Biełarusi byli kniazi z rodu Hiedymina. Ale hetkaje pałažeńnie biełaruskaha sialanstva pačało źmianiacca na horšaje ŭ pačatku XV st. pry kniazioch z rodu Jahajłavaha.

U 1386 h., jak viedama, vialiki kniaź Biełarusi i Litvy Jahajła ažaniŭsia z polskaj karaleŭnaj Jadvisiaj, staŭsia plskim karalom i pad svajej uładaj

złučyŭ Biełaruś z Polščaj. Chacia Biełaruś ź Litvoj skora atrymała svajho asobnaha kniazia i patrapiła źbierahčy svaju samastojnaść, to ŭsioždyki z hetaha času jana ŭsio bolš i bolš paddavałasia ŭpłyvam Polščy. Heta pradusim adčuli na svajej ułasnaj skury biełaruskija sialanie. U Polščy ŭ časie Jahajłavičaŭ sialanie stalisia całkom zaležnymi ad panoŭ. Za prykładam Polščy hetaki paradak kniazi pačali zavodzić i ŭ Biełarusi. Tak, naprykład, vialiki kniaź Biełarusi i Litvy i karol Polščy **Kazimier I**, syn Jahajły, žadajučy prypadabacca panom, pryznaŭ im u 1447 h. **admysłovyja pravy**. Pravy hetyja nazyvalisia pryvilei, heta znača, što tolki im, panom, prysłuhoŭvajuć i bolš nikomu. Hetyja zakony zabaraniali sialanam pierachodzić z panskaj ziamli na kniažuju i naadvarot — z kniažaj na panskuju. Zabaraniałasia tak-ža sialanam pierachodzić ad adnaho pana da druhoha. Jany musili astavacca zaŭsiody ŭ adnaho pana, usioroŭna — ci byŭ jon dobry, ci błahi.

Usia ziamla, ni vyklučajučy i tych paletkaŭ, na jakich sialanie pracavali dla siabie, ličyłasia ŭłasnaściaj kniažaj abo panskaj. Sielanin mieć ziamlu na ŭłasnaść nia mieŭ prava.

U tym-ža 1447 h. Kazimier **prava sudzić sialan** pryznaŭ panu, u jakoha sialanie pracavali. Kopnyja sialanskija sudy stracili svaju siłu. Pierastali sialanskija spravy padlahać tak-ža i sudom vialikakniažym, sudom dziaržaŭnym. Takim čynam sialanie byli addany panom na ich łasku i niałasku. Ad hetaha času pany ź sialanami štoraz horš abchodzilisia i štoraz bolš ad ich vymahali pracy i roznych padatkaŭ. Sialanie stanavilisia niavolnikami. Pačałasia praŭdzivaja panščyna, abo pryhon.

Panščyna heta akančalna zapanavała pa ŭsiej Biełarusi **paśla Lublinskaj vunii** ŭ 1569 h. Vyražałasia jana ŭ tym, što: 1) sialanie sami i ich patomstva naležali da pana. Pan mieŭ prava ich pradać, padaryć, ci pierasialić u druhoje miesca. 2) Uciokšaha pryhonnaha sielanina pan mieŭ prava šukać i, znajšoŭšy, viarnuć sabie nazad. 3) Pryhonnyja biaz pana nia mieli prava vieści nijakich sudoŭ. 4) Pryhonnyja nia mieli ŭłasnaści i ničoha nie mahli pierakazać u spadku z tej majomaści, jakoj jany karystalisia. 5) Pryhonnyja sialanie biaź viedama svajho pana nia mieli prava žanicca. 6) Duša pryhonnaha tak-ža naležała da pana: pravasłaŭnyja pryhonnyja sialanie ŭ svaim carkoŭnym žyćci byli susim zaležnymi ad polska-katalickich panoŭ. 7) Pracavać na pana pryhonnamu sielaninu prychodziłasia prynamsi paŭtydnia. A byli i takija pany, jakija haniali svaich sialan na rabotu dla siabie praz uvieś tydzień. Na siabie ŭ takich zdareńniach sialanie byli prymušany pracavać u dni śviatočnyja i nočču.

U XVI st. za časaŭ Žyhimonta III Aŭhusta vialikakniažaja ziamla na Biełarusi była pamierana i padzielena na časci, jakija nazyvalisia vałokami. U vałoku ŭvachodziła 20 ha. Hety paradak jašče bolš abciažyŭ pałažeńnie sialan. A heta zatym, što ciapier užo była dakładna aznačana kolkaść u

sialanskim karystańni ziamli i za hetuju ziamlu na sialan byli tak-ža dakładna aznačanyja nałožany padatki. A kab sielanin addaŭ usio, što na jaho naležała, byli pastaŭleny pa dvaroch roznyja panskija ŭradaŭcy: akanomy, laśničyja, łoŭčyja, kaniuchi i inšyja. Da taho, raźmieryŭšy na vałoki ziamlu, lepšyja kavałki byli pryznačany panom, a sialanie pavinny byli pracavać i dla siabie i dla taho-ž pana. Ale i za hetyja horšyja ŭsioroŭna treba było chadzić panščynu i płacić padatki ŭsiakim dabrom i hrašmi.

Majučy prava žyćcia i śmierci sialan, pany mahli ich **karać**, jak tolki chacieli. I sapraŭdy hetych karaŭ pany sialanam nie škadavali. Karali jany ich i za spaźnieńnie na panščynu, za niesumysnuju jakuju škodu, za źbirańnie hryboŭ i jahadaŭ u panskim lesie, za niechadžeńnie ŭ carkvu ci kaścioł i za roznyja inšyja rečy, jakija z prastupkam nia majuć ničoha supolnaha. Za hetkija «prastupki» pany bili sialan rozhami ci bizunami. Bili, viedama, pa hołym ciele. Bizuny henyja ci rozgi byvali z prypravaj: močanyja ŭ vadzie zvyčajnaj i močanyja ŭ vadzie salonaj. Byvali vypadki, što biełaruski sielanin dastavaŭ sto ŭdaraŭ bizunom pa hołym ciele i pad henymi ŭdarami ŭvieś akryvaŭleny pamiraŭ. Sudu na hety panski hvałt nie było nijakaha.

Apražča hetaha pany nad sialanami rabili zvyčajnyja **ździeki** i škieli: jany zahadvali im ščakatać piatki, kukavać ziaziulaju, uźlezšy na dreva, skakać, piajać. A za drennaje vykonvańnie hetych zahadaŭ išli rozgi, paboi, katavańni i navat zabojstvy.

Takoje žyćcio biełaruskich sialan daviało ich da taho, što stalisia jany **biednyja dušoj**, bo staptany byli ŭsie ich ludzkija pravy, **biednyja jany byli i ciełam**, bo vybivalisia z apošnich sił pry niezvyčajna ciažkoj pryhonnaj pracy, mučylisia, ciarpieli i haładavali.

Nieŭmahatu ŭreščie stałasia biełaruskim sialanam hetkaje ich žyćcio' i jany pačali šukać ź jaho vyjścia. Nia mohučy dalej znosić svajho hora, sialanie **kidali** panoŭ i ŭciakali kudy hladziać vočy. Ale złoŭlenyja, doraha za heta płacili: ich bili, katavali, varočali nazad i jašče bolšyja nakładali ciažaści.

A kali nie ŭdavałasia sialanam asvabadzicca ad svaich hvałtaŭnikoŭ-panoŭ uciakańniem, jany prabavali inšych sposabaŭ: jany **palili** panskija pałacy, a samych panoŭ **zabivali**.

Ureščie, biełaruskija sialanie, ratujučy svaju svabodu, vieru i narodnaść, rabili prociŭ panoŭ **zbrojnyja paŭstańni**. Pieršyja pačali heta ŭkrainskija kazaki pad pavadyrstvam słaŭnaha atamana Bahdana Chmialnickaha. Kazak — heta znača volny čałaviek. Kazaki — heta pieravažna źbiehłyja ad panoŭ sialanie i volna asiełyja ŭ šyrokich stepach Ukrainy. Tudy ŭciakali i mnohija pryhonnyja sialanie-biełarusy. A kali ŭkrainskija kazaki raźbili polskaje panskaje vojska pry **Žoŭtych Vodach** i Korsuni ŭ 1648 h., zavarušyłasia i Biełaruś. Usie biełarusy, jakija bolš nie mahli znosić panskaha

патрабаваньняў каталікоў-кіян, колькасьць якіх у буйным асяродку праваслаўя павялічвалася. Уражвае наяўнасьць касьцёлаў на тэрыторыі тагачаснай Украіны ня толькі нэагатычнага стылю, але і даўнейшых, што існавалі не адно стагодзьдзе, асабліва ў заходніх рэгіёнах; катэдра ў Луцку, касьцёл Сьвятой Тройцы ў Камянец-Падольскім, там жа Дамініканскі касьцёл і катэдра. Але пры гэтым ні здымка з Львоўшчыны. Рэч у тым, што тады гэта была Галіцыя, якая належала Аўстра-Вугоршчыне. Нельга абмінуць буйных каталіцкіх пабудоў Жытоміра. Цэнтр горада ўпрыгожвала катэдра. Быў там і касьцёл, што ўваходзіў у комплекс будынка сэмінарыі. У ёй навучаліся клерыкі з розных украінскіх гарадоў і вёсак, і, пэўна, сярод іх потым было шмат такіх, хто займаўся душпастырскай дзейнасьцю на роднай мове, усьведамляючы сувязь Слова Божага з нацыянальным Адраджэньнем.

Па колькасьці канфэсый Кіеўская губэрня была не на апошнім месцы. Пра гэта сьведчаць касьцёл XIX ст. у Белай Царкве (накшталт Старога ў Кіеве), нэагатычны касьцёл у Фаставе (нетыповы, з адной баковой вежаю і высокім дахам, магчыма, перабудаваны з даўнейшага), касьцёл ва Умані, з клясычным фасадам з калюмнамі, трохкутным франтонам і дзьвюма вежамі-званіцамі. А Бердычаў меў найвыдатнейшы ансамбль касьцёлаў узьнёслага барочнага хараства XVII—XVIII стст. — Найсьвяцейшай Панны Марыі і Фарны.

У Харкаве ўзвышаўся аднавежавы нэагатычны касьцёл як сымболь поступу каталіцтва на ўсходніх украінскіх землях. Новы дзьвюхвежавы касьцёл, што вырас побач з невялічкім, клясычнага стылю ў Мікалаеве Херсонскай губэрні — пашырэньне каталіцызму на поўдні. Асаблівую ролю тут адыгрываў партовы горад Адэса, які меў самыя ажыўленыя сувязі з заходнімі краінамі. Дагэтуль адну з цэнтральных вуліц Адэсы ўпрыгожвае дзьвюхвежавы гатычна-раманскі касьцёл, які тады быў толькі ў праектах. А вось Стары Касьцёл, застаўся толькі на унікальным здымку. Па сваёй вобразнай асаблівасьці ён аб’ядноўвае дзьве розныя плыні — усходнюю і заходнюю. Ягоны асноўны будынак з купалам і прыбудаванай да фасаду вежай-званіцай мог бы здавацца і царквою, але муры, узмоцненыя выступамі-контрафорсамі, паўкалюмны, што з усіх бакоў акцэнтуюць грані вежы, высокія гатычныя вокны падкрэсьліваюць прыналежнасьць бажніцы да заходняй хрысьціянскай традыцыі.



Былы кляштар сс.Бэнэдыктынак у Нясьвіжы

І разам з тым прэарытэт (колькасна) у кнізе аддаецца каталіцкім сьвятыням на Беларусі. Вядома, што з Кіева да Беларусі — самы блізкі шлях. І каталіцызм на Украіну пашыраўся таксама з беларускіх асяродкаў, кляштараў, дзе меў больш даўнія карані.

У кнізе знайшлі адлюстраваньне ня толькі гарадзкія, але і вясковыя бажніцы, як, напрыклад, вялікі касьцёл у в.Васілішкі, ранейшага Лідзкага ўезду. І хоць няма матэрыялаў, зьвязаных з Горадняй і Пінскам, Наваградкам ды іншымі заходнебеларускімі гарадамі і мястэчкамі, але пададзеная падборка фотаздымкаў выклікае шмат успамінаў.

У Слуцку — прыватнаўласьніцкім горадзе Радзівілаў — быў старажытны касьцёл з фасадам у стылі раньняга барока, бяз вежаў і купала. Нічога не пакінулі ад будынка бальшавікі, калі нішчылі ў горадзе ў 1920—30-ыя гады хрысьціянскія сьвятыні.

У Менску яны ня ўсё пасьпелі ператварыць у друз. Можна параўнаць як выглядала Менская катэдра тады і што засталося ад яе — абсечаны, рэфармаваны фасад. Праўда, ізноў ажыло яе сэрца — адбываюцца каталіцкія набажэнствы.

Як белы ветразь уздымаўся на Залатой горцы ў Менску касьцёл Сьвятое Тройцы. Да яго вяла брама, цьвінтар каля касьцёла быў абнесены драўлянай агароджай. Касьцёл — адзін з найстарэйшых у горадзе, перабудаваны ў нэагатычным стылі ў XIX ст. — перажыў страшэнныя нягоды, але выстаяў. Могілкі ж былі канчаткова зьнішчаныя ў 60-я гады. Не крыжы і спракавечныя дрэвы яго зараз абступаюць, а гаражы, пабудаваныя на касьцях продкаў!

З іншых пэрлін беларускага дойлідзтва Меншчыны прадстаўлены былы кляштар Бэнэдыктынак у Нясьвіжы. Так, і тады ўжо «былы», бо царызм самым жорсткім чынам распраўляўся з кляшторным жыцьцём на Беларусі, дзе колькасьць ордэнаў была найбольшая ва ўсёй Эўропе!

Віцебск нездарма лічыўся адным з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі па канфэсыйнай архітэктуры. На левабярэжжы Дзьвіны ўздымаліся праваслаўныя саборы. Поруч — як сьвечкі — вежа ратушы, вежы касьцёла сьв.Антонія, ствараючы разам цудоўны барочны комплекс. Зараз тут пустка, ад былых духоўных дамінантаў засталіся толькі абсечанае да утылітарнай пабудовы «цела» касьцёла ды ратуша. Але сьвятое БЫЛО. І ніякія выбухі, злая воля і неразумнасьць не перамогуць БЫЛОГА, якое ў духоўным разьвіцьці грамадзтва возьме верх над нялюдзкай амаральнасьцю і абсалютнай адсутнасьцю сумленьня дзеля лёгкага і бесклапотнага жыцьця.

Нэараманскі касьцёл сьв.Барбары, які быў у паўразбураным стане на правабярэжжы, зноў вярнуўся да жыцьця — сакральнага. Цуд! Аўтару гэтых радкоў выпала на пачатку 1980-х гадоў сузіраць маўклівыя рэшткі сьвятыні з чырвона-рудое цэглы. Цэглы такой моцнай, што нехрысьці ніяк не маглі зруйнаваць будынак, дык зрабілі сьметнішча. Маўляў, будзе рэканструкцыя раёна — зьнясём паводле генэральнага пляну... Быў шэры дзень, імжэў дождж, муры былі вільготныя, як ад сьлёз... Але жыцьцё з Богам перамагло, і адзін з усходніх беларускіх гарадоў мае сваю каталіцкую парафію. І таму слова Віцебск гучыць як заклік да аднаўленьня, бо вядома, як БЫЛО і як ПАВІННА стаць!

А далей уніз, на цячэньні дзьвінскіх і нёманскіх хваляў, ажно да Балтыйскага мора — па ўзьбярэжжы касьцёлы і

касьцёлы. У Дзьвінску, у самой Рызе — высачэзны касьцёл сьв.Францішка. А эмігрантам, якім не было месца на роднай зямельцы, — як пісаў аб іх у трагічным вершы М.Багдановіч — доўга на даляглядзе мігцелі агні партовай Лібавы і разьвітальна цягнуліся ў неба тры вострыя вежы касьцёла, бачныя нат тады, калі за марскімі хвалямі зьнікала зямля...

Можна было скіравацца да Балтыкі па каталіцкіх парафіях, абраўшы за пачатак шляху, напрыклад, віленскі касьцёл XVIII ст. сьв.Рафала над Вяльлёю, уніз на цячэньні, дзе яна ўпадае ў хуткаплынны Нёман. А там старажытны горад Коўна, панараму якога нельга ўявіць без шматлікіх касьцёлаў — гатычных, рэнэсансна-барочных. Яны надаюць абліччу места ўрачыстую годнасьць, шляхоцкасьць, якую, дзякаваць Богу, не зьмяніла сацыялістычная рэчаіснасьць Летувы. І можна бяз стомы назіраць за люстранымі адбіткамі шматлікіх вежаў у плыні Нёмна, які нібы амывае, ачышчае, асьвяжае ад даўнечы стагодзьдзяў іх прасьветленыя адлюстраваньні.

Дзеля такіх ўражаньняў пройдзеш не адну вярсту, каб потым узгадаць іх як чароўны момант жыцьця. І прыгадвалі, толькі з салёнай сьлязою ў вачах, каталікі з Коўны, Вільні, Віцебска, Менска, Нясьвіжа, адкуль яны трапілі далёка на Усход. І як сымболь роднага, з чым нельга парываць сувязі, паўставалі касьцёлы на чужой непрыветнай зямлі. І таму ў іх так многа падабенства да сьвятыняў, пакінутых на радзіме, у тых касьцёлах, што будаваліся ў XIX, на пачатку XX ст. на Усходзе. Пачынаючы ўжо з памежнага Смаленска, дзе быў вялікі нэагатычны касьцёл, што поруч са слыннымі абарончымі мурамі стаў сымболем падзелу каталіцызму на яго гістарычных тэрыторыях, і новых, пакутліва асвоеных на шляхах няволі. І далей па губэрнскіх гарадах і мястэчках шукаць нэаготыку з чырвонай цэглы. Дзьвюхвежавы касьцёл у Саратаве, Екацерынаслаўлі і мястэчку Каменскае Екацерынаслаўскай губэрні, аднавежавыя ў Варонежы, Туле. Апошні, дарэчы, створаны ў праваслаўным горадзе і, магчыма, архітэктарам, зарыентаваным на мясцовыя традыцыі. Касьцёл нечым нагадвае сярэднявечны замак, ды такі, якім ён бачыцца вачыма расейца, які спрабуе яго пераасэнсаваць. Вельмі своеасаблівы прыклад адаптацыі заходніх традыцый на хрысьціянскім усходзе. У няволі імпэрскага прыгнёту ўсе былі без асаблівых правоў як ахвяры рэжыму; таму простыя людзі розных канфэсый, нягледзячы на палітыку «падзяляй і ўладар», разумелі адзін аднаго і ставіліся па-

хрысьціянску, пакуль само хрысьціянства не было абвешчанае варожым.



Унікальны здымак данёс зьвесткі і пра закладаньне падмуркавага каменя пад касьцёл у Пензе. У цэнтры горада, пра што сьведчыць прыстойная камянічка з вэрандай, згуртаваліся парафіяне і адбываецца ўрачыстая імша. На пярэднім пляне ля памятнага каменя ўзвышаецца зграбны каталіцкі крыж, які пазначае сьвятасьць месца для будучай бажніцы. А ці здолеў пензенскі касьцёл нарадзіцца і паўстаць накшталт апошняга ў дабальшавіцкі час у Менску касьцёла Сымона і Алены і перажыць злачынныя разбурэньні?.. Але хай усё добрае не мінае тое месца, дзе стаяў асьвечаны прысутнасьцю Божага Духа сымболь пакуты і збаўленьня — Крыж!

Партовыя гарады, накшталт Адэсы, на паўночна-заходніх і паўднёвых межах імпэрыі таксама мелі касьцёлы. Ратонда-кась-

цёл (круглы, купальны) у Кранштаце быў пабудаваны ў клясычным стылі. Ён нечым нагадвае старажытны Пантэон у Рыме, але вельмі паменшаны. У Севастопалі ўжо складаліся праекты тыповага нэагатычнага касьцёла, а ў Архангельску на той час ужо дзейнічаў невялікі касьцёл з дзьвюма вежамі і трохкутным франтонам. Для гэтай, паўночнай часткі Эўропы выглядаў ён вельмі зграбна, хоць быў і даволі просты ў сваіх абрысах.

Каталіцкія парафіі былі нават у такіх рэгіёнах, што без дакумэнтальнага пасьведчаньня і ўявіць немагчыма: у барочных формах стромка ўздымалася вежа-званіца касьцёла ў Ясах (Бэсарабская губэрня), нэагатычны касьцёл у г.Батум — сьведчаньне зьяўленьня каталікоў на Каўказе. А касьцёл сьвятых Пётры і Паўла ў пераасэнсаваным стылі грузінска-візантыйскай і барочна-заходняй архітэктуры падмацоўваў рэлігійна-культурную значнасьць горада Тыфліса, галоўнага ў горным краі, такім далёкім ад Вільні, а тым больш ад Ватыкана.

Але дзеля гістарычнай справядлівасьці трэба наведаць і тыя мясьціны, куды ішлі скаваныя ланцугамі змагары за незалежнасьць бацькаўшчыны. Паўночны Урал, Сібір, Далёкі Усход. Сьціплыя, але вельмі прыцягальныя па сваёй стрыманай годнасьці касьцёл у Петразаводзку Аланецкай губэрні і капліца ў Уфе з вострым шатровым дахам вежы. Узьнёслы і нават сьвяточны з выгляду касьцёл у Табольску з нэагатычнай фасаднай вежай і яго аддаленая «сваячка» на выселках — маленькая драўляная каплічка ў пасёлку Курган Табольскай губэрні. Усё гэта зьвязанае з лёсам людзей, цэлых пакаленьняў, што да апошняга дыханьня і ў цяжкіх варунках не пакідалі Пана Бога. Так міла і люба было прыйсьці ў касьцёл, напрыклад, у Чыце Забайкальскай акругі і ўкленчыць перад аўтаром, над якім ўзьнесьлі свае крылы анёлы, і ў думках далучыцца да сьвету сапраўднага, чыстага, нескажонага і забыцца аб сваёй нядолі. Просты, драўляны, аскетычны звонку касьцёл з маленькай вежачкай над уваходам меў, як аказалася, вельмі ўрачысты і сьвяточны інтэр'ер. Былі тут нават тканыя дываны, ходнікі, як у найлепшых касьцёлах буйных гарадоў. Але, прыгадаўшы, што засталося ад шматлікіх драўляных касьцёлаў Гарадзеншчыны, дзе на месцы былых аўтароў пад адкрытым небам расьце быльнёг, то ня хочацца нат думаць, што сталася з касьцёламі у Чыце. Няўжо анёлы не пакінулі гэтае месца, дзе калісь гучала музыка і чуліся каталіцкія сьпевы?

А вось і ціхаакіянскае ўзьбярэжжа. На тэрасах раскінуўся вялікі горад Уладзівасток. І тут некалі быў драўляны касьцельчык (так лагодна хочацца яго назваць, пазіраючы на стары фотаздымак). Але неўзабаве на яго месцы ўзьвялі цагляны касьцёл у стылі рускага барока, (у XVII ст. цыбуліны вежаў сталі замяняцца шатровымі, востраверхімі скляпеньнямі) — так на ўсходняй мяжы хрысьціянскага сьвету ўяўлялі сабе каталіцкую бажніцу.



Касьцёл у Варонежы

Але гэта ня самы ўсходні касьцёл, бо была сьвятыня і ў самым катаржным «канцы сьвету» — на Сахаліне. Драўляны касьцёл на каменным падмурку, з вэрандай, з невялічкай вежай над высокім двухскатным дахам, з прыбудаванай закрыстыяй. Сьціплы малюнак, але важкае сьведчаньне таго, што не забывалі выгнаньнікаў і пакутнікаў на іх радзіме, памяталі пра іх аселішча, і тыя, таксама ў экстрэмальных варунках, не забывалі Бога. І можа нават сюды, менавіта ў гэты сахалінскі касьцёл траплялі кнігі каталіцкай навукі і чыталіся тут гэтыя мудрыя і ўсьцешныя словы, што зьмешчаны на старонцы пад малюнкам: «...Сьвяты Тамаш зьвяртае ўвагу, што для хрысьціянаў ня столькі важная рэч узьнёслым голасам разважаць аб Найсьвяцейшай Тройцы, але сваім жыцьцём імкнуцца заслужыць яе ўпадабаньне...» Слушна і істотна. Праўда, якая не старэе: мала называцца хрысьціянінам, трэба ім быць.

На пачатку кнігі — здымак катэдры ў Вільні. Сёньняшняя катэдра мае амаль той жа выгляд. Няма толькі выяваў скульптур сьвятых на франтоне. І апошні родны акцэнт — трыумфальнае віленкае барока прадстаўлена касьцёлам сьвятых Пётры і Паўла. Касьцёл такі ж і зараз, толькі на здымку вакол яго маладзенькія дрэўцы, што толькі пачалі брацца ўгару сваімі кронамі.

Вільня... Пачатак і гожы фінал пілігрымак і падарожжаў па вялікім каталіцкім сьвеце, які так зьмяніўся за апошняе стагодзьдзе. Але нельга пазбавіць мінуўшчыны сваю памяць, забыцца на былыя здабыткі, бо наперадзе вялікі шлях, шлях Адраджэньня.

Закончым пілігрымку кароткай малітвай на лаціне, у якой словы ўдзячнасьці Усемагутнаму Богу за ўсе ягоныя дары, вечнае валадарства, бо нас чакае новая праца, новы дзень, новы чын. «Amigus Cibi gracijas, Omnipotens Deus, pro universis beniefikcis tuis, qui vivis et regnas in secula seculorum. Amen».

*Яўген Шунейка*

# КАТАЛІЦКАЯ ФРАНЦЫЯ ВАЧЫМА ПРАВАСЛАЎНАГА

Уплывовая каталіцкая арганізацыя моладзі параднёнага з Менскам французскага горада Ліёна запрасіла да сябе прадстаўнікоў каталіцкай моладзі Беларусі. Але паколькі біскуп менскі ніяк не адрэагаваў, то запрашэньне было перададзенае праваслаўнай царкве. І вось мы, малады сьвятар і выкладчык у адной асобе і студэнт Жыровіцкай сэмінарыі, ляцім у складзе стракатай беларускай дэлегацыі рэйсам на Жэнэву, каб прадстаўляць хрысьціянскую Беларусь.

Мне цяжка было ўявіць сабе Ліён. Ведаў пра яго толькі тое, што гэта буйны прамысловы цэнтр Францыі, і яшчэ са школьных падручнікаў узгадвалася пра штрайкі ліёнскіх ткачоў. Дарэчы, пра Беларусь нашым ветлівым гаспадарам вядома яшчэ меней. У іх склалася ўстойлівае ўяўленьне, што наша рэспубліка знаходзіцца «недзе каля Турцыі». Даводзілася пераконваць, што мы таксама эўрапейцы і культура наша адметная ад расейскай (у гэты час у Ліёне праходзіла выстава расейскіх народных вырабаў: парцаляны, расквечаных хустак, размаляваных цацак, самавараў, балалаек і г.д.).

Цэнтральная частка Ліёна — пераважна пабудовы XVIII—XIX стст. (помнікаў сярэднявечнага дойлідства засталося няшмат) — месціцца паміж дзвюх рэк — Ронай і Сонай. У кожным квартале ёсьць свой касьцёл: гатычнага альбо псэўдагатычнага, клясыцыстычнага альбо мадэрновага стылю. Але ўсе яны не дамінуюць над астатнімі забудовамі, бо французская готыка традыцыйна пазьбягае шпіляў і стромых вежаў. Усе ліёнцы ганарацца рэшткамі антычнага гораду (цяпер гэта музэй пад адкрытым небам гала-раманскай культуры), рымскімі тэатрамі, цыркам, дзе ў 177 годзе н.э. былі кінуты лютым зьвярам першыя хрысьціяны, сярод якіх быў і сьв.Ірынэй Ліёнскі. Нават станцыю мэтро пад старым горадам аздабляе сьцяна з мазаікамі, якая была калісьці ў антычным горадзе.

Цэлы тыдзень жылі мы ў ксяндзоў парафіі Сан-Патэн (сьв.Фаціна, настаўніка сьв.Ірынэя Ліёнскага). Трэба адзначыць, што на Захадзе касьцёл ня толькі мае права мець прыватную ўласнасьць, але і актыўна карыстаецца гэтым правам: яму належаць як сьвятыні, так і зямельныя пляцы вакол іх разам з парафіяльнымі дамамі, грамадзкімі будынкамі і катэхізычнымі школамі. Больш за тое — рэлігійныя арганізацыі могуць укладаць сродкі ў прадпрыемствы і нават здаваць кватэры. Вось сьведчаньне рэальнай незалежнасьці царквы ад дзяржавы. А значэньне царквы ў Францыі — краіне ў першую чаргу каталіцкай — велізарнае: яна мае больш за 20 сэмінарыяў, што сьведчыць пра яе насычанасьць парафіямі, бо ў адным толькі Ліёне больш за 160 касьцёлаў, ня лічачы бажніц іншых канфэсыяў. Штогод выдаецца каля 10 тысяч назваў рэлігійных кніг і безьліч пэрыядычных выданьняў на самыя розныя тэматы, нават сіламі саміх вернікаў на ксэра-капавальнай тэхніцы.

Тэалягічную адукацыю ў Ліёне можна набыць і ў сэмінарыі імя Ірынэя Ліёнскага (тэрмін навучаньня — 6 гадоў), і на багаслоўскім факультэце унівэрсытэта, прычым вучоба не абмяжоўваецца традыцыйнымі для такіх навучальных установ прадметамі. Тут вывучаюць гістарычныя, філязофскія, мастацтвазнаўчыя дысцыпліны, мараль і палітыку, царкоўную юрыспрудэнцыю, старажытныя мовы (грэцкую, арамэйскую, габрэйскую, армянскую) і такія спэцыфічныя цыклы, як французская і флямандзкая містыка, ісламалёгія, юдаізм, будызм, кітайскія рэлігіі, біблейская археалёгія і шэраг іншых. Але зьдзіўляе тое, што большасьць выкладчыкаў каталіцкай сэмінарыі — лютэраны. Яны прымаюць удзел і ў штодзённай імшы і камуніі. Увогуле

ў Францыі шырока прапагандуецца экумэнічны рух, таму дапушчэньне да камуніі іншаверцаў — ня рэдкасьць. І не бяруцца пад увагу каноны і заўвагі Вытыкана. Французскі каталіцкі касьцёл ганарыцца часоваю самастойнасьцю былога галіканскага касьцёлу і сёньня раўняецца на тыя часы.

Не сакрэт, што пасьля II Ватыканскага Сабору каталіцкі касьцёл вельмі абнавіўся, уключыў і мадэрнісцкія павевы. Дык вось Францыя ў гэтым кірунку ў авангардзе. Вельмі спрасьціўся тут падыход да канонаў і традыцыяў: адменены сутаны, няма падрыхтоўкі да камуніі, нават лічыцца звычайным ксяндзу перад адпраўленьнем імшы выкурыць цыгарэту, на казаньні адводзіцца мінімальны час, мніхі жывуць у камфартабэльных катэджах. Праўда, нам паказвалі прытулак аскетаў, якія адгарадзіліся ад цывілізацыі і заснавалі кляштар паблізу засьнежаных вяршынь у Альпах і не дапускаюць да сябе нікога, апрача свайго біскупа (ён можа дастацца туды толькі верталётам).

У сьвятынях гатычнага стылю не было бачна ні абразоў, ні традыцыйных скульптураў. Кажуць, іх пазьнішчалі падчас Французскай рэвалюцыі, але і не было спробаў аднавіць іх. Затое вельмі папулярныя вітражы і фрэскі, нават у стылізаваных пад даўніну касьцёлах. Уласна каталіцкіх абразоў, апрача абраза Чэнстахоўскай Божае Маці, мы ня бачылі нават у катэдры, аднак карыстаецца вялікай пашанай Бізантыйскі абраз (цяпер Уладзімірскі) Божае Маці і Сьвятая Тройца Андрэя Рублёва. Французы ўмеюць цаніць вытанчанае мастацтва, але ад мадэрновых касьцёлаў уражаньні застаюцца цяжкія. Звычайна яны ўяўляюць сабою бэтонную скрынку з крыжам — адзінай адзнакай культавай пабудовы. Гэта звонку, а ўнутраны выгляд дык і зусім не нагадвае каталіцкую бажніцу: звычайны стол, трыбуна, лавы, з двух брусоў крыж, на задняй сьцяне рэклямныя аб'явы, дзіцячыя малюнкі, розная інфармацыя. Гэтае месца больш нагадвае клюб, чым сьвятыню.

Бачылі мы і ўкраінскі уніяцкі храм, дзе нават у дробязях — адданасьць традыцыям: як напамін пра радзіму — бізантыйскія абразы і вышываныя рушнікі. Але і тут набажэнствы даволі часта адпраўляюцца па-французску, бо ўсё залежыць ад узроўню валоданьня роднай моваю рознымі пакаленьнямі эмігрантаў.

Але моладзь ня надта шануе традыцыі, патрабуе «танных» бажніцаў, таму яе цалкам задавальняюць сучасныя касьцёлы, непатрабавальныя ксяндзы і караценькія (хвілін на 30) наба-

жэнствы. Калі імша цягнецца даўжэй звычайнага, то нецярпліўцы знакамі паказваюць сьвятару на гадзіньнік.

Давялося пабачыць мне і хатнюю капліцу адной маладзёжнай суполкі. Звычайны падвал, цагляныя сьцены якога прыкрыты барвоваю шырмай, да якой прымацаваны саматужны абраз-аплікацыя, аўтар зьбіты з дзьвюх паловак расьпілаванага шурпатага бервяна, побач з кволага дрэўца зьвязаны крыж, а ўслоны — адпілаваныя круглякі бервяна. Інтэр'ер складаюць і купленыя сьвечкі, расстаўленыя на падлозе, перад аўтаром — букет з пшанічнага калосься (выдатны сымболь хрысьціянскага жыцьця) і тут жа побач у куце — гара старой макулятуры.



Гэта ня зьдзек, а сучасныя юнацкія ўяўленьні пра жывы касьцёл. Моладзі няўтульна ў існых гарадзкіх касьцёлах, яна ладзіць капліцу на ўзор першабытнай пячоры і адчувае тут сябе як дома. Для моладзі функцыя касьцёлу абмяжоўваецца яднаньнем гурта сяброў, самы аўтарытэтны з якіх — ксёндз,

да якога не прынята зьвяртацца «айцец», а клікаць проста на імя і зьвяртацца на «ты». Касьцёл не навязвае казаньняў, не павучае, як жыць і ратавацца, але імкнецца зрабіць прыемным баўленьне часу для сваёй паствы. Выбрана тактыка не выкрываньня, але залагоджваньня. Адсюль і беспасьпяховасьць у барацьбе з невысокім маральным узроўнем. Напрыклад, за год можа не прыйсьці да споведзі ні адзін з сталых вернікаў. Сябры маладзёжнай каталіцкай арганізацыі часта жывуць нявенчаныя. Ксяндзы ж не праводзяць ніякіх аргумэнтаваных тлумачэньняў: маўляў, ужо самі дарослыя — не пераробіш. Талерантнасьць да граху можа толькі шкодзіць. Прыкладам, у самой катэдры даваў канцэрты тантрыйскі шаман з Тыбэту і, зразумела, выклікаў сваіх дэманаў. Каталіцкае духавенства не ўхваляе гэтага, але ж што зробіш — бізнэс і экумэнічны рух...

Тым ня менш, касьцёл пасьпяхова імкнецца быць у цэнтры жыцьця французаў: пад яго эгідай дзейнічае і хрысьціянская навука, і катэхізычныя школы, і дабрачынныя ўстановы. Даволі часта касьцёл арганізуе адпачынак, ладзіць круізы, пікнікі для сем'яў ці маладых параў, дапамагае вызначыцца былым школьнікам у далейшым жыцьці, апякуецца хрысьціянскім маладзёжным рухам, наймацнейшая з арганізацый якога JOC ("Працоўная хрысьціянская моладзь") запрасіла нас у гэтую замежную паездку.

Каталіцкі касьцёл у Францыі імкнецца ісьці ў нагу з часам. Толькі ці заўсёды гэта на карысьць для яго самога?

*Алесь Кароль*

## З «Chryścijanskaj dumki» за 1933 г.

*N3*

Jak voziernaja kraska sahnuta nad vadoj,
U śvietłaj toni viery ja časta myśl kupaju:
Ach, bujnaja jana... ale ź biadoj
Zmahacisia duchovaj siły mała maju.
Mnie sucha ŭ sercy, zdajecca myśl zdramnuła,
Duch moj prystaŭ i locie pad niabiosy —
I hora mnie, bo śviežaść praminuta
Tych mar, što bytu saładziła losy.

24.3.1916

### TRYVOŽNAMU

Nia rań svajho serca: nia bojsia nikoha,
Usio praminie — usio, aproč Boha.

SUMNAMU

Praz ślozy, moj bracie, śmiaisia,
Choć serca tak płača ŭ niadoli,
Kryj stohny prad śvietam, kryj boli,
I cicha da Boha malisia.

*Kaz.Svajak*

*N4*

## R OZNYJA CIKAVAŚCI

**Jak doŭha moža čałaviek haładavać?**

Ničoha nie jadučy ani pjučy, čałaviek umiraje pa 7 da 10 dzion, śmierć nastupaje tady, kali vaha spadzie bolš-mienš da pałovy, a ŭ dziaciej, jakija jość słabiejšyja, da 3/4 narmalnaj vahi. Z historyi viedama, što niekatoryja ludzi pieranosili hoład niazvyčajna doŭha. U 1831 h. adzin viazień u Tuluzie nia prymaŭ nijakaj ježy aprača vady praz 63 dni, paśla aho pamior. Padčas apošniaj viałikaj vajny Mec Swiney, burmistr irlanskaha miesta Cork, kali byŭ aryštavany anhielskimi ŭładami, na znak pratestu haładaŭ praz 75 dzion. Amerykanka Ingrani ničoha nia jeła praz 203 dni. U hetym časie ŭbyła 67 kg vahi. Z 105 na 38 kh. Roznyja specyjalisty ad haładamorstva ŭmiejuć haładavać praz 36 i 40, a navat i 50 dzion. Z hetaha bačym, što Chrystus, jaki paściŭ 40 dzion i 40 nočaŭ moh dakanać hetaha svaimi siłami pryrodnymi, nie karystajučysia da hetaha mocaj Božaj.

**Važnaje archeolohičnaje adkryćcie**

Anhlijskija hazety padali niadaŭna viestku ab duža važnym archeolohičnym adkryćci, jakoha dakanała vučonaja ekspedycyja anhlijskaja i amerykanskaja. Ekspedycyi hetyja ŭ vakolicach biblijnaha Ur (siońniašniaja Syryja) adkryli śviatyniu, jakaja pavodle navukovych abličeńniaŭ pachodzić z časaŭ za 3 tys. hadoŭ prad narodžańniem Chrysta.

a – а
b – б
c – ц
ć – ць
č – ч
d – д
e – э
f – ф
g – г*
h – г
i – і
ia – я
ie – е
io – ё
iu – ю
j – й
ja – я
je – е
jo – ё
ju – ю
k – к
l – ль
ł – л
m – м
n – н
ń – нь
o – о
p – п
r – р
s – с
ś – сь
š – ш
t – т
u – у
ŭ – ў
v – в
y – ы
z – з
ź – зь
ž – ж

* Выбухны г (як у расейскай і польскай) у словах ganak, guzik, gonta ды інш.

**PRZYJDŹ, JEZU**

MAŁY KATECHIZM

**ПРЫЙДЗІ, ЕЗУСЕ**

МАЛЫ КАТЭХІЗМ

Pallottinum · Warszawa · 1992

Айцамі палятынамі ў Варшаве выдадзены малы катэхізм «Прыйдзі, Езусе» (1992 г., 207 с.), як пазначана ў падзагалоўку, «для прыгатаваньня да першай споведзі і сьвятой Камуніі». Тэкст катэхізма складзены паралельна па-польску і па-беларуску, што на сёньняшні дзень, як нам падаецца, яшчэ зразумелая зьява. Зноў, каторы ўжо раз, беларуская мова спрабуе ўвайсьці ў касьцёл, а, улічваючы традыцыяналізм і кансэрватызм старэйшага пакаленьня каталікоў на Беларусі, пэўна, што гэтыя ўваходзіны павінны быць мяккімі і бесканфліктнымі.

Хаця некаторыя з беларусаў-каталікоў бачаць у такіх дзьвюхмоўных катэхізмоўках болей шкоды, чымся спажытку, гаворачы пра тое, што малыя дзеткі з каталіцкіх сем'яў на Беларусі нічога па-польску ня ўмеюць. Падобныя катэхізмы зьяўляюцца для іх своеасаблівымі падручнікамі польскай мовы, якія накідаюць на пальшчызну. Аўтарытэт польскай мовы для іх падмацаваны касьцёлам і ксяндзом. І, фактычна, сумоўем з Богам, якое вядзецца праз гэты катэхізм.

Цяжка адказаць, хто болей мае рацыі. Вынікі навучаньня па такіх дзьвюхмоўных катэхізмах у нацыянальным пляне можна будзе асэнсаваць хіба толькі праз некалькі гадоў. Але шмат яшчэ тут залежыць ад агульнадзяржаўнай моўнай палітыкі на Беларусі.

Што датычыць беларускамоўнай часткі катэхізма, дык трэба адзначыць, што напісаны ён простаю і даступнаю моваю, ня мае прыкрых хібаў у беларускай касьцельнай тэрміналёгіі, утрымлівае шмат карысных ведаў ня толькі для дзяцей, але й для дарослых. Рыхтаваўся катэхізм некалькі гадоў, чым можна і растлумачыць не ўсталяванае яшчэ напісаньне Пан — Госпад, чаго сёньня ў беларускай каталіцкай літаратуры ўжо амаль не сустракаецца. Цудоўны дадатак да катэхізма — збор беларускіх касьцельных песьняў з раней вядомых сьпеўнікаў (67 песень).

**АКАФІСТ НАЙСЬВЯЦЕЙШАЙ БАГАРОДЗІЦЫ**



У сьнежні 1992 г. менскімі грэка-каталікамі было факсымільна перавыдадзена гэтаксама нядаўняе лёнданскае выданьне **«Акафіст найсьвяцейшай Багародзіцы»** (1992 г., пераклад кс. А.Надсана). У пасьляслоўі да Акафісту а.А.Надсан піша: «Царква Хрыстовая ад самага пачатку акружае Багародзіцу асаблівай пашанай. Яна зьяўляецца прыкладам свабоднага дасканалага паслушэнства волі Божай. Будучы адной з нас, яна добра разумее нашыя цяжкасьці і патрэбы. Як Маці Божая, якая мае асаблівую ласку ў свайго Боскага Сына. Яна зьяўляецца нашай найбольш надзейнай і магутнай заступніцай і апякункай.

Шмат цудоўных малітваў і песьняў у гонар Божай Маці было створана на працягу стагодзьдзяў. Адной з найбольш вядомых сярод усходніх хрысьціянаў ёсьць несумненна «Акафіст у гонар Божай Маці». Аўтарам яго звычыйна лічыцца патрыярх канстантынопальскі Сяргей, які жыў у першай палове сёмага стагодзьдзя, хоць некаторыя дасьледчыкі сьцьвярджаюць, што акафіст ранейшага паходжаньня. Як бы там ні было, ён хутка пашырыўся па ўсёй тагачаснай Бізантыйскай імпэрыі. З прыняцьцем хрысьціянскай веры славянамі, Акафіст быў перакладзены на царкоўнаславянскую мову. Быў ён вядомы і на Беларусі. Францішак Скарына зьмясьціў яго ў сваёй Малой Падарожнай Кніжыцы, якая выйшла ў Вільні ў 1522. ...

...Хоць Акафіст зьяўляецца гімнам у гонар Багародзіцы, зьмест яго глыбока Хрысталягічны. У ім апяваецца Божае мацярынства, месца Багародзіцы ў Божым пляне збаўленьня роду людзкога. Увесь твор можна падзяліць прыкладна на дзьве часткі. У першай частцы расказваецца аб прыйсьці на сьвет Бога-Слова, ад Дабравешчаньня да сустрэчы, калі праведны Сямён у прынесеным у сьвятыню Дзіцяці прызнаў Збавіцеля.

Другая частка — гэта лірычны роздум над глыбокімі тайнамі, аб'яўленымі ў Эвангельскіх расказах».

Нам застаецца дадаць, што як і кожнае выданьне, выкананае і падрыхтаванае ў Лёндане айцамі марыянамі-беларусамі, «Акафіст найсьвяцейшай Багародзіцы» зьяўляецца пекнай кветкай старажытнай рэлігійнай культуры, што мае глыбокія карані на беларускай глебе, яна — вялікі ўнёсак у працэс аднаўленьня беларускае духовае бажніцы, якая павольна, але ўпэўнена, ва ўсіх ягоных праявах набірае вышыні.

*А.Кавальчык*




У Беластоку праваслаўным брацтвам роўнаапостальскіх Кірылы і Мяфодзія ў 1993 г. выдадзены даволі арыгінальны зборнік пад назваю «Храм і верш» (укладальнік М.Гайдук). Зборнік уяўляе сабою фотаілюстрацыі праваслаўных храмаў на Беласточчыне, пададзеныя паралельна з духоўнымі вершамі беларускіх аўтараў, пачынаючы аж ад Кірылы Тураўскага і Францішка Скарыны і заканчваючы Яўгенам Гучком. Вершы розьняцца па ўзроўні і ў духоўным і паэтычным пляне, але разам яны складаюць вельмі мілую карціну.

Яшчэ раз, з сумам для нас, каталікоў-беларусаў, мусім прызнаць, што беларушчына на Беласточчыне захавалася дзякуючы праваслаўю. А гэткая ж моўная, культурная, псыхалягічная і этнаграфічная адметнасьць беларусаў-каталікоў на Беласточчыне не ўратавала іх ад татальнай асыміляцыі. Спрацавала даўна яшчэ закручаная спружына: каталік — значыць паляк. І дзеля сьцьверджаньня гэтае праўды людзі пакінулі мову, культуру, усё роднае і непаўторнае, што атрымалі ад сваіх продкаў.

Урэшце, улады не адное стагодзьдзе дапамагалі ім зрабіць гэта, а паставіла канчатковую кропку польская адукацыя. Жывуць праваслаўныя беларусы ў Польшчы — гэта нашыя браты па крыві. Маюць свае цэрквы, выдаюць беларускамоўную рэлігійную літаратуру. Яны там — меншасьць, таксама як і мы, каталікі, на Беларусі. Дык, мабыць, і таму яшчэ мы павінны шанаваць і разумець адзін аднаго.

*Вацлаў Калінковіч*




У 1992 г. Беларуская Каталіцкая Грамада выдала нотны зборнік «Касьцельныя песьні» для зьмешанага хору, укладзены арганістам касьцёла сьв.Тройцы, што на Залатой Горцы ў Менску, Уладзімерам Неўдахам. Пад адной вокладкаю сабрана 63 песьні, разьмешчаных згодна з каталіцкім календаром: песьні на Божае нараджэньне, на Вялікі Пост, велікодныя, эўхарыстычныя, у гонар найсьвяцейшай Панны Марыі і г.д.

Хто трымаў маленькія і таненькія касьцельныя сьпеўнічкі ранейшых часоў, а менавіта сьпеўнік В.Гожэльнярскага «Касьцельныя песьні» (Пг., 1917) і «Беларускі духоўны сьпеўнік» А.Клімовіча і Г.Піхуры (Вільня—Лёндан, 1980—89), той зразумее пачуцьці беларусаў-каталікоў, якія атрымалі важкі нотны сшытак.

Апроч выбраных тэкстаў і мэлёдыяў, пададзеных у вышэйзгаданых зборнічках, у новы сьпеўнік увайшла большая частка збору нотаў, захаваных і прапанаваных кс.У.Чарняўскім.

У музычным хрысьціянскім жыцьці на Беларусі выданьне «Касьцельных песьняў» — бясспрэчная падзея.

Трэба дадаць, што сьпеўнік мае ўдалае мастацкае афармленьне, выкананае мастаком У.Вішнеўскім.

Спадзяемся, гэты сьпеўнік ня будзе апошнім у беларускім каталіцкім сьвеце, бо шмат яшчэ ходзіць па руках як арыгінальных, так і перакладных песень, якія пры пэўнай апрацоўцы дазволяць насыціць попыт на беларускае сьпеўнае слова ў нашых касьцёлах.

Асобная праблема, якую закранула выданьне гэтага зборніка — багатая каталіцкая музычная спадчына, якая засталася нам у рукапісных нотных зборах і якая чакае яшчэ свайго дасьледаваньня і асэнсаваньня, бо без яе цяжка ўявіць сабе ўвесь абсяг старажытнай беларускай культуры.




Яшчэ адна кніжка, выпушчаная выдавецтвам Беларускай Каталіцкай Грамады зьявілася сёлета. Гэта зборнік вершаў гарадзенскай паэткі, ляўрэата дзяржаўнай прэміі Беларусі, **Дануты Бічэль-Загнетавай — «Божа мой, Божа»**. У пэўным сэнсе яго можна назваць этапным для ўсёй беларускай літаратуры. Як кароста, з цела нашай літаратуры злазіць луска сацыялістычнага рэалізму, і непазьбежна паўстае пытаньне далейшай арыентацыі.

У той час, як слабейшыя духам творцы яшчэ толькі намацваюць свой шлях, Данута Бічэль-Загнетава нязмушана крочыць па ім. О, як гэта няпроста, пісаць таленавітыя вершы! І калі ёсьць гэты дар у чалавека — дык пэўна ж, Божы дар.

Паэтка шчыра выказвае ўсё тое, што ляжыць у яе на душы. І мы бачым яе праўдзівую веру ў Пана Бога, у Яго міласэрнасьць, спагаднасьць і шчодрасьць. Мы бачым яе любоў да Радзімы-Беларусі, яе боль за трагічны лёс нашае Бацькаўшчыны. Мы адчуваем замілаваньне спадарыні Дануты сваёй малой радзімай — родная вёскай, яркімі ўспамінамі вясковага дзяцінства.

Паэтка вольна піша пра набалелае і высьпелае ў сэрцы, і перад намі адчыняецца цэлы чалавечы сусьвет з яго прыватнымі духоўнымі і нацыянальнымі праблемамі, якія, тым ня менш, з-за сваёй натуральнасьці, зьяўляюцца надзвычай цікавымі для ўсёй хрысьціянскай цывілізацыі.

Нямала вершаў зборніка ўяўляюцца мне бездакорнымі і дасканалымі, адразу пісанымі як бы для доўгага жыцьця. Пераклады паэткі малітваў і псальмаў Францішка Асызскага — цудоўныя. Астатнія творы ўдала дапаўняюць агульную карціну гэтага пульсуючага, зьменлівага жыцьця.

Сёньняшняя «ўседазволенасьць» у беларускай літаратуры часта паказвае, што шмат хто з ранейшых каралёў аказаўся, па-сутнасьці, несапраўдным, бо ня мае за душой нічога. Але будзем існці наперад. Будзем глядзець у будучыню, будзем вучыцца размаўляць з Панам Богам, як умее гэта рабіць паэтка Данута Бічэль-Загнетава.

Апошнім часам у польскім пэрыядычным друку, а таксама ў асобных манаграфічных выданьнях даволі актыўна і шырока разглядаецца гісторыя, а таксама сучаснае жыцьцё рыма-каталіцкага касьцёлу на Беларусі. Адное з такіх выданьняў — манаграфія А.Глебовіча **«Kościoł w niewoli»**. (Warszawa, 1991. 148 s.). У гэтай працы аўтар даволі прафэсыйна, прыводзячы фактычныя дадзеныя, разглядае рэлігійную сытуацыю на Беларусі ў пасьляваенны час. Ён спрабуе падлічыць колькасьць ксяндзоў, якія пасьля вайны засталіся на Беларусі, а таксама коратка прасачыць іхні далейшы лёс. Прыводзяцца прозьвішчы сасланых, асуджаных і загінуўшых сьвятароў.

А.Глебовіч вызначае некалькі пэрыядаў у рэлігійным жыцьці на Беларусі, зьвязаных найперш з адносінамі уладаў да касьцёлу і да сьвятарства: 1944-45, 1946-48, 1949-53, 1954-59, 1960-69, 1970-79,1980-89 гады. Нам здаецца, што падзел трох апошніх пэрыядаў на дзесяцігодзьдзі не зусім апраўданы. Аўтар падае сьпіс памёрлых на Беларусі ксяндзоў з 1945 г. Іх 137. А ксяндзоў, якія адсюль выехалі — 40. У 1989 г. на Беларусі працаваў 61 сьвятар (без уліку місыянэраў). У манаграфіі прыводзіцца сьпіс парафіяў з адрасамі і прыкладаецца мапа з пазначанымі дзейнымі парафіямі.

Цікаваю, на наш погляд, уяўляецца спроба аналізу А.Глебовічам нацыянальна-моўнай сытуацыі сярод каталікоў на Беларусі: «Ажыўленьне кантактаў каталіцкага касьцёлу на Беларусі з Польшчаю, узрастаньне нацыянальнай сьвядомасьці польскай меншасьці на Беларусі, пры адначасовым адраджэньні беларускага народу, прывялі ў канцы 80-х гадоў да канфлікту паміж гэтымі бакамі. Частка беларускай эліты як з Менску, так і з эміграцыі, абвінаваціла касьцёл у імкненьні да сьвядомай палянізацыі вернікаў. Пытаньнем для спрэчак сталася перадусім мова літургіі, набажэнстваў, мова, ужываная штодзённа ў сьвятынях, якая ў вялізнай большасьці польская. Невядомыя,

аднак, пратэсты саміх зацікаўленых у гэтай справе вернікаў. Хутчэй нааддварот, калі кс.У.Чарняўскі, пробашч з Вішнева, што каля Валожына, увёў беларускую мову ў літургію, вернікі гэтаму чынна супраціўляліся».

Актыўнае ўвядзеньне беларускай мовы ў сьвятыні за апошнія пару гадоў на Беларусі сьведчыць пра адваротнае. І вернікі ёсьць, якія просяць імшу па-беларуску, і асаблівых канфліктаў на гэтай глебе няма. Як кажуць расейцы, «каков поп, таков и приход». Гэтак і ў нас. Іншая справа, як ксяндзы ў сваёй большасьці паставяцца да працэса адраджэньня беларускай мовы, які, можна пэўна сказаць, закрануў без выключэньня ўсе галіны культуры, адукацыі на Беларусі і за што зацята будзе змагацца беларуская інтэлігенцыя.

*А.К.*

# IL PENSIERO CHRISTIANO 1993 №3 (214)

## La rivista della Associazione Cattolica Bielarussa

SOMMARI O



Nomi propri bielarussi sono presentati secondo l'ortografia bielarussa

# CHRISTIAN THOUGHT 1993 №3 (214)

**The journal of Belarusan Roman Catholic Society**

SUMMARY

The issue starts with theological work by father Leū Haroška *The Soul* first published in Paris in 1948. **p.3**

An extract from the poem *Jesus Christ* by Lavon Słučanin, a former prisoner of Stalin's camps. **p.24**

Priest Uładzisłaū Čarniaūski an abbot of the church in Višnieva in Central Belarus can be with no exaggeration called a living legend of the Belarusan Catholicism. In his talk with Aleś Bialacki he speaks about his fate and service. **p.43**

Poems by Jury Humianiuk. **p.64**

The first part of the essay by Augustin Auffray deals with the childhood of saint Jovanni Bosko (translated by Aleś Čobat). **p.67**

A conceptual article by Juraś Šaūcoū presents a new interpretation of the problem of correlation of the Christian and non-Christian in modern culture of Belarus. **p.78**

Adam Maldzis reveals for the readers two religious poems of the 18th century. **p.83**

The figure of saint Augustine, his philosophical searches attract the attantion of Siarhiej Kupcoū. **p.89**

Uładzimier Nieūdach researches *The Organ Culture in Belarus*. **p.97**

The work *The Union Church in the end of the 17th — the beginning of the 19th centures* by Anatol Hryckievič is rich in historical facts. **p.118**

There is the final part of fathe book Adam Stankievič *The Stories from the History of Belarus for the School and the People* under the heading *The Eternal.* **p.133**

There are dozens of Catholic sanctuaries on the territory of the former Russian Empire — even up to Sakhalin. Who built them? What aspect did they have? This is what Jaūhien Šuniejka speaks about in his note *Into the infinite distance.* **p.165**

The acquaintance with the catholic life in France has produced contradictory impressions on an Orthodox seminarian Aleś Karol. **p.177**

Reviews of the new religious publication. **p.185**

Belarusan proper names given according to Belarusan spelling

# MYŚL CHRZEŚCIJAŃSKA 1993 № 3 (214)

**Pismo Białoruskiej Gromady Katolickiej**

TREŚĆ



Białoruskie imiona własne podają się według łacinicy białoruskiej

# KRIŠČIONIŠKA MINTIS 1993 № 3 (214)

**Baltarusių Katalikų Hramados (Sambūrio) leidimas**

## REZIUMĖ

Numeris prasideda kunigo Levo Haroškos teologiniu darbu «Goda», kuris pirmą kartą išspausdintas atskira brošiūra 1948 metais Paryžiuje. **p.3**

Ištrauka iš buvusio stališkųjų lagerių kalinio Levono Slučanino poemos «Jėzus Kristus». **p.24**

Višnievo bažnyčios (Centrinė Baltarusija) kleboną Uladislavą Čarniauskį be perdėjimo galima pavadinti baltarusių katalikybės gyvąja legenda. Pokalbyje su Alesiumi Bialeckiu jis pasakoja apie savo likimą ir dvasinį tarnavimą. **p.43**

Jurijaus Humianiuko eilėraščiai. **p.64**

Augustino Aufrajaus apybraižos pirmojoje dalyje pasakojama apie Jono (Džovani) Bosko vaikystę (Alesio Čobato vertimas). **p.67**

Jurasio Šaucovo konceptualinis straipsnis verčia naujaip pažvelgti į krikščioniškojo ir nekrikščioniškojo pradų santykių problemą šiolaikinėje Baltarusijos kultūroje. **p.78**

Adomas Maldis pateikia plačiai auditorijai du XVIII amžiaus religinius eilėraščius. **p.83**

Šventojo Augustino figūra, jo filosofiniai ieškojimai domina Serhiejų Kupcovą. **p.89**

Uladimieras Nieudachas tyrinėja baltarusių vargonų kultūrą. **p.97**

Turtingas faktais Anatolio Hrickevičiaus tyrinėjimas «Unitų bažnyčia XVII amžiaus pabaigoje — XIX amžiaus pradžioje». **p.118**

Kun.Adomo Stankevičiaus knygos «Apsakymai iš Baltarusijos istorijos mokykloms ir tautai» pabaiga. **p.133**

Dešimtys katalikiškų šventovių randasi buvusios Rusijos imperijos žemėse — iki pat Sachalino. Kas jas pastatė? Apie tai pasakoja Jauhienas Šuneika straipsnelyje «Į begalinį tolį». **p.165**

Pravoslavų seminaristui Alesiui Karoliui prieštaringą įspūdį sukelia susipažinimas su Prancūzijos katalikiškuoju gyvenimu. **p.177**

Recenzijos apie naujus religinius leidinius. **p.185**

Baltarusių asmenvardžiai duodami pagal baltarusišką skambėjimą

# ХРИСТИЯНСЬКА ДУМКА 1993 №3 (214)

## Журнал Білоруської Католицької Громади

## РЕЗЮМЕ

Відкривається номер теологічною роботою отця Льва Гарошки «Душа», яка вперше вийшла брошурою в 1948 р. у Парижі. **с.3**

Відривок з поеми «Ісус Христос» Лявона Случаніна, бувшого в'язня сталінських таборів. **с.24**

Ксьондза Уладзіслава Чарняуского, настоятеля вішнєвського костьолу (Центральна Білорусь) без перебільшення можна назвати живою легендою білоруського католицизму. Про свою долю і служіння він розповідає у розмові з Алєсєм Бяляцкім. **с.43**

Вірші Юрия Гумєнюка. **с.64**

У першій частині нарису Аугустина Ауфрая розповідається про дитячі роки життя святого Івана (Джовані) Боска [переклад Алєся Чобата]. **с.67**

Концептуальна стаття Юрася Шауцова примушує по-новому подивитись на проблему співвідносин християнського и нехристиянського початків у сучасній культурі Білорусі. **с.78**

Адам Мальдзіс відкривае широкому колу читачів два релігійні вірші XVIII ст. **с.83**

Постать святого Августина, його філософські пошуки притягують увагу Сяргєя Купцова. **с.89**

Уладзімєр Нєудах досліджує органну культуру на Білорусі. **с.97**

Багата на фактологію праця Анатоля Грицкєвіча «Греко-католицька церква в кінці XVII — початку XIX ст.» **с.118**

Закінчення книжки кс.Адама Станкєвіча «Оповідання з історії Білорусі для школи і народу». **с.133**

Десятки католицькіх храмів стояли на землях бувшої Російської імперії — аж до Сахаліна. Хто їх будував? Яке обличчя вони мали? Про це розповідає Яугєн Шунєйка у нотатці «У безмежну даль» **с.165**

Суперечливі враження викликає ознайомлення з католицьким життям у Франції у православного семінариста Алєся Кароля. **с.177**

Рецензії на нові релігійні видання. **с.185**

Білоруські власні назви передаються в білоруському звучанні.

Заснавальнік і выдавец Беларуская Каталіцкая Грамада

Рэдактар Вітаўт Чаропка

Стыль-рэдактар Зьміцер Саўка
Набор і карэктура Марыя Саўка
Мастак Мікола Рыжы
Фотарэпрадукцыі Віталь Савіч
Адрас рэдакцыі: 220029, Беларусь, Менск,
вул.М.Багдановіча 7а. Тэл.34-07-61
Нумар змакетаваны ў Выдавецтве «Наша Ніва» (Вільня)
Ліцэнзыя 642. Падпісана да друку 27.09.1993
Друк МП «Полімед», Менск, вул.В.Харужай 13
Афсэтны друк. Замова № . Наклад 3000 асобнікаў
Цана па дамоўленасьці